Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ

## ШТОМЕСЯЧНАЯ СТУДЭНЦКАЯ ЧАСОПІСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
БРЫТА, КАЦЭНБОГЕНА, КРЫНІЦКАГА, ЛЯЎКОВА і ШАПАВАЛАВА
(па альфабэту)

ЛІСТАПАД 1925 г.

№ 7



Орган Цэнтральнага бюро Пролетарскага студэнцтва Беларусі і Цэнтральнага Кіраўніцтва Беларускіх зямляцтваў г. Масквы
МЕНСК—1925



У Крэмлёўскай сьцяны яшчэ адна магіла **МІХАІЛА ВАСІЛЬЕВІЧА ФРУНЗЭ** старога бальшавіка—ленінца, правадыра і арганізатара Чырвонае Арміі.

Тав. Фрунзэ прайшоў доўгі шлях жыцьця: усе этапы барацьбу з царызмам—катаргу, ссылку, турму; усе этапы гэроічнай барацьбы Чырвонай Арміі з ворагамі працоўнае клясы і этапы яе будаўніцтва ў мірных абставінах.

Але ня доўга так працаваў Фрунзэ. Організм ня вытрымаў яго кіпучае працы—

**ФРУНЗЭ ПАМЁР**

і мы над яго магілай клянемся працягваць справу без пары памёршага барацьбіта.

Няхай жыве РКП, сынам якое быў нябошчык Фрунзэ.

Няхай жыве Чырвоная Армія, правадыром і организатарам якое быў т. Фрунзэ.



Конфэрэнцыя комуністычнага студэнцтва, якая адбылася пры ЦК КПБ 9—11 лістапада 1925 году.

# КПБ і інтэлігэнцыя.

Паступовасьць нашага гаспадарчага і культурнага росту надзвычайна вялікая. Пры данай паступовасьці перад партыяй стаіць асабліва вострая задача падлічваць і рабіць уплыў на напрамак гэтага росту. Часам мы вельмі захапляемся вынікамі нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, выпускаючы з-пад увагі неабходнасьць аналізаваць яго з пункту гледжаньня нашых задач і пэрспэктыў.

Між тым, абставіны і ўмовы, у якіх прыходзіцца працаваць Компартыі Беларусі, складаныя і сваеўласьцівыя. Асабліва гэта датычыцца правядзеньня асноўных задач партыі, умацаваньня дыктатуры пролетарыяту і яснага ўяўленьня пэрспэктыў соцыялістычнага будаўніцтва.

Наша пролетарская база не даволі моцная. Рабочая кляса колькасна невялікая і ў большасьці сваёй як па пахаджэньні, так і экономічна, зьвязана з дробна-буржуазным асяродзьдзем і саматужнай вытворчасьцю. Усё гэта ўскладняецца яшчэ нацыянальным момантам. Значную частку рабочых Беларусі складаюць яўрэі. Большая частка гэтае масы ня ведае вёскі. Такім чынам, слой, праз які партыі прыходзіцца праводзіць дыктатуру пролетарыяту, зьдзяйсьняць пролетарскі кірунак у політыцы і, асабліва, забясьпечваць кіраўніцтва рабочае клясы ўсёю сялянскаю масаю, робіцца яшчэ менш значным. У гэтым і захоўваецца складанасьць беларускіх умоў дзеля працы партыі.

У галіне гаспадарчай ацэнка нашых дасягненьняў часта робіцца гэтакімі словамі: „Наш край робіцца багатым і культурным", альбо „Наш край павінен зрабіцца багатым і культурным". Гэта, зразумела, верна, але які́м павінен быць зьмест гэтага багацтва і культуры—ня ўсімі ясна разумеецца і ўсьведамляецца. За чыста надворным гаспадарчым ростам шмат кім пакідаецца ў цені асноўная задача нашай політыкі—коопэраваньне гаспадаркі, уцягваньне яе дробна-буржуазных элемэнтаў, сялянства і саматужнікаў у агульную сыстэму соцыялістычнага будаўніцтва. Калі мы прааналізуем, скажам, рост сельскагаспадарчага крэдыту, то апошні год яго росту дакладна нам пакажа, што процант крэдытаваньня незаможных гаспадарак адносна памяншаецца, а больш моцных—павялічваецца. Гэта можа быць прыкладам скажэньня партыйнай лініі ў такіх важных пытаньнях, як крэдытаваньне бяднейшых сялянскіх гаспадарак.

Падобны процэс адбываецца і ў культурным будаўніцтве. У апошнія часы мы часта паўтараем словы тав. Сталіна аб культуры „нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу" між тым, як на справе ў нас, у Беларусі, сярод розных груп інтэлігэнцыі нагледжваюцца факты скажэньня гэтае лініі, неразуменьне політыкі партыі ў культурным будаўніцтве. Часта, асабліва ў літаратуры, можна сустрэць думкі аб сярмяжнай, нацыянальна прыгнечанай Беларусі, з яе нацыянальна не асазнаўшым сябе сялянскім насельніцтвам і менш усяго аб Беларусі, прыдаўленай уціскам капіталізму, аб клясавым прыгнечаньні, аб соцыяльнай няроўнасьці.

У нас маецца глеба дзеля выгадаваньня чыста нацыянал-дэмократычных настрояў; тым важней і сур'ёзьней робіцца задача разуменьня

і правільнага правядзеньня лініі партыі ў пытаньні культурнай політыкі. Тым больш гэта важна, што некаторыя элемэнты культуры, і пры тым вельмі важныя, мы яшчэ прымушаны будаваць спачатку, як, напрыклад, мову. Яе будаваць мы павінны грунтуючыся на сучасным сялянскім матэрыяле. Між тым выходзіць, што значная частка тэрмінолёгічнай працы вядзецца на матэрыяле ранейшых стагодзьдзяў. Гэта значыць, што наша культурнае будаўніцтва ў значнай меры грунтавалася на інтэлігэнцыі. Патрэбы шырокіх рабочых і сялянскіх мас абслугоўваліся не здавальняюча. Задача партыі—накіроўваць культурнае будаўніцтва як раз у гэты бок.

У процэсе гэтага будаўніцтва ў гаспадарча і культурна-адсталым краі інтэлігэнцыя займае вялікае месца; дзеля гэтага пытаньне аб кіраўніцтве інтэлігэнцыяй з боку компартыі і рабочае клясы Беларусі асабліва важнае.

Па свайму складу беларуская інтэлігэнцыя не аднолькава. Яе можна падзяліць на тры групы: 1) Пролетарскую інтэлігэнцыю, якая на справе паказала, што яна стаіць на пункце гледжаньня рабочае клясы і дыктатуры пролетарыяту. Большасьць гэтае інтэлігэнцыі стаіць у шэрагах партыі і комсамолу. Яны вышлі ў большасьці з рабочае клясы. Гэты слой інтэлігэнцыі зьяўляецца ідэолёгічнай верхавінай працоўнае клясы ў галіне культурнага будаўніцтва. 2) Інтэлігэнцыю, якая йдзе нага ў ногу з компартыяй пад яе кіраўніцтвам, умацоўвае позыцыі працоўнае клясы і дыктатуры пролетарыяту. Яна складае большасьць. Сюды можна аднесьці большую частку настаўніцтва, студэнцтва, агрономаў, дактароў, працаўнікоў асьветы, друку, навуковых працаўнікоў. Гэта група прызнае кіраўніцтва компартыі і рабочае клясы. 3) Колькасна малую нацыянал-дэмократычную інтэлігэнцыю з зусім выяўленай нацыянал-дэмократычнай ідэолёгіяй. На словах сярод паасобных яе прадстаўнікоў можна сустрэць савецкія настроі, словы падтрыманьня дыктатуры пролетарыяту, па сутнасьці-ж, калі справа даходзіць да больш глыбокага азначэньня яе позыцыі, мы сустракаемся з адмаўленьнем кіраўніцтва компартыі і дыктатуры працоўнае клясы, заменай яе чыста нацыянал-дэмократычнай позыцыяй.

Ідэолёгія гэтай групы зыходзіць да таго, каб кіраўніцтва компартыі замяніць сумеснай працай з партыяй і працоўнай клясай, узяць на сябе адпаведнасьць за будучыну, тады, як гэту адпаведнасьць у поўнай меры бярэ і толькі можа ўзяць працоўная кляса, прыцягваючы да справы будаўніцтва інтэлігэнцыю, утвараючы ўсякім чынам да яе давер'е і прамасьць таварыскіх адносін.

Ня варта таксама выпускаць з-пад увагі, што сярод гэтай групы інтэлігэнцыі ёсьць прадстаўнікі з яскрава выяўленымі варожымі адносінамі да дыктатуры пролетарыяту і кіраўніцтва компартыі, якія стаяць на буржуазна-соцыял-шовіністычнай пляцформе.

Вядома, нельга ставіць знака роўнасьці між паасобнымі прадстаўнікамі гэтае нацыянал-дэмократычнае групы, тымі, хто жадае дапамагчы савецкай уладзе, і тымі, якія займаюць у адносінах да яе яўна варожую позыцыю. У першым выпадку магчыма сапраўднае імкненьне дапамагчы партыі ў будаўніцтве, у другім—мы будзем мець спробу памяшаць яму, альбо накіроўваць у буржуазна-нацыяналістычны бок. Але нават пры наліччы адносін з добрымі жаданьнямі да партыі мы не павінны забываць тую агульную тэндэнцыю, якая заўважваецца ў настроях прадстаўнікоў апошняй групы ў цэлым і стаіць у тым,

каб паслабіць кіраўніцтва партыі і працоўнае клясы, каб ініцыятыву ў справе будаўніцтва і адпаведнасьць за будучыну ўскласьці на інтэлігэнцыю. Ці значыць гэта апошняе, што партыя ў якой-небудзь меры павінна пераглядзець свае адносіны да інтэлігэнцыі? Ніколькі. У восень гэтага году партыя выказала свае адносіны да інтэлігэнцыі пастановаю аб спэцыялістых.

Наша палітыка накіравана да ўтварэньня лепшых умоў для працы інтэлігэнцыі. Партыя ставіць пытаньне аб паляпшэньні яе матэрыяльнага становішча, прававых умоў, аб прыёме яе дзяцей у школы, аб паляпшэньні кватэрнага пытаньня і г. д.

Нашы політычныя задачы:

Папершае: паглыбіць уплыў партыі на ўсе слаі інтэлігэнцыі, прыцягваючы на свой бок асноўную яе масу, якая складае другую групу, утвараючы для яе абстаноўку, спагадную для творчай працы пад кіраўніцтвам компартыі і савецкай улады.

Падругое: няўхільна выяўляць рэакцыйнасьць нацыянал-дэмократычных, шовіністычных імкненьняў трэцяе групы інтэлігэнцыі, ускрываць іх абмылкі, выяўляць сапраўдную сутнасьць гэтых настрояў.

Патрэцяе: ні ў якай меры не дапушчаць такога становішча, каб прамая крытыка абмылак інтэлігэнцыі разумелася, як жаданьне адпіхнуць яе ад працы, як нежаданьне працаваць з гэтай групай інтэлігэнцыі.

Пачацьвертае: умацаваць шэрагі нашай пролетарскай інтэлігэнцыі—першае групы, на якую ўскладаецца задача ўтварэньня таварыскіх абставін і цеснага супрацоўніцтва для сумеснай працы з інтэлігэнцыяй, якая жадае працаваць пад кіраўніцтвам компартыі, жадае ўмацняць позыцыю працоўнае клясы і дыктатуры пролетарыяту.

У нашым культурным будаўніцтве неабходна зьвярнуць вельмі значную ўвагу на зьмест нашай працы. Неабходна, каб у творчай працы інтэлігэнцыі ён займаў адно з важных месц. Трэба працаваць так, каб не выпускаць з-пад увагі пэрспэктыў соцыялістычнага будаўніцтва і ўмацаваньня дыктатуры пролетарыяту, не зацямняць нацыянальнай формай пролетарскага зьместу ў беларускім культурным будаўніцтве.

---



К. Мажэйка.

# Студэнцтва і профсаюзы.

З кожным годам склад нашага студэнцтва мяняецца. Зараз нашы пролетарскія кузьні-рабфакі маюць у сваіх сьценах ня больш 10, а то 5—3 проц. інтэлігэнцыі, а ўсю рэшту складаюць рабочыя і сяляне. Таксама ў ВНУ і тэхнікумах: большую палову студэнцтва складаюць рабочыя і сяляне.

Але гэта яшчэ не даволі, ня гледзячы на тое, што ў нашых навучальных установах вучацца рабочы і селянін, і самі навучальныя ўстановы знаходзяцца ў руках працоўных.

Ня трэба выпускаць з-пад увагі тое, што нашы вучні па свайму грамадзкаму разьвіцьцю часта стаяць вельмі нізка, што яны хапаюцца за першую, якая ім пападзецца, кнігу, што яны ловяць кожнае новае слова; і калі ў першыя часы ім сустрэнуцца людзі, якія ўстаўляюць палкі ў калёсы соцыялістычнай машыны, то першае ўражаньне нашай моладзі можа адбіцца і на ўсім далейшым яе жыцьці. Шмат хто скажа, што гэтага цяпер ня бывае, што гэта прашло. Але калі гэта было раней, то і цяпер яно яшчэ ня вывялася. Розьніца толькі ў тым, што раней гэта вылівалася ў адчыненую форму, а цяпер гэты процэс адбываецца патайна.

Ня трэба забываць, што існаваньне азначае сьвядомасьць; гэта старая ісьціна, ужо даўно даказаная. А жыцьцё вучняў ня тое, што жыцьцё рабочых і сялян. Чым растлумачыць такое зьявішча, што ўсе, хто канчае вышэйшыя й сярэднія навучальныя ўстановы, імкнуцца ўсталявацца ў гарадох, вялікіх цэнтрах, што рэдка хто хоча ехаць у вёску, на фабрыку, альбо завод, якія знаходзяцца далёка ад цэнтру? Гэта лішні раз адзначае, што студэнты з сялян і рабочых самі, між іншым, значна мяняюцца.

І тут вялікую ролю павінны сыграць нашы профсаюзы. Трэба асабліва адзначыць, што дасюль нашы профорганізацыі вельмі мала зварачалі ўвагі на студэнцтва ў сэнсе ўцягваньня яго ў практычную працу прадпрыёмстваў. Трэба паставіць справу так, каб кожны вучань меў магчымасьць атрымліваемыя ім тэорытычныя веды ўжываць на практыцы. Трэба, каа тэорыя йшла поруч з практыкай, тады кожны вучань будзе бачыць, што ён вучыцца не дзеля таго толькі, каб умець працаваць. Не дзеля таго, каб лепш пабудаваць сваё жыцьцё, а дзеля таго, каб палепшыць жыцьцё ўсіх працоўных. Практычная праца на прадпрыёмстве ня дасьць магчымасьці вучню адарвацца ад масы; гэта будзе мець большы ўплыў на ідэолёгію вучня.

Профсаюзы ў гэтым пытаньні павінны стаць цэнтрам, які рэгулюе навуку і працу. Практычны досьлед, злучаны з практычнымі ведамі, паляпшае жыцьцё і пасоўвае наперад навуку. Дзеля гэтага неабходна, каб профорганізаванае студэнцтва й профсаюзы йшлі пад лёзунгам — сувязі тэорыі навукі з практыкай жыцьця. У гэтым напрамку трэба працаваць нашым профсаюзам, да гэтага павінна імкнуцца наша студэнцтва. У гэтым увесь сэнс нашых жыцьцёвых імкненьняў.

---

В. Скардзіс.

# Вынікі працы Пленуму ЦБ Пролетстуда.

*(15-16 лістапада).*

З часу апошняга пленуму прашло каля пяці месяцаў. Гэты чарговы пленум, у складзе сваім пашыраны, быў скліканы з некаторай запозьненасьцю. Але гэта тлумачыцца значнай колькасьцю об'ектыўных прычын, як то: 1) дзейнасьць студорганізацый у часе летніх вакацый, з разьездам студэнцтва на адпачынак, была спынена, 2) за гэты-ж час Наркамасьветы праводзіў рэорганізацыю сельска-гаспадарчае асьветы, дзякуючы чаму студорганізацыі навучальных устаноў сельска-гаспадарчага тыпу павінны былі таксама перажыць рэорганізацыйны процэс, 3) ЦБ, зрабіўшы неабходныя падрыхтоўчыя крокі, толькі нядаўна закончыла справу па аб'яднаньні ўсіх тэхнікумаў, і пагэтаму мела замер толькі на пленуме абгаварыць важнейшыя пытаньні, якія выцякаюць з памянёнае справы, і канчаткова аформіць будову студорганізацый провінцыяльных тэхнікумаў. Апошнім таксама тлумачыцца і тое, што на пленуме прысутнічалі прадстаўнікі амаль што ўсіх тэхнікумаў і што ў парадку дня стаялі інформацыйныя справаздачы з месцаў.

На пленуме стаялі наступныя пытаньні: 1) даклад прадстаўніка ЦСПСБ аб профэсыянальнай працы сярод студэнцтва, 2) інформацыя Галоўпрофасьветы, 3) даклад рэдколегіі студэнцкае часопісі „Чырвоны Сьцяг“ і 4) інформацыя студорганізацый: Дзяржаўнае Сельска-гаспадарчае Акадэміі, Віцебскага Горбюро пролетстуда, Полацкага і Магілеўскага пэдтэхнікумаў. У межах памянёнага парадку дня і абгаварваліся пастаўленыя пытаньні. Аднак, галоўнай задачай, якая стаяла перад пленумам, была: а) праглядзець агульную лінію працы профэсыянальных аб'яднаньняў студэнцтва і адзначыць тыя недахопы, якія маюць месца ў даным напрамку, і б) канчаткова аформіць будову студорганізацый тых навучальных устаноў, стдэнцтва якіх уключана ў Беларускае аб'яднаньне пролетарскага студэнцтва. Гэтыя пытаньні былі коордынальнымі, яны найбольш цікавілі ўсіх удзельнікаў пленуму, у гэтым напрамку ёсьць яшчэ многа хібаў, аб якіх безадкладна трэба пагаварыць. Вось чаму таксама мы ня будзем спыняць увагі ў гэтым артыкуле на інформацыі Галоўпрофасьветы, бо пытаньні будаўніцтва профтэхнічнае асьветы ня раз ужо высьвятляліся ў нашым друку.

Прадстаўнік ЦСПСБ, тав. Рубінштэйн, па пытаньні аб профэсыянальнай працы сярод студэнцтва, адзначаючы галоўныя моманты яе, прадасьцерагае студэнцтва ад магчымага адрыву ад профэсыянальных саюзаў. У дзейнасьці кіруючых студэнцкіх органаў павінна быць самае рашучае імкненьне да больш шчыльнай сувязі з профорганамі. І гэта зусім зразумела. Студэнты, якія ня пройдуць пролетарскай школы профэсыянальнага будаўніцтва, якія не атрымаюць клясавага выхаваньня, бязумоўна, ня змогуць у сваёй будучай практычнай чыннасьці стаць адпаведнымі працаўнікамі пролетарскай дзяржавы. А працы для студэнцтва, якое ўваходзіць у профсаюзы, шмат. У сучасны момант адчуваецца недахоп культурных працаўнікоў сярод рабочых і

сялянскіх мас. І студэнцтва павінна зьявіцца тэю культурнаю базаю, якая дасьць пэўную магчымасьць, каб разгарнуць гэтую працу ў патрэбным маштабе. Мінулыя гады, праўда, нам ужо далі ў гэтым напрамку цэлы шэраг дасягненьняў. У далейшым трэба паглыбляць усе галіны грамадзкай працы студэнцтва, трэба выкарыстоўваць усе досьледы, трэба заняцца выпрацоўкай больш рацыянальных, больш жыцьцёвых мэтодаў працы. Гэта адносна працы па-за сьценамі школы.

Але ня менш важныя абавязкі стаяць перад кожным студэнтам-сябрам профсаюзу і ў сьценах школы. Вывучаць ролю і значэньне рабочае клясы, апраўдваць сябе сваёй карыснай чыннасьцю перад вачыма працоўных мас, падрыхтоўвацца да практычнай працы,—вось тыя мэты, да якіх трэба імкнуцца студэнту, калі ён атрымлівае яшчэ адукацыю ў школе. Ажыцьцяўленьне ўсяго гэтага належыць студорганізацыям. Перад профкомамі, профячэйкамі, профупаўнаважанымі і, нарэшце, перад выканаўчымі бюро, такім чынам, стаяць вялізарныя задачы і ім патрэбна будзе перамагчы цэлы шэраг затрудненьняў, каб утварыць належныя ўмовы для зьдзяйсьненьняў пастаўленых мэтаў па арганізацыі, у закранутым сэнсе, выхаваўчай працы ў школе. Тут неабходна падкрэсьліць, што студэнцкія арганізацыі, асабліва арганізацыі провінцыяльных навучальных установ, да гэтага часу яшчэ занадта слабыя і, можна сказаць, знаходзяцца ў процэсе афармленьня, бо яны толькі нядаўна далучыліся да ўсебеларускага аб'яднаньня пролетстуда. У мінулым яны былі прадстаўлены самым сабе і нават у іх будове назіраецца надзвычайная размаітасьць, адсутнасьць плянавасьці ў працы, адсутнасьць сувязі з мясцовымі профорганамі, а часамі яны і не ўяўлялі сабе добра зьместу і мэтаў працы. Але з уваходам іх у аб'яднаньне можна спадзявацца, што дэфэкты чыста арганізацыйнага характару скора павінны быць зьнішчаны, і студэнцтва тэхнікумаў пабудуе свае арганізацыі згодна існуючых палажэньняў, апрацаваных цэнтральнымі студэнцкімі ўстановамі і зацьверджанымі вышэйшымі профсаюзнымі органамі. А мы з практыкі ведаем, што адпаведная будова арганізацый дапамагае тэмпу і зьместу працы. Такія недахопы, як шматлікасьць студорганізацый у тэхнікумах, як адсутнасьць увязкі ў працы гэтых арганізацый, пасьля невялічкай, але вельмі карыснай і патрэбнай опэрацыі, — будуць ліквідаваны.

На пленуме было яскрава адзначана, што ў большасьці навучальных установ профэсыянальная праца студэнцтва ў належных разьмерах яшчэ не разгорнута. Гэта, бязумоўна, вялікі недахоп. Але выжыць яго аднаму студэнцтву немагчыма, калі ня будуць дапамагаць профорганы. Профорганізаванага студэнцтва яшчэ мала, каля 45 проц. агульнага ліку студэнцтва. Большасьць сяброў профсаюзаў сконцэнтравана па ВНУ. На тэхнікумы прыходзіцца адносна невялікая лічба; профсэкцы там малалікавыя. Аднак, слабасьць профэсыянальнай працы ў тэхнікумах тлумачыцца ня толькі малалікасьцю профорганізаванага студэнцтва, але, галоўным чынам, і тым, што патрэбнай сувязі студэнцкіх профсэкцый з адпаведнымі профорганамі амаль што ня было і кіраўніцтва з іх боку профсэкцыі не адчувалі. Пры такім зьявішчы спадзявацца на рост і разьвіцьцё профэсыянальнай працы сярод студэнцтва ня прыходзіцца. Трэба гаварыць ня толькі аб тым, каб студэнцтва стала бліжэй да профсаюзаў, але таксама і аб тым, каб профсаюзы больш цікавіліся профэсыянальным жыцьцём студэнцтва. Толькі супольнасьць можа даць здавальняючыя вынікі.

У пытаньні аб уваходзе студэнцтва ў профсаюзы да гэтага часу ёсьць шмат нявыразнасьцяй, няма ясных і пэўных формул. Калі і ёсьць агульныя прынцыпы, дык таксама патрэбнымі зьяўляюцца да іх больш дэтальныя тлумачэньні. Трэба падкрэсьліць, што для студэнцтва, асабліва студэнцтва тэхнікумаў, дзьверы профсаюзаў ледзь-ледзь не зачынены. Так, напрыклад, Акруговыя Профсаветы адмаўляюць у прыёме ў профсаюзы студэнтаў тэхнікумаў малодшых курсаў; звычайна залічваюцца толькі студэнты апошніх курсаў, да і то перад сканчэньнем школы. Ясна, што тут патрэбна нейкая тлумачэньне з боку ЦСПСБ для падпарадкаваных яму Акруговых Профсаветаў.

Наогул, па пытаньні аб профэсыянальнай працы студэнцтва, пленум адзначыў, што, „прынцыповых ухілаў ад асноўных палажэньняў дырэктываў профорганаў у працы студэнцкіх профарганізацый няма“. Аднак, разам з тым, былі падкрэсьлены тыя мерапрыёмствы, якія трэба абавязкова правесьці, каб профэсыянальную працу ў школах паставіць на нормальныя рэйкі. Першае, што трэба зьдзейсьніць, дык гэта тое, каб з боку профорганаў была зьвернута належная ўвага на профэсыянальнае жыцьцё студэнцтва, на працу яго кіраўнічых арганізацый і на яго матэрыяльнае становішча. З боку профорганаў, асабліва акруговых, назіралася нейкае ігнараваньне студэнцтвам, прыкладам кажучы, хаця-б у пытаньні разьмеркаваньня месцаў у дамы адпачынку. Профорганы таксама абышлі студэнцтва і ў справе санаторна-курортнага лячэньня.

Назіраемае аслабленьне тэмпу ў працы студэнцкіх профэсыянальных аб‘яднаньняў (Віцебскае горбюро пролетстуда) можна тлумачыць выключна адсутнасьцю матэрыяльнай базы: праца зусім не аплачвалася і працаваць было некаму. Неаднаразовыя хадайніцтвы ЦБ пролетстуда перад належнымі профорганамі аб водпуску платных адзінак для студэнцкіх профаб‘яднаньняў не далі здавальняючых вынікаў. І пленумам у рэзолюцыі па дакладу ЦСПСБ зроблена пастанова аб неабходнасьці „тэрміновага адшуканьня сродкаў, патрэбных для ўтрыманьня канцэлярый і тэхнічных працаўнікоў студэнцкіх профэсыянальных арганізацый“. Як слаба працавала Віцебскае горбюро пролетстуда, таксама нельга быць пэўным у будучай здавальняючай дзейнасьці гарадзкога бюро студэнцтва ў Магілеве, якое гэтымі днямі павінна арганізавацца, калі адпаведныя профорганы ня зьвернуць свае ўвагі.

Пленумам таксама адзначана, што профорганы да гэтага часу ня зусім зьяўляліся зацікаўленымі ў пытаньні аб высоўваньні з профарганізаванай масы студэнцтва новых кадраў навуковых працаўнікоў. Патрэбна ўвага і на тое, што студэнцкія профсэкцыі зусім ня маюць літаратуры профэсыянальнага зьместу. Вельмі пажадана, каб студэнцтва магло карыстацца хаця-б профсаюзнымі бібліотэкамі-перадзьвіжкамі.

Жадаючы ўсяго гэтага ад профорганаў, ня трэба забываць, што з свайго боку і студэнцкім профсэкцыям належыць стаць больш дзейнымі. Профсэкцыя, як асяродак пролетарскай часткі студэнцтва ў школе, павінна мець аўторытэт і ўплыў на працу іншых школьных організацый. Яна павінна цьвёрда ўявіць сабе свае мэты, павінна ўвесьці плянавасьць у працу, павінна узмацняць свой склад шляхам уцягваньня ў профсаюзы актыўнай пролетарскай вучнёўскай моладзі, адначасна стаўшы бліжэй да профорганаў.

Шмат, такім чынам, у нас яшчэ недахопаў, але студэнцкія кіруючыя органы ў цэлым ужо прабілі сабе верны шлях, і студэнцтва пачынае займаць у грамадзе тое месца, якое яму патрэбна займаць.

# ЛЕНІНІЗМ.

Мік. Шапавалаў.

## Ленін, дыктатура, дэмократыя.

„Дыктатура ёсьць улада, якая апіраецца непасрэдна на гвалт, і ня зьвязана ніякімі законамі“.

Ленін.

„Толькі той дастойны жыцьця і волі, хто кожны дзень іх працай дасягаў“.

Гётэ.

I.

Рост рабочага руху ўва ўсіх капіталістычных краёх паставіў на чаргу дня пытаньне аб зьмесьце пролетарскай рэволюцыі, г. зн. аб форме, альбо тыпе дзяржавы пераходнага пэрыоду, да якога нязьбежна павінна прывесьці рэволюцыя.

З году ў год рэволюцыйны рух узбагачваецца сваім зьместам і мацнее разьмерамі, соцыяльныя антогонізмы ўсё ясьней і відавочней запаўняюць старонкі гісторыі сучаснае грамады,—масавыя палітычныя дэмонстрацыі і забастоўкі прымушаюць капіталістых ісьці на невялікія, у межах, якія прадстаўляюцца капіталістычнай будовай, уступкі, але ўсё гэта значна абясьцэньваецца адсутнасьцю яснага разуменьня аб тэй форме грамадзкае будовы, да якое прывядзе пролетарская рэволюцыя.

Рэволюцыя павінна падвесьці вынікі ўсяму рабочаму руху, утварыць новы тып, альбо форму пролетарскае дзяржавы, якая зробіць пачатак перабудовы грамады на новых соцыялістычных пачатках. Але якой будзе гэтая дзяржава?

Задачы пролетарскай рэволюцыі складаюцца з таго, каб на працягу некалькіх гадоў зьнішчыць установы, якія абараняюць старую буржуазную будову, і замест іх утварыць новыя, якія канчаткова зломяць супраціўленьне старога рэжыму і будуць служыць клясавым інтарэсам пролетарыяту.

Рэволюцыя—гэта распад, разлажэньне ў некалькі гадоў усяго таго, што складала да тых часоў сутнасьць грамадзкага, рэлігійнага, палітычнага і экономічнага жыцьця нацыі; гэта поўны пераварот у ўстаноўленых разуменьнях і хадзячых думках, у адносінах да ўсіх складаных адносін між паасобнымі адзінкамі чалавечага стада.— (Крапоткін).

І вось, пытаньне ў тым, *якая* сіла і ўвасобленая ў *якую дзяржаўную форму*—які стан грамадзкай будовы пасьля пролетарскай рэволюцыі—раскладзе старую будову, якая грунтуецца на прынцыпах эксплёатацыі; якая сіла раскладзе ўсё складанае палітычнае, грамадзкае і экономічнае жыцьцё мінулага; якая новая будова зробіць „поўны пераварот у ўстаноўленых разуменьнях і хадзячых думках“—гэтае пытаньне доўгі час стаяла проблемай рабочага руху.

Калі ўзяць за грунт досьлед францускай рэволюцыі 1789 году—можна сказаць, што як буржуазныя, так і пролетарскія рэволюцыі падрыхтоўваюцца ў асноўным дваякім чынам: паперше—азначаным станам вытворчых сіл, і падругое—ідэёвы бок. У ідэёвай плыні соцыялістычнага руху адносна пытаньня аб дзяржаве і рэволюцыі дасюль існавала і існуе два галоўных напрамкі: першы—меншавіцкі, які прынцыпова адмаўляе рэволюцыю, які лічыць, што перабудова грамады на соцыялістычных пачатках адбудзецца ў выніку паступовае мірнае заваёвы капіталістычнае грамады, і другі—бальшавіцкі, які прызнае пролетарскую рэволюцыю неабходнай умовай для пабеды соцыялізму. Першы пераважвае ў некаторых краёх Зах. Эўропы і другі—ў Расіі.

Адзін з асновапаложнікаў навуковага соцыялізму—Карл Маркс—па пытаньні аб форме дзяржавы пераходнага пэрыоду і пролетарскай рэволюцыі кажа так:

—Між капіталістычнай і комуністычнай грамадой ляжыць пэрыод рэволюцыйнага пераварочваньня першае ў другую. Гэтаму пэрыоду адпавядае і політычны пераходны пэрыод, і дзяржава гэтага пэрыоду ня можа быць нічым іншым, апрача як рэволюцыйнай дыктатурай пролетарыяту.—

Гэта зусім ясная думка настаўніка марксыстых на працягу шэрагу гадоў скажалася яго „вучнямі“ на словах, і соцыял-здраднікамі рабочага руху на справе—меншавікамі і „иже с ними“.

Адзін з выдатнейшых правадыроў іх—Карл Каўцкі—ў сваёй брошуры „Дыктатура пролетарыяту“ (стар. 60 нямецкага выданьня) дагаварыўся нават да таго, што абвясьціў усё вучэньне „свайго“ настаўніка Маркса аб дыктатуры пролетарыяту апіраючымся на адно „слаўцо“, якое ён як-бы выпадкова зьмясьціў у сваім лісьце ў 1875 годзе. Гэтае „слаўцо“ намі пададзена вышэй.

Такім чынам, па Марксу, пролетарская рэволюцыя ёсьць неабходная ступень, якую павінны прайці рабочы рух па шляху да комунізму. Соцыяльным зьместам гэтае рэволюцыі зьяўляецца дыктатура пролетарыяту. Гэта форма альбо тып пролетарскае дзяржавы раскладзе старую капіталістычную будову і ўсё экономічнае, грамадзкае і політычаае жыцьцё, якое на ёй грунтуецца. Выказьнікамі гэтага сапраўды рэволюцыйнага боку Марксава вучэньня сталі бальшавікі—пасьлядоўцы Леніна, і сказіцелямі гэтага вучэньня—меншавікі. Сярод іх рабочы рух сустрэў спробу апраўдаць прынцыпы грамадзкае будовы буржуазных дзяржаў, адцягнуць тэрмін рэволюцыі, даказаць рабочаму, што пераход ад існуючага зараз уціску да комунізму адбудзецца без рэволюцый—паступова. Не дыктатура пролетарыяту, а дэмократыя, па сутнасьці—буржуазная, зьяўляецца для меншавікоў ідэальнай формай дзяржавы.

Відавочна, як мы маглі пераканацца, пытаньне аб дыктатуры пролетарыяту і дэмократыі цесна зьвязана з пытаньнямі рэволюцыі і дзяржаўнымі формамі пераходнага ад капіталізму да комунізму пэрыоду. Дзеля гэтага спынімся на пытаньні аб дзяржаве.

## II.

Погляды буржуазнай навукі на дзяржаву апраўдваюць яе існаваньне, прызнаюць яе „вечнай“ катэгорыяй для ўсіх ступеняй гістарычнага разьвіцьця. Погляды марксыцкай навукі проціпастаўляць гэтаму разуменьню адваротнае.

Дзяржава (а таксама яе розныя формы) ёсьць катэгорыя гістарычная ў тым сэнсе, што існуе яна не спрадвеку. Утварыўшаяся на азначаных ступенях гістарычнага разьвіцьця, яна на азначанай ступені яго і зьнікне.

Быў час, калі ўтварэньне дзяржавы было прадыктавана гісторыі характарам экономічных умоў, якія цесна зьвязаны з падзелам грамады на клясы. Дзякуючы антагоністычнасьці клясавых інтарэсаў, каб грамада і паасобныя клясы, якія яе складаюць, не змаглі згубіць сябе і тыя вытворчыя сілы, што разьвіваюцца ў клясавай барацьбе, „стала неабходнай сіла, якая зьменівала-б спатычку, трымала-б яе ў межах „парадку“. І гэта сіла, якая паходзіць з грамады, але ставіць сябе над ёю, усё больш і больш робіцца чужою для яе, ёсьць дзяржава „(Энгельс).

Уладзімір Ільліч Ленін у сваёй кнізе „Государство и революцыя“ на досьледзе шэрагу рэволюцый, галоўным чынам—1871 году, даў аналіз дзяржаўных форм і азначыў задачы рабочае клясы ў рэволюцыі. Адносна ўтварэньня дзяржавы ён кажа наступнае: „Дзяржава ёсьць вытвор—праява нязьмірнасьці клясавых супярэчнасьцяй. Дзяржава ўтвараецца там, тады і пастольку, дзе, калі і пакольки клясавыя супярэчнасьці об'ектыўна ня могуць быць зьміраны“ (стар 11).

З вышэйпададзенага выцякае, што для ўтварэньня дзяржавы неабходны раней ўсяго экономічныя ўмовы, якія абумаўляюць сабою раскол грамады на клясы з супярэчнымі інтарэсамі, і пакуль грамада ня ведала іх не магло быць і гутаркі аб утварэньні дзяржавы, бо яна была не патрэбна. Поруч з гэтым, як паказвае Ленін, ня толькі зьяўленьне клясаў зьявілася прычынай утварэньня дзяржавы, але таксама і нязьмірнасьць клясавых інтарэсаў.

Скажэньне па гэтаму аднаму з важнейшых пытаньняў марксызму ідзе па двух напрамках: шмат палітычных дзеячаў, вучоныя і правадыры розных партыйных соцыялістычных груповак не адмаўляюць, што дзяржаўныя формы сучаснае грамады і сама дзяржава ёсьць вытвор барацьбы клясаў, але на гэтым грунце яны робяць вывады аб пазаклясавасьці, альбо надклясавасьці самое дзяржавы, якая як-бы зьяўляецца органам замірэньня клясаў, незацікаўленым судзьдзёю ў спрэчках між клясамі. Такое ўпрошчанае тлумачэньне пытаньня аб назначэньні дзяржавы, яе ролі і ўтварэньні зьўляецца грубейшым скажэньнем марксызму і Ленін дае яму адпор.

— Па Марксу дзяржава ёсьць орган клясавага панаваньня, орган прыгнечаньня аднае клясы другою, есьць утварэньне парадку, які ўзаканяе і ўмацняе гэтае прыгнечаньне, зьменшваючы спатычкі клясаў. Па думцы дробнабуржуазных палітыкаў парадак ёсьць як раз замірэньне клясаў, а ня прыгнечаньне аднае клясы другою; зьменшваць спатычкі—значыць зьміраць, а не адбіраць у прыгнечаных клясаў азначаныя сродкі і спосабы барацьбы за зьвяржэньне прыгнятаючых[1]).

Што парадак, які ўстанаўляецца дзяржавай, зусім не нясе з сабою замірэньня кляс, у гэтым можна цяпер лёгка пераканацца. Гэта добра паказалі сотні паўстаньняў і рэволюцый у розных краёх сьвету, да якіх прыводзіў не „парадак“ дзяржавы, які згоджваў клясы, а „парадак“ прыгнечаньня пануючай клясай іншых, якія не стаялі ў улады. „Парадак“ усякае дзяржавы і яе розных форм, у тым ліку і дэмократычнай, зусім не ў замірэньні клясаў, а ў прыгнечаньні аднае клясы другою. Гэты „парадак“ будуецца толькі на прыгнечаньні, і дзякуючы яму ён ня згоджвае клясы, а падаўляе іх. Адбіраючы ў зьняволеных

[1]) Ленін „Государство и революция“. Стар. 11. 1923.

клясаў „сродкі і способы барацьбы", ён тым самым зьменшвае спатычку іх з пануючай клясай, якая організавала гэты „парадак".

„Парадак", які існуе ў кожнай дзяржаве і складаецца з прыгнечаньня аднае клясы другою, ня згоджвае клясаў, а зьменшвае іх спатычкі. На гэтым прынцыпе трымаецца існаваньне самое дзяржавы, бо каб было магчыма замірэньне клясаў—стала-б немагчымым існаваньне самое дзяржавы. „І надварот,—кажа Ленін,—існаваньне дзяржавы даказвае, што клясавыя супярэчнасьці нязьмірны".

Ітак, назначэньне дзяржавы не ў замірэньні клясаў, а ў прыгнечаньні пануючай клясай іншых клясаў, якія не стаяць у ўлады. Тэрор у Баўгарыі і Польшчы, фашызм у Італіі, уціск комуністых ва ўсіх капіталістычных краёх, барацьба ў Кітаі, нарэшце—усялякія прасьледваньні рабочых ва ўсіх краёх нават з дэмократычнай будовай—зусім ня згоджваюць клясы, а скарэй прыгнечваюць іх, адбіраюць сродкі да барацьбы за свае вызваленьне.

Вось характар скажэньня па пытаньню аб дзяржаве, якое ідзе па першай лініі. Зьвернемся да разгледжваньня больш утончанага скажэньня, якое ідзе па другой лініі. Гэта так называемае „каутскианское" скажэньне марксызму. Яго сутнасьць у тым, што „тэорытычна" прызнаецца правільным палажэньне марксызму аб нязьмірнасьці клясавых супярэчнасьцяй, а таксама аб тым, штй дзяржава ёсьць орган клясавага панаваньня. „Але, кажа Ленін, выпускаецца з-пад увагі, альбо зацямняецца наступнае: калі дзяржава ёсьць вытвор нязьмірнасьці клясавых супярэчнасьцяй, калі яна ёсьць моц, якая стаіць над грамадой, і ўсё больш і больш робіцца чужою для грамады", то зразумела, што вызваленьне прыгнечанае клясы немагчыма ня толькі без гвалтоўнае рэволюцыі, але і бяз зьнішчэньня таго апарату дзяржаўнае ўлады, які пануючай клясай утворан і ў якім гэта „адчужэньне" ажыцьцёўлена [1]).

Для пасьлядоўцаў марксызму-ленінізму гэта палажэньне складае адну з аксіом—ўсё, для меншавікоў—яно нішто.

Тут мы падышлі да таго пункту нашага разважаньня, ужо пададзенага вышэй, у якім паказвалі, што па пытаньні аб дзяржаве і рэволюцыі сярод соцыялістычнага руху маюцца два напрамкі: бальшавіцкі, які прызнае пролетарскую рэволюцыю неабходнай ступеньню руху да соцыялізму, і меншавіцкі, які прынцыпова адмаўляе рэволюцыю.

Вядомы словы Энгельса аб „адміраньні" дзяржавы. У соцыялістычных партыях яны ў свой час паднялі такое множаства „тлумачэньняў", што ад іх, можна сказаць, засталіся „рожкі ды ножкі". Вось гэтыя „рожкі ды ножкі", якія засталіся ад вельмі багатых думак Энгельса аб „адміраньні" дзяржавы, забралі меншавікі. Тэорытычна яны дапамаглі ім стаць на шлях ня толькі зацямненьня, але і прамога адмаўленьня рэволюцыі і яе зьместу—дыктатуры пролетарыяту. Дзяржава адмірае—адамрэ без рэволюцыі і капіталістычная будова—вось які вывад. На гэтакае ўпрашчэньне і скажэньне марксызму ня сталі бальшавікі—пасьлядоўцы Леніна.

Па Энгельсу—пролетарыят, захватваючы ў выніку рэволюцыі ўладу „тым самым зьнішчае дзяржаву, як дзяржаву". Тут Энгельс выказаў тую думку, што ў выніку пролетарскай рэволюцыі *зьнішчаецца дзяржава буржуазіі.* Думкі-ж яго аб „адміраньні" дзяржавы датычацца пролетарскае дзяржавы, альбо, правільней, поўдзяржавы, якая ўсталюецца пасьля рэволюцыі. Па Энгельсу—буржуазная дзяржава не „ад-

[1]) Ibidem, стар. 12

мірае“, а *зьнішчаецца* ў пролетарскай рэволюцыі, адмірае-ж *пролетарская дзяржава пасьля* рэволюцыі.

Зьнішчэньне буржуазнае дзяржавы ёсьць зьнішчэньне сілы, якая яе абараняе; ясна, што самая дзея зьнішчэньня ня можа адбыцца шляхам „адміраньня“, а толькі шляхам гвалтоўнай рэволюцыі. Процэс „адміраньня“ пролетарскае дзяржавы, па Энгельсу, пачнецца пасьля абагуленьня сродкаў вытворчасьці. Па сваей політычнай форме дзяржава гэтага пэрыоду будзе дэмократычнай. З адміраньнем-жа яе будзе адміраць і дэмократыя. „Гэта, кажа Ленін, здаецца на першы погляд вельмі дзіўным. Але „незразумела“ гэта толькі для таго, хто ня ўдумаўся, што дэмократыя ёсьць таксама дзяржава і што, значыць, дэмократыя таксама зьнікне, калі зьнікне дзяржава“.

Дэмократыя, як форма дзяржаўнасьці, якая вырасла на азначаных грамадзкіх адносінах, дапушчае яшчэ існаваньне клясаў і толькі з паступовым адміраньнем іх адамрэ і дэмократыя, як політычная форма дзяржавы, бо яна будзе не патрэбна.

Ітак, дзяржава, якая ўтварылася дзякуючы азначаным экономічным умовам, што зьвязаны з падзелам грамады на клясы, на азначанай-жа ступені гістарычнага разьвіцьця зьнікне. Будучы ў пэрыод свайго ўтварэньня неабходнай формай організацыі грамады і крыніцаю разьвіцьця вытворчых сіл, у канцы свайго існаваньня яна стане лішняй формай, шкоднай, непатрэбнай, будзе замаруджваць грамадзкае разьвіцьцё.

Па Марксу—да адміраньня дзяржавы ад капіталізму да соцыялізму грамада прыдзе перажыўшы пераходны пэрыод і форму дзяржавы гэтага пэрыоду—дыктатуру пролетарыяту

*(Працяг будзе).*

# НАВУКОВЫ АДДЗЕЛ.

Г. Дунаеў.

## Да пытаньня аб значэньні проблемы грамадзкіх клясаў.

Значэньне проблемы грамадзкіх клясаў у соцыяльнай навуцы ў сучасны момант мае вялізарнае значэньне, бо тэорыя грамадзкіх клясаў дазваляе нам растлумачыць і зразумець цэлы шэраг пытаньняў вельмі цёмных і заблытаных, нават невырашымых без яе дапамогі. Шмат катэгорый соцыяльных дысцыплін атрымалі вырашэньне пры дапамозе клясавае тэорыі.

Ня меншае значэньне мае клясавая тэорыя ў соцыолёгіі; яна дазволіла яскрава асьвятліць законы грамадзкага жыцьця і выявіць яго статыку й дынаміку, а таксама накідаць новы орыгінальны погляд на дзяржаву.

„Уся гісторыя грамады была дасюль гісторыяй барацьбы клясаў. Вольны і нявольны, патрыцы і плябей, барон і падданы, цэхавы грамадзянін і падмайстар, словам—які ўціскае і прыгнечаны знаходзіліся адзін з другім у заўсёдышняй супярэчнасьці, вялі нясупынную, то захованую, то адчыненую барацьбу, барацьбу, якая кожны раз канчалася альбо рэволюцыйнай перабудоўкай, альбо сумеснаю пагібельлю змагаючыхся клясаў“. Так пачаў Маркс свой комуністычны маніфэст. І сапраўды, з часам распаду першабытнае грамады, прыбавачны прадукт пачаў іграць чорную і ў той-жа час прогрэсіруючую ролю, раскладаючы род, зьніштажаючы абшчыну, пасягаючы часта на мінімум патрабаваньняў эксплёатуемага насельніцтва. Народы, якія ўступілі ў прабег дзяржаўнасьці, ужо маюць грамадзкую няроўнасьць і эксплёатацыю аднае клясы другою. Спачатку гэта адчуваецца слаба, потым мацней і, у канцы, няроўнасьць вырашаецца грамадзкім узрушэньнем і перабудоўкай дзяржавы. У Грэцыі, да грэка-пэрсіцкіх боек клясавая няроўнасьць не давала сябе вельмі адчуваць, але затое са сканчэньнем гэтых боек (479-338 г. г.) да пакарэньня Грэцыі Піліпам Макэдонскім, мы ўжо бачым рэзкую грамадзкую дыфэрэнцыяцыю. Зьявілася арыстократыя і поруч з масай нявольнікаў ужо існуюць багатыя й бедныя. „У папярэднія часы,—кажа адзін з прамоўцаў таго часу,—было іначай, як цяпер. Тады ўсё, што належала дзяржаве, было багатым і бліскучым, і сярод грамадзян ні адзін не адрозьніваўся па надворнаму выгляду ад другога. Яшчэ і цяпер кожны з вас можа пераканацца, што мяшканьне Фэмістокла і Мільцыада ніяк ня былі харашэй і магутней за мяшканьні іх саграмадзян, затое дзяржаўныя пабудовы былі магутнымі й харошымі. А цяпер прыватныя мяшканьні зацямняюць сваёю пышнасьцю грамадзкія пабудовы, якія сталі нікчэмнымі і ўбогімі, што сорамна аб іх казаць“.

Трэба, між іншым, заўважыць, што ў Афінах дэмократыя была вельмі моцная, і яна часта перамагала арыстократыю, але Пэлёпонэская вайна (431-404 г. г.) зьнішчыла дэмократычныя Афіны і месца ранейшай дэмократыі заняло праўленьне стаўленікаў арыстократычнай Спарты. Багатая Афінская дзяржава, якая жыла працаю нявольнікаў і даходамі ад квітнеючага гандлю, была зьнішчана і зьведзена да межаў Аттыкі. Вайсковая здабыча і даніна з падуладных былі пастаянным даходам афінскага насельніцтва, сродкам к таму, каб яшчэ больш узбагаціць багатых, а іншых, вольных, якія карысталіся дзяржаўнымі даходамі, адучыць ад працы, зрабіць жабракамі.

Соцыяльнае жыцьцё старое Грэцыі біла крыніцаю. Нездарма Плятон рэзка падкрэсьліў грамадзкую дыфэрэнцыяцыю яго часу і збудаваў асаблівую сыстэму арыстократычнага комунізму. Цікава, між іншым, што Плятон раўняе пролетарыят яго часу з трутнямі, што часткова правільна, бо гэта была ня вытворчая кляса, а кляса, якая карысталася даходамі ад дзяржавы.

Другі вучоны стара-грэцкага сьвету—Арыстоцель—ужо глядзеў на дзяржаву, як на продукт прыроднае законамернасьці, на якую людзі, дзякуючы маючайся ў іх волі, маглі рабіць уплыў у той, ці іншых бок, згодна сваім мэтам; пагэтаму ён, у канцы канцоў, дагаварваецца, што дзяржава ёсьць мэханізм, штучна збудованы чалавечым розумам. Гэты тэлеолёг хоць і наглядаў грамадзкую няроўнасьць, але лічыў яе народжанай самой прыродай, а ня вынікам грамадзкіх адносін.

Вышэй мы бачылі, як пала Афінская дэмократычная дзяржава. Падобным-жа чынам ішоў процэс разьвіцьця і Рымскае дзяржавы. Заваёўчая палітыка Рыму падарвала сялянскую гаспадарку, у той час, як гаспадаркі з нявольнікамі квітнелі. Як сьнег пад праменьнямі сонца раставала моцнае вольнае сялянства, яно часткай бяднела і рабілася пролетарыятам, пролетарыятам рызьзя, бо дзякуючы вялізнаму ліку нявольнікаў, наёмнае працы ня было. Але пакуль існавала дэмократычная рэспубліка, масы яшчэ маглі карыстацца палітычнай уладай і мець карысьць з багатых, а таксама эксплёатаваць аброчныя падуладныя краіны. Палітычная ўлада ня толькі давала ім хлеб і відавішчы, але часам нават і сродкі вытворчасьці—зямельную ўласнасьць. Ня спыняючыся на клясавых антогонізмах сярэдніх стагодзьдзяў, усё-ж трэба заўважыць, што ня гледзячы на ўпартую барацьбу сялянства з фэодаламі, а потым падмайстраў з рамесьнікамі—гэта барацьба была безідэёвай і ня мела такога характару, які мае барацьба клясаў у капіталістычнай грамадзе. Вельмі часта клясавы антогонізм хаваўся пад выглядам рэлігійных поглядаў, і барацьба на грунце рэлігійных рознамоўнасьцяй мела ў аснове тыя ці іншыя соцыяльныя групоўкі на экономічнай падставе.

Толькі к пачатку 18-га стагодзьдзя мы сустракаемся з імкненьнямі зразумець паняцьце кляса, як соцыяльная катэгорыя, якая займае азначанае месца ўва ўтварэньні нацыянальнага багацтва. Ужо фізыократ Франсуа Кэнэ падзяляе грамаду на тры клясы: земляробаў-вытворцаў, земляробаў-уласьнікаў і бясплодная кляса гандляроў, рамесьнікаў і ўсіх іншых. Як бачым, асноўным крытэрынем, з якога выходзіў Кэнэ, былі адносіны людзей да зямлі. Цюрго выдзяляе чацьвертую групу-прамысловых працаўнікоў, а экономісты Адам Сьміт ужо падзяляе грамаду на тры клясы: зямляўласьнікаў, капіталістых і працоўных. Неапо-

літанскі юрыста Філанджыеры ўтварае сваю сыстэму двухклясавага падзелу грамады на ўласьнікаў і наёмных.

Пасьлядоўцы-ж Сэн-Сімона ўжо паказваюць на тое, што антогонізм экономічных інтарэсаў зьяўляецца асноўнай адзнакай разуменьня клясы, а гісторыкі часоў Рэстаўрацыі ўжо асноўваюцца ў сваіх працах на клясавай барацьбе, як на самым выдатным факце чалавечай гісторыі.

Увага і інтарэс да проблемы грамадзкіх клясаў неразрыўна зьвязаны з разьвіцьцём соцыяльных поглядаў у грамадзкіх дысцыплінах. Думка аб тым, што прадметам соцыяльнага дасьледваньня зьяўляюцца не асобы, а „соцыяльныя групы“, праходзіць чырвонаю ніткаю праз усё вучэньне аўстрыйскага соцыолёга Гумпловіча. „Мы лічым,—кажа ён,—паасобнымі рэчаістымі элемэнтамі ў соцыяльным процэсе прыроды не аддзельных асоб, а соцыяльныя групы; у гісторыі мы будзем дасьледваць, такім чынам, не заканамернае абыходжаньне асоб, але законамерны рух груп“. Па думцы Гумпловіча асоба—продукт вядомай групы. Гумпловіч вывеў сыстэму гэтых групаў з па-за экономічнага пачатку, стаўшы на пункт погляду тэорыі расавых розьніц, паўная нягоднасьць якое выявілася асабліва ярка ў прайшоўшай усясьветнай вайне. Іншыя тэорыі робяць спробу падвесьці соцыяльны антогонізм пад натуральныя законы прыроды. Адзін (Амон) карыстаецца для гэтага тэорыяй Дарвіна, іншыя (Спэнсэр) глядзелі на грамаду, як на зьверх-організм, знаходзячы ў ім адзнакі організму, і ў той-жа час адзнакі мэханічнай сыстэмы, а Ліліэнфэльд цалкам стаіць за органічную тэорыю, рэакцыйнасьць якое не патрабуе падцьверджаньня. „Нельга, каб рукі пайшлі супроць галавы, бо пагібне ўсё цела“. Вось як прадстаўнікі гэтае тэорыі апраўдваюць існуючы парадак рэчаў, лічачы яго цалкам натуральным.

Сучасныя тэорыі клясавага падзелу грамады могуць быць разьбіты на тры катэгорыі. Першая з іх падзяляе грамаду на клясы, глядзячы на тое, колькі чалавек траціць; чалавек, які траціць мала, належыць да аднае клясы, які траціць многа—да другое клясы. Адзін ангельскі соцыолёг апрацаваў нават цэлую табліцу выдаткаў, згодна якой грамада і падзяляецца на клясы (Д'Эрэ). Я ня буду спыняцца на гэтай тэорыі, якая групуе грамаду з пункту погляду разьмераў кашалька, няпрыгоднасьць якое зразу выяўляецца ў пэрыод магутнае клясавае барацьбы, калі рабочыя, часам рэзка розьнячыся па велічыні зарабаткаў, выступаюць у барацьбе цалкам згодна, а сяляне й рамесьнікі часта цягнуць у другі бок.

Другая тэорыя кладзе ў аснову падзелу грамады на клясы разьмеркаваньне грамадзкага прыбытку. У капіталістычнай грамадзе грамадзкі прыбытак разьмяркоўваецца на тры галоўныя часткі; гэта рэнта, прыбытак і заробак. Адпаведна гэтаму і грамада распадаецца на тры клясы: земляўласьнікаў, капіталістых і наёмных рабочых. Прадстаўнікамі гэтае тэорыі зьяўляліся экономістыя Адам Сьміт і Рыкардо; але, вывучаючы капіталістычную грамаду па-за яе гістарычным разьвіцьцём, яны не заўважылі, што гэтыя „віды“ быццам сталых даходаў ёсьць ня што іншае, як вынік, які цалком залежыць ад адносін людзей да сродкаў вытворчасьці, г. з. ад вытворчых адносін. І, у канцы, трэцяя тэорыя клясаў кладзе ў аснову вытворчую адзнаку. Прадстаўніком гэтае тэорыі зьяўляецца марксызм. Трэба заўважыць, што Маркс ня даў закончанае тэорыі клясавага падзелу грамады. У трэцім томе „Капіталу“ Маркс пачаў дасьледваньне паняцьця

клясы, але, нажаль, ня скончыў яго. Дасьледваньне як раз абрываецца на рашучым месцы. Мы маем у сучаснай грамадзе тры экономічных групы: наёмных рабочых, капіталістых і земляўласьнікаў. „Што робіць іх утварыцелямі трох вялікіх грамадзкіх клясаў?“ пытае Маркс і адказвае: „на першы погляд тоесамасьць даходаў і крыніц даходу. Існуе тры грамадзкіх групы, складаныя часткі якіх—утвараючыя іх асобы, жывуць адпаведна заработкам, прыбытку і пазямельнай рэнце, карыстаньнем сваёю працоўнай сілай, сваім капіталам і сваёю зямельнай уласнасьцю“. „Але з гэтага пункту погляду дактары і чыноўнікі, напрыклад, утвараюць таксама дзьве клясы, бо яны належаць да дзьвюх розных грамадзкіх груп і сябры кожнае з іх атрымліваюць даход з аднае і тае-ж крыніцы. Тое самае датычыцца і безканцовага драбленьня інтарэсаў і палажэньняў, на якія падзел грамадзкае працы разьбівае як працоўных, так капіталістых і земляўласьнікаў,—апошніх, напрыклад, на ўладароў вінаграднікаў, пахаці, лясоў, шахтаў, рыбных промыслаў“...

Тут рукапіс абрываецца. Немагчыма азначана ўстанавіць, што разьвіў-бы далей Маркс. Пастараемся самі адказаць на пытаньні, дасьледаваўшы факты. Зямельная рэнта ўласьніка можа павялічыцца альбо за лік заработкаў, альбо за лік прыбытку капіталу—інтарэсы зямляўласьніка супярэчаць, такім чынам, інтарэсам наёмнага рабочага і капіталістага. Між тым зямельная рэнта ўласьніка не расьце за лік зямельнае рэнты іншых уласьнікаў. Наадворот, рост зямельнае рэнты альбо зьвязанае з ёю цаны на зямлю аднаго роду, цягне за сабою рост зямельных рэнтаў і зямельных цэн іншых зямельных кускоў. Але ўзвышэньне рэнты і цаны на зямлю цягне зьніжэньне заработкаў, альбо прыбытку капіталу. З другога боку, паасобныя катэгорыі рабочых: друкары, ткачы і інш. таксама не ўтвараюць паасобных кляс, а складаюць адну клясу наёмных рабочых. Яна прадстаўляе процілеглясьць капіталу і зямляўласнасьці, бо пры даным нацыянальным даходзе заробак можа толькі ўзрастаць за кошт іншых крыніц прыбытку, г. зн. прыбытку і рэнты. Унутры-ж рабочае клясы заробак аднае з катэгорыі рабочых не ўзрастае за лік іншае, наадворот, усялякае ўзвышэньне заробку аднае катэгорыі ўсіляе імкненьне да ўзвышэньня заробку ў другое катэгорыі. Адсюль мы ўжо можам заўважыць ня толькі агульнасьць прыбытку якое-небудзь клясы, але й яе антогонізм у адносінах да іншых кляс. Калі дадаць да гэтага, што агульнасьць прыбытку выцякае з адпаведнага становішча данае групы ў вытворчасьці, то мы і атрымаем усе складаныя элемэнты для разуменьня клясы.

У. І. Ленін даў наступнае азначэньне грамадзкім клясам: „Клясамі называюцца вялікія групы людзей, якія розьняцца па іх месцу ў гістарычна азначанай сыстэме грамадзкае вытворчасьці, па іх адносінах (большай часткай замацованым і аформленым у законах) да сродкаў вытворчасьці, па іх ролі ў грамадзкай організацыі працы, і, значыць, па спосабах атрыманьня й разьмерах тае часткі грамадзкага багацьця якая пад іх уладай. Клясы гэта такія групоўкі людзей, з якіх адна можа прысвоіць сабе працу другое, дзякуючы розьніцы іх месца ў азначаным укладзе грамадзкае гаспадаркі“.

Уявіўшы, што такое кляса, нам ня лішнім будзе зрабіць розьніцу паміж клясай і станам.

Калі пад клясай мы разумеем групу асоб, аб'яднаных агульнай роляй у вытворчасьці, дзе людзі знаходзяцца ў сходных адносінах

адзін да другога—то пад станам мы разумеем групу асоб, аб'яднаных агульным становішчым у юрыдычнай, прававой будове грамады.

Буйныя зямляўласьнікі—гэта кляса. Дваране—гэта саслоўе, бо палажэньне „буйныя зямляўласьнікі“ азначана вытворча-экономічнай адзнакай, а „дваране“ гэта адзнака прававое прывілеі дзяржавы. Яны зьяўляюцца зямляўласьнікамі толькі пастолькі, паколькі дазваляе ім разьмер зямляўладаньня. Проф. Солнцаў, аўтар працы „Грамадзкія клясы“ кажа, што „соцыяльна няроўныя групы станавага расслаеньня ўтвараюцца не на грунце адносін гаспадаркі, а на грунце, галоўным чынам, адносін права й дзяржавы. Стан—праўна-палітычная, юрыдычная катэгорыя і, як гэткая, яна можа мець розныя формы праяўленьня. У адзнаку ад станавага, клясавае расслаеньне ўтвараецца на основе экономічных адносін“. Ці не зьяўляецца, аднак, стан—як кажа Бухарын—проста клясай „толькі апранутай у адзежу праўна-палітычнай катэгорыі?“ На гэта Солнцаў адказвае адмоўна. Хоць сам ён і паказвае, што ў антычным сьвеце „станавая будова не магла не адбіць на сабе клясавых розьніц“, што „клясавая барацьба прымае асаблівую форму станавай барацьбы“, што па сутнасьці і зьяўляецца цалком правільным.

Возьмем фэодальную будову: павольны тэмп жыцьця дазволіў зямельнай арыстократыі замацаваць свае прывілеі шэрагам юрыдычных нормаў—вось вам і дваранства, як стан. Капіталістычная будова ня мірыцца з станамі таму, што хуткае разьвіцьцё вытворчых сіл ня выносіць станавай абалочкі, якая-б замаруджвала сваімі нормамі шырокую буржуазную ініцыятыву, стымулам якое зьяўляецца прыбытак. Дзеля гэтага Маркс у „Нищете философии“ пісаў: „Умоваю вызваленьня клясы працоўных зьяўляецца адмена ўсякіх кляс, усёроўна, як умоваю вызваленьня трэцяга стану была адмена ўсякіх станаў“. Кажучы аб клясавым падзеле капіталістычнае грамады, неабходна адмеціць у ім прысутнасьць дэклясаванага элемэнту—люмпэн-пролетарыяту і цэлых груп людзей, якія адначасова належаць да некалькіх прамежных кляс. Гэта маса дробна-буржуазнага, мяшчанскага элемэнту, якая займаецца і наёмнай працай, і гандлярствам, а часам і эксплёатацыяй працы. Яна складае матэрыял для падтрыманьня капіталістых у парлямантах буржуазных краін.

Калі выключыць з сучаснае грамады клясу зямляўласьнікаў, якая не зьяўляецца параджэньнем капіталістычнага спосабу вытворчасьці (інстытут уласнасьці на зямлю пераносіцца ў капіталістычную гаспадарку з фэодальнае будовы), то мы падзелім усе соцыяльныя групы па становішчу ў вытворчасьці на капіталістых і працоўных. Гэтыя дзьве клясы з дыямэтральна-процілежнымі інтарэсамі і складаюць тую асноўную лінію барацьбы, якая вядзецца ўва ўсіх краёх капіталістычнага сьвету.

Але якая розьніца паміж гэтай барацьбой і барацьбою антычнага сьвету, альбо эпохі Рымскае імпэрыі. Калі там пролетарыят змагаўся за права эксплёатацыі дзяржавы, за „хлеб і відавішчы“, зусім ня прымаючы ўдзелу ў будаваньні народнага багацьця, то сучасны пролетарыят зьяўляецца адзіным утварыцелем каштоўнасьцяй, разьмеркаваньнем якіх ведаюць капіталістыя.

Усякая кляса, у тым ліку і складаючая меншасьць, імкнецца захапіць і ўмацаваць сваю ўладу. „Кожны раз узровень экономічнага разьвіцьця прызываў і рабіў здольнай да панаваньня тую ці іншую групу, складаючую меншасьць, і гэтым толькі і тлумачыцца, чаму паду-

ладная большасьць прымала ўдзел у пераваротах у інтарэсах меншасьці і ўва ўсякім іншым выпадку спакойна паддавалася перавароту."[1]) Як толькі такая меншасьць захапляе ўладу, яна стараецца замацаваць сваё становішча адпаведнымі юрыдычнымі нормамі і няўхільна накладвае сваю цяжкую лапу на антогоністычныя групы. Такім чынам, з пункту погляду клясавай барацьбы, дзяржава ёсьць асяродкаваны і арганізаваны гвалт тэй ці іншай грамадзкай групы, якая падтрымлівае ім (гвалтам) грамадзкую роўнавагу. Супроць гэтага погляду высоўваюць наступныя пярэчаньні: прымета дзяржавы захоўваецца ў асяродкаваным кіраўніцтве, чаму ўсякае такое кіраўніцтва ёсьць дзяржава. Але гэтыя крытыкі зьмешваюць грамадзкія і тэхнічныя адносіны людзей. У сучасных грамадзкіх адносінах людзей гвалт у форме ўлады можа прапасьці разам з клясамі, але тэхнічныя адносіны, як неабходная катэгорыя гаспадарчага мэханізму, застанецца. Іншыя крытыкі паказваюць на агульнакарысныя дзяржаўныя прадпрыёмствы, як на неабходную прымету дзяржавы, але яны выпускаюць тое, што ўсе агульнакарысныя прадпрыёмствы ніколі не станавіліся ўпоперак дарогі пануючай клясе, а заўсёды служылі карысьці апошняй.

Такім чынам дзяржава ёсьць арганізаваны гвалт азначанай грамадзкай групы і гэты гвалт будзе існаваць датуль, пакуль існуюць клясы, разамз якімі адамрэ й дзяржава, бо плянава арганізаваны гаспадарчы організм будзе патрабаваць толькі тэхнічных адносін да сябе. Такім чынам клясы і дзяржава ёсьць катэгорыі гістарычныя. Калі глядзець на грамаду, як на некаторую об'ектыўна разьвіваючуюся сыстэму, то мы ўгледзім, што будова гэтае сыстэмы зьмяняеццапраз людзей, а не апрочлюдзей; вытворчыя адносіны—гэта продукт чалавечае дзейнасьці і барацьбы, як лён, альбо палатно. (К. Маркс). Але калі мы сярод бязьлікавае колькасьці асабістых воль, якія ідуць у розных напрамках. і даюць, у канцы канцоў, некаторую грамадзкую роўнадзейную, пастараемся выдзеліць асноўныя напрамкі, тады мы і атрымаем некаторыя аднолькавыя пучкі воль; гэта й будуць клясавыя волі. Яны асабліва рэзка проціпастаўлены адна другой у момант вострых грамадзкіх патрасеньняў, у моманты адміраньня аднае грамадзкае формацыі і адраджэньня другое. Але чаму мы бачым сярод як-бы хаотычнага становішча грамады некаторыя канцавосьсі, наўкол якіх асяродкуецца ідэолёгія людзей? Як відаць, ёсьць прычына, якая дэтэрмінуе гэту ідэолёгію, выводзіць яе з становішча хаотычнасьці ў становішча вядомай сыстэматычнасьці. Гэта прычына ёсьць азначанае месца людзей у процэсе грамадзкае вытворчасьці, якая азначае і ідэолёгію тых груп людзей, якія знаходзяцца ў аднолькавым становішчы адзін да другога. І калі асабістая воля абумаўляецца сумай розных прычын, то воля мас данае клясы, у сілу законаў большага ліку, сьцірае гэтыя чужыя прычыны і дае нам тыповы выраз тае ці іншае клясы згодна месцу, якое яна займае ў процэсе грамадзкае вытворчасьці.

Наша эпоха перанесла клясавую барацьбу ў соцыялізм. Яна стала зьместам, гісторыі чалавецтва. Яна вывядзе яго з тупіка і супярэчнасьцяў капіталістычнае грамады.

---

[1]) К. Маркс.—Барацьба кляс у Францыі.

І. Голуб.

# Некалькі слоў аб социяльных навуках.

У вапошнія часы мы калі-ні-калі сустракаемся з неадпаведнымі адносінамі да социяльных навук. Я маю на ўвазе, галоўным чынам, социолёгію і дыялектычны матэрыялізм. Гэтакія адносіны да гэтых навук, адмова нярэдка ім у самой назве „навукі“, значна распаўсюджаны сярод нашага студэнцтва. Яны грунтуюцца, бязумоўна, альбо на рэакцыйнасьці, альбо на неразуменьні мэт і задач гэтых навук і зьяўляюцца глыбока шкоднай тэндэнцыяй па сваёй сутнасьці.

У чым-жа шкоднасьць гэтае тэндэнцыі?

Кажучы па сутнасьці, уся дзейнасьць чалавецтва, гэтага канцовага зьвяна органічных лесак, накірована да павялічэньня яго панаваньня над прыродай, да павялічэньня тае сумы энэргіі, якую яно перакачвае з асяродзьдзя ў грамаду. да павялічэньня прыбыткавае стацьці чалавечага „балянсу“, калі можна так сказаць. У гэтай сваёй дзейнасьці, у гэтым процэсе барацьбы з прыродай, чалавецтва дабывае рознастайны досьлед, які сыстэматызуецца і ўкладваецца ў паасобныя галіны навук.

Усе прыродазнаўчыя навукі накірованы фактычна да гэтае мэты павялічэньня панаваньня над прыродай, начынаючы ботанікай, зоолёгіяй, мінэралёгіяй і канчаючы мэдыцынай, фізыкай, хіміяй і г. д. Мэта ўсіх гэтых навук—найбольш мэтазгоднае прыстасаваньне прыроднага асяродзьдзя да нашых патрэб, што ў канцовым выніку значыць павялічэньне ўлады над прыродай. Кожная з гэтых навук дасягае гэтае мэты асобым, толькі ёй належачым, шляхам. Нельга, аднак, думаць, што шляхі кожнай навукі зусім не залежаць ад агульных мэт усіх навук. Не! як сама магчымасьць разьвіцьця тэй ці іншай навукі, так і ступень гэтага разьвіцьця залежаць раней усяго як ад усяго запасу чалавечых ведаў, так і ад социяльнае будовы грамады. Зразумела, якое значэньне мае організацыя грамады для разьвіцьця навук: калі пры капіталістычнай форме вытворчасьці вялізарная частка энэргіі, дабываемае грамадой, захватваецца невялічкаю кучкаю людзей, якая накіроўвае яе дзеля свае асабовае карысьці, а вялізарныя масы пакідаюцца ў палоне социяльнае няроўнасьці, жабрацтва, яны ня могуць далучыцца да навукі, разьвіваць апошнюю. І толькі пры гэтакай організацыі грамады, дзе кожная асоба атрымлівае „па патрэбам“, утвараецца магчымасьць масавага ўдзелу ў навуковай працы, утвараецца магчымасьць шырокага росквіту навук, г.-зн. магутных пабед над сіламі прыроды.

З другога боку, навукі разьвіваюцца і прогрэсуюць толькі тады, калі існуюць для гэтага матэрыяльныя прадпасылкі; іх разьвіцьцё зьяўляецца вынікам і адначасова прычынаю росту тэхнікі, бо калі навукі заключаюць у сабе сабраны досьлед для выкарыстаньня сіл прыроды, то тэхніка—ёсьць спосаб рэалізацыі гэтага досьледу.

Рост тэхнікі ўпіраецца ў экономічную організацыю грамады, як гэта даказана К. Марксам; значыць, калі пры капіталістычнай сыстэме

вытворчасьці, пры капіталістычных грамадзкіх адносінах тэхніка, дайшоўшы да свайго „кульмінацыйнага пункту“, пачынае затым рэгрэсаваць, „загніваць“, то пачынае „загніваць“ і навука.

Уясніўшы сабе сувязь між навукамі наогул і грамадзкай формацыяй, пяройдзем цяпер да пытаньня, якое месца займае соцыолёгія (з соцыяльных навук я спынюся ў гэтым артыкуле на соцыолёгіі) ў шэрагу іншых навук, якое права яна мае на пільнае вывучэньне і ўвагу да сябе.

Соцыолёгія вывучае законы грамадзкага жыцьця ў цэлым, дынаміку грамады.

Дзеля чаго-ж нам патрэбна ведаць і разумець дынаміку грамадзкага жыцьця, законы разьвіцьця гэтай „сыстэмы працоўных аб‘яднаньняў людзей, якая зьяўляецца ўсёабхватваючай“? На гэта пытаньне мы адкажам, наперад адхіліўшыся крыху ў бок.

Маркс, гэты „Дарвін у соцыяльнай навуцы“, выходзячы з прадпасылак апошняга, устанавіў, аднак, прынцыповую розьніцу між чалавекам, як прадстаўнікам арганічных лесак, і чалавекам, як сябрам грамадзкага колектыву. Ён даказаў, што „да грамадзкага чалавека можа быць прыкладзена тая-ж мерка, што і да іншых жывёл, што ў грамадзе дзейнічаюць асобыя законы, законы соцыяльнай дынамікі“. І Дарвін, і Маркс выходзяць з барацьбы з абкружаючым асяродзьдзем за існаваньне. Але ў Дарвіна—барацьба пасыўная: выжываюць асобы, найбольш прыстасаваныя, найбольш моцныя; слабыя ў процэсе барацьбы зьнішчаюцца, і на іх касьцях будуюць саваё жыцьцё тыя жывёлы, якія ад прыроды надзелены карыснымі асабовымі адзнакамі. Мы, значыць, маем тут біолёгічнае прыстасаваньне організацыі да асяродзьдзя. А ў Маркса (г. зн. у чалавечай грамадзе)—барацьба актыўная, барацьба не асабовымі адзнакамі, а вытворчымі сіламі, прыстасаваньне асяродзьдзя да сябе.

Сярод жывёл прылада барацьбы—відазьменьваючыяся натуральныя органы, а ў чалавечай грамадзе—„органы чалавечага цела“, г. зн. штучныя прылады працы.

Соцыолёгія, як было паказана вышэй, імкнецца зразумець законы грамадзкага жыцьця, яна вывучае грамадзкае жыцьцё ў яго цэлым, ува ўсёй яго рознастайнасьці, яна імкнецца растлумачыць гэтае жыцьцё пры дапамозе аднаго пачатку (монізм), пры дапамозе аднаго асяродку, які прымушае круціцца ў азначаным напрамку ўсе бакі грамадзкага жыцьця.

Гэтай першаасновай, гэтым асяродкам з пункту гледжаньня марксызму і зьяўляецца матэрыяльная база грамады, сыстэма яе вытворчых сіл, тая сыстэма, па якой карысная энэргія ў прысвойваемай форме цячэ з асяродзьдзя ў грамаду.

Соцыолёгія, такім чынам, дае нам магчымасьць зразумець асноўную тэндэнцыю гістарычнага разьвіцьця, а ведаць яе нам трэба дзеля таго, што „ведаць, каб прадбачыць, а прадбачыць, каб зрабіць уплыў“ (О. Конт).

Гісторыя робіцца грамадзкім чалавекам. Гэта ня значыць, зразумела, што грамадзкі чалавек можа павярнуць назад кола гісторыі, але гэта значыць, што ён можа ў вядомай меры дапамагаць руху гэтага „кола“, альбо замаруджваць яго.

Памятаючы словы Пляханава, што „чалавек ня простая пешка на шахматнай дошцы гісторыі“, і што „лічыць, што аддзельная асоба нічога зрабіць у гісторыі ня можа—значыць ня ведаць арытмэтыкі“,

мы зразумеем усё значэньне для нас веданьня тэндэнцыі гістарычнага разьвіцьця. Нам трэба гэта ведаць, каб „зрабіць уплыў“ на гісторыю, каб унесьці і сваю „лепту на алтарь истории“ (па выразу Пляханава), каб дадаць і сваю сілу да агульнае роўнадзейнае гісторыі, і гэтым паскорыць перамогу прогрэсыўных грамадзкіх формаў.

Маркс даказаў нязьбежнасьць краху капіталістычнай вытворчай організацыі грамады пад націскам сіл, якія вытвараюць і разьвіваюцца,—мы павінны ўсякім чынам дапамагаць у інтарэсах усяе грамады ўскарэньню гэтага гістарычна-неабходнага процэсу. Маркс даў нам у рукі вялікае соцыолёгічнае вучэньне, якое паказвае нам шлях да перабудовы сьвету ў бок найбольшага павялічэньня ўлады чалавека над прыродай.

Зусім зразумела пасьля гэтага, што Марксава соцыолёгія стала сьцягам гістарычна-прогрэсыўнае клясы, пролетарыяту, што яна знашла сапраўдную ахову толькі ў сьценах пролетарскіх навуковых установ. Зусім зразумела, чаму ў нас, у СССР, зварачаецца гэтакая сур'ёзная ўвага навукам соцыяльным: яны паказваюць нам шлях і даюць шырокія пэрспэктывы для шчасьця ўсяго чалавецтва. Архімэд, шчасьлівы і горды сваёю вынахадкаю „рычага“, сказаў: „дайце мне пункт апоры— і я перавярну ўвесь сьвет“.

Марск знайшоў і „рычаг“, і „пункт апоры“ для вялізарнага абнаўленьня сьвету... і трэба толькі больш энэргіі дадаць да гэтага „рычага“, трэба адкінуць ад сябе астачу дарэволюцыйных адносін да соцыяльных навук наогул і соцыолёгіі ў прыватнасьці, трэба імі добра заўладаць і яны будуць нам служыць віткамі на нашым шляху да соцыялістычнае будовы, дзе шчасьце будзе забясьпечана ўсяму чалавецтву і дзе навукі атрымаюць нябывалы размах.

Такім чынам, мы прыходзім да вываду, што сярод навук адно з самых ганаровых месц павінны заняць навукі соцыяльныя (сярод іх і соцыолёгія), бо, папершае, яны таксама вырашаюць пытаньне аб шляхох, якія вядуць да павялічэньня ўлады чалавека над прыродай, што зьяўляецца канцовай мэтай усякае навукі, і, падругое, даюць чалавецтву ключ да соцыяльнага шчасьця.

---

# ЛІТАРАТУРА.

## ВЕРШЫ РУДНЯНСКАГА.

Радзіўся ў 1904 г., у в. Азьдзядзічы, Барысаўскага павету. Сын селяніна. Адукацыю атрымаў у школе II ступені, з 1922 году — студэнт Пэдфаку Б. Д. У.



А. РУДНЯНСКІ (БАРКАН).

Пісаць пачаў (па расійску) у 1920-21 г. Стала пішу з пачатку 1925 г. З тэорыяй літаратуры, а таксама творчасьцю як клясычнай, так і сучаснай вельмі мала знаёмы. Апошні недахоп спадзяюся папоўніць у літстудыі „Маладняка“ пры „Чырвоным Сьцягу“.

### МАЁЙ КОМСАМОЛЦЫ.

Я цябе ў аўсянішчы жаўцістым
З жменяю падрэзаных аўсоў
І з сярпом ў руках тваіх срабрыстым
Да грудзей апошні раз прыцісную,
Разьвітаўся хуценька, бяз слоў...

Вір вачэй пад броўным аксамітам
Не абмыла ты расою сьлёз.
Толькі ў столках кофтачкі расшытай
Штось хіснула Кім, як ветрам жыта,
І ўздрыгнуў мяцёлкамі авёс...

А цяпер ў асеньнюю імжаку,
Як калісь з табою на таку,
Малачу я жыта на рабфаку,
Каб асьвету сеяць мужыку.

Разышоўся ў кніжных я пакосах,
Прагавіта п'ю з крыніц-лістоў
Жыцьцятворна-мудрых думак росы,
Слухаю я гоман шматгалосы
Пройдзеных і будучых гадоў.

У мяне шырокая тут ніўка.
Не ахопіць вока паласу,
Не ўзьвярнуць пласта кляновым вілкам.
Як прыду дадому на пабыўку—
Шмат табе гасьцінцаў прынясу.

Ня куплю канвы табе калянай,
Ні пярсьцёнкаў, шпілек касьцяных,
А куплю аб працы між сялянак
Кніжак—даражэй табе яны.

І яшчэ вам радыё-прыёмнік,
Склаўшы па капейцы, я куплю.
І за ўсё аддзякуе, за ўсё мне
Тая ў сэрцы радасьць, калі ўспомню,
Што аздоблен навіною клюб.

Ну, а ты?... Таксама будеш рада,
Як калісь спатканьню на мяжы.
І апошні гук майго даклада
Вухам, вокам, сэрцам старажыць,

А пасьля у хатцы тваей ніцай,
Як даўней, пачнем з табою зноў
Пад сухотна-змрочны сьвет газьніцы
З сэрца ў сэрца думкі ліць крыніцай
Шчасьце піць да трэціх пявуноў.

* * *

Ну дык што, што восень за ваконцам
Ды спраўляе лецейку хаўтуры,
Палівае дол сьлязьмі бяз конца
Пад сумотны енк і посьвіст буры.
Ну дык што, што неба свае вочы
Захінула воблачнаю латай,
І глядзіць пахмура гэтай ноччу,
Як жарло бязмоўнае гарматы.
Што з таго, што яшчаркаю сьлізкай
Лезе ў твар асеньняе надвор'е,
І што сонца толькі гэтак нізка
Паднялося сёньня з-за ўзгор'я;
Што сівая, голая асіна
Верхавінай ветру б'е паклоны,
На дарозе поўняць калявіны
Лісьцяў спаўшых шолахі як стогны.
Ува мне іграюць і прадвесьняць
Дарагія, збыўшыяся мары,
І з грудзей цячэ, імклівіць песьня,
Як струменьні шпаркай Ніагары.
Як-жа, як-жа быць мне невясёлым,

Словы ў песьню як не·нітаваць,
Калі ўчора сябрам комсамолу
Зацьвярдзіла сходам уся братва.
Як з грудзей ды сонечным мотывам
Не цячы, сачыцца сугалосьсям;
— На сусьветнай Кімаўскай я Ніве
Коласам узышоў паміж калосьсяў.
Не, туга мяне не пераможа.
Што наўкола льле віхор шалёны,
Бо свае я радасьці памножыў
На такія-ж радасьці мільёнаў.
Ну, дык хай імжыць сабе навокал
І жалобную зямлю вадою
Мые неба,—мне юнацкім вокам
Сьвеціць сонца Кіма маладое.

**Я. Туміловіч.**

## ТАМ...

*Комсамолу Заходняй Беларусі і Польшчы.*

Там...
Дзе бруіцца
разгульны Нёман,
Дзе шуміць
каля рэчкі трысьцё...
Цяпер...
Шляхтай думка скована
Эх!..
Ныцьцё навальніцы,
Ныцьцё!
Так і
чуеш!
Гвалтуюць жандары,
Комсамол
Заклікае Ўсход!..
. . . . . . .
Наш адказ:
Мы сьмела ўдарым!..
Чуеш
Зьмена?—
Новага ўсходы.
Толькі
Слухай:
Катуюць вёскі,
Ў Перамышлі
Шалее „жонд“;
Бізуноў
Звар‘яцелых усплёскі
Заглушаюць
Сялянскі
Загон.
Бізунамі
Красуе Польшча,
Белы „ожал“
Смокча кроў!..
. . . . . . .
Эх!..
Загінеш панская Польшча
Ня ўпільнуюць
Цябе аковы.
Мы...
Акропім цябе праклёнам!..
Тваю дзікасьць
Загонім у вір!..
. . . . . . .
Ўскалыхнуцца
Камуны калёны...
Успаветраць
Варшавы
Жвір!

## Залётны М.

* * *

Аб тых днёх прапелі баляды,
Разьвеян мінуўшчыны міт,
Маёй ліры надта прынадзен
Новай песьні акорд—пераліў!

---

Эх, акорды мае, звонказычныя,
Новых радасьцяй сьветлых сыны
Мне сябрамі ў шуме сталічным,
Напяваюць пра лепшыя дні.

---

Мяне цягне абшар сінявокі,
Мяне цешыць радыё-шпіль,
У самалёце ляцеў бы далёка.
Рассыпаў бы адозваў пыл.

---

Я хацеў-бы гадоў цераз дзьвесьце
Над сьветам усім праляцець,
І пабачыць, як новых сталецьцяў
Сплялася ружовая сець.

---

хацеў-бы пачуць гымны тыя
І творы шчасьлівых вякоў,
Але вецер у магілах завые
На цьвінтары
Ля вясковых дуброў.

---

Не пабачыць мне тых дзён,
Ня пабачыць сонца разьліваў:
Не стрымаць парываньняў бурлівых
Аддаю журбы ціхай плён.

---

Я жыву на румяным дасьвецьці
Надыходам блакітных вякоў,
І чаго больш журыцца поэце
І плакаць балючасьцю слоў?

---

Аб тых днёх прапелі баляды,
Разьвеян мінуўшчыны міт,
Мае вочы заўсёды рады
І любяць сучасныя дні.

---

**Валеры Маракоў.**

* * *

Зялёны месяц над ракой
Ўстае ў крыштальных пералівах,
І ночка сінім васільком
Схіліла твар свой сіратлівы.

Ой, ночка!.. ночка!... над вакном
Рабіна блішча пазалотай,
І устаюць жаданьні зноў
Пайсьці за рэчку, на балота.

Пайсьці і песьняй маладой
Зноў ажывіць жыцьцё дубровы,
Што гольля нізка над вадой
Схіліла ў полымі сталёвым.

І дзе вясны жыцьцё цьвіло,
Дзе вецер песьні кідаў срэбрам,
Яна разгонам шчырых слоў
І зноў мо' скажа „ты патрэбны"...

Ой, месяц!... месяц над ракой
Ўстае, сьмяецца, б'е паклоны,
І ночка сінім васільком
Схіліла твар свой на загонах.

**Янка Бобрык.**

## УСПАМІНЫ.

Дні праскакалі зайцам,
Узьняўшы пыл слупом.
Я ўспомніў неяк зьнянацку
Пра тое, як быў дзіцём.

Помню, о помню хвіліны!
Вечар доўгі зімовы,
Калі я слухаў навіны,
Дзядзькі старога Яўхіма...

Помню, я помню як сёньня—
Бацька прыходзіў з кузьні.
Замурзаны чорны да званьня
Ў кажусе кароценькім курным.

Бачу хатку ў гольлі,
З маленькім вакенцам на поплаў.
Абапал дзьве стромкіх тапполі,
Лапамі гладзяць ей голаў.

Усё там цяпер—як бывала,
Усё тое-ж жыцьцё ахапляе...
. . . . . . .
Каровы няма,
Што калісьці на рогі брала...
Ну—брата, мяне не хапае...

**С. Шушкевіч.**

## ВОСЕНЬ.

Расьцілае з паўцінак восень
Шаўкавіста-срэбныя абрусы,
І сьмяецца сонцам з сваіх кросян,
І сьмяецца з зелянявай руні.

А як сэрца абаўецца сумам
Тады жмурыць чорны бровы-хмары,
І сьлязамі цёмнымі, як лугам,
Палівае шэрыя абшары.

Дыхаць ветрыкам пачне халодным,
З дрэў пажоўклае убраньне пазрывае,
Прабяжыць па полі, быццам воўк галодны.
Што ў дзень туманны крадзецца да стада.

Пугай-холадам на поўдзень гоніць
Птушак летніх цэлыя калёны,
І пусьціўшы плуг па шэрым полі,
Хварбай цёмнай ахварбоўвае загоны.

А на сход калі бяжыш ячэйкі
Сьвітку нехаця табе адзене,
І рукой чароўнай сваей нейкай
Сум у сэрца пачне кідаць жменяй.

Расьцілае з паўцінак восень
Шаўкавіста-срэбныя абрусы,
І сьмяецца сонцам з сваіх кросян,
І сьмяецца з зелянявай руні.

**М. Лужанін.**

## ЗВОНІЦЬ ВОСЕНЬ...

Звоніць восень сьпелай брусьніцаю
Скора беляй зіма зірне,
Бо ўжо шэрань над полем бруіцца,
Цярушыцца пухкі сьнег...

У ірдзяным кляновым лісьці
Дні ступаюць з нагі на ногу...
Словы звонкія—што карысьці,
Калі праўды ў іх ня многа.

Шэпча сагу радасны вечар,
Прытуліўшыся лашчыць мяне...
. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . .

Кліча восень усіх на веча,
Мяне толькі яна абміне.
Не засьне зелень сэрца пад сьнегам,
Не астудзіцца гурбай журбы,
Бо вясна сваім звонкім сьмехам
Страсяне бела-шызы пыл.

Над палямі ўжо шэрань бруіцца,
І цярушыцца пухкі сьнег
Прад журбой ня схілю голаў ніц я,
Выду першы на сустрач вясьне.

**М. Дубовік.**

## САСОНЬНІК ЗІМОЮ.

Зялёны сасоньнік
На белай раўніне,
Як радасьць каханьня
Да мілай дзяўчыны.
Трасе верхавінай
І з небам гамоніць
На белай раўніне
сасоньнік.

Зялёны сасоньнік
Сваей верхавінай
Расчэсае хмары,
Углядаецца ў сіні
І песьні краіне
Складае любоўна
Сваей верхавінай
сасоньнік.

Зялёны сасоньнік
Сьпявае і звоніць,
Хоць сівер бушуе—
Стыхіі законы
Ніколі й ніколі
Ня ўласны над ім;
Сьпявае і звоніць
сасоньнік.

**Алесь Звонак.**

## МЫ ТВАЕ ПРАЦОЎНЫЯ СЫНЫ.

Мы твае працоўныя сыны,
Беларусь—краіна маладая.
За цябе змагаліся гадамі,
Аб табе калісьці сьнілі сны.

—

А цяпер... Ня тыя сёньня дні—
Ты калосіш вольнымі палямі...
І куды, куды ня глянеш,
Усюды ўбачышь радасьці агні.

—

Нават ў вёсцы дальняй і глухой,
Дзе, здаецца, ціха і маўкліва—
Новым гоманам жыцьцё бурлівіць,
Новы сьпеў—ў жалейках пастухоў.

—

Вольны край палямі распасьцёр
Залаціста жытнявыя нівы...
І шуміць, шуміць зялёнагрывы,
Раскудрава-хмелевы прастор.

—

Ой, аб чым прасторы так шумяць!...
Разьліваюць песьні ў даль — бязь-
[межжа...
Гоман іх хмялёва-разьмяцежны—
Гэта гімны нашым вольным дням.

—

Зарасло мінулае быльлём;
Засталося толькі ўспамінам.
Новым дням мы правім акцябрыны,
Новым дням вітаньні ў песьнях
[шлём.

—

Перад намі ў будучыну шлях,
Перад намі вольная дарога.
Знаю, трэба сілы яшчэ многа,
Каб другой зрабілася зямля.

—

Поўны сіл мяцежна-маладых,
Не пакінуць працу нашы рукі...
Так, што дзень, у машынна-звонкім
[руху,
Год за годам прамінуць гады...

—

А тады убачым мы пару,
Аб якой бацькі ня сьнілі нават...
Дык шумі-ж, красуня Беларусь,
Нашых дзён шумліваю дубравай!..

. . . . . . . . . . . . . . . .

—

Беларусь—краіна дарагая,
Я, таксама, твой радзімы сын...
Я люблю твае палі і гаі,
Ніў жытнёвых галасы...

—

Я люблю цябе, мой край сярмяжны,
Я люблю сыноў тваіх—сялян,
Бо і я ў палёх тваіх брадзяжыў,
Бо і я быў сын тваім палям...

—

Хай цяпер радней мне бурны горад,
Яго вуліц стагалосы гул,—
Усё-ж я помню, помню я прасторы—
Не пазбыць жытнёвую тугу.

—

Мо затым і будзяць сэрца ўзмахі,
Узмахі вольным вольнага прастору...
... Як убачыў шыр жытнёвых шляхаў
Ой, ды радасьць ўзьвіць было пра
[што!..

—

А сустрэйся ў жыце з селянінам—
Як стараму другу я быў рад...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Ой! цьвіці калінай над краінай
Жыцьця новага чырвоная зара!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

—

Мы сягоньня поўны сіл мяцежных
У краіне молата й сярпа.
... Ці-ж забыць нам край, дзе Бела-
[вежа,
Дзе ўладараць: кат, жандар і пан...

—

Ці-ж забыць, што стогнуць беларусы
У паднявольлі, як раней калісь...
... Хутка быць Заходняй Беларусі
У вызваленчым полымі—агні.

—

Бо прыдзе час і змоўкнуць ланцугі...
Паўстануць міліёны на змаганьне,
Рака размые берагі...
... І заўтрашнім усьміхнецца
Раньне...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

—

... А тады сусьвет будзе айчынай—
Прыйдзе новая інакшая пара.
Зацьвіце чырвонаю калінай
Новага
жыцьця
зара.

---

Б—ы.

## Карчаваць трэба.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць пяты студнёвымі завірушнымі днямі падхляснуў люты і пашлі чорныя колы на сьнягох, што зьлежаліся, як халва... І застракаталі на ім праталіны...

Горад—нібы асілак са зьвязанымі рукамі. Кожную раніцу пад старэчы кашаль стоптаных тратуараў і скрып калёс прачынаюцца раздарожжы вуліц. І жыцьцё нейкай касалапай хадою йдзе да цэнтру, дзе адбіваецца яго жыцьцёвы пульс чорнай грудзьдзю.

А калі навалокся чорнай грудзьдзю змрок на горад, калі вуліцы бляснулі шэрагамі сьветлых электрычных гузікаў-ліхтароў—Якуб, нібы зусім няпрыкмечаны людзьмі, з клумкамі за плячыма сьпяшаўся да кватэры.

Ці даўно? Два гады, як ён на рабфаку. Два гады, як разьвітаўшыся з бацькамі і жнівеньскай раніцай журбовай, што баба на зносях, зашпарыў да станцыі... Менск...

Ва ўспамінах у яго праносіліся малюнкі першых уражаньняў, калі ён зьявіўся ў горад.

Дождж гультаявата сыпаў чорнае проса. Каменьні на бруку блішчалі старэчымі лысінамі, дзінькала конка, ды трывожна плявалі аўтамабілі гудкамі... А людзей шмат...

Успомніў, як піхаў прахожых... як усё хоча ўвабраць вачыма... Усё... і прыцягнуў свой „слуцкі дух“... Дзе толькі ня быў, каго толькі ня чуў, чаго ня чытаў, што не рабіў... і ўсё гэта было дзеля яго, як дождж дзеля зямліцы ў сухмень, у бяздождка. Казалі: налягай на рабфак, грызі навуку—не ганіся за ўсім, не асіліш... і жарыў ён ва ўсю... сілы было шмат.. сілы непарушанай, моцнай, юнацкай. Вось кончу—і далей айда! Усё зраблю, на што сіл хопіць. А іх шмат ёсьць... у яго... Ён зробіць. А Рыська... сустрэўся з ёй вясной на партыйным сходзе ў райкоме.

Маленькая, шустрая, з кароткімі стрыжанымі валасамі, што гэтак прыгожа спаўзаюць на лоб, завесяць у прозелень вочы... нос з невялічкай гарбінкай...

Сустрэліся... працавалі, гулялі... з тых часоў і жыць сталі разам. Зьвязалі жыцьцё любоўным вузлом... Адзіная мэта моцна ўкалочана ў жыцьцё... Жыцьцё крэпкае, сапраўднае жыцьцё.

Зьмяніўся ўжо не адзін дзень... Распыліўся... разьвеяўся... Змрок набег у вакно заліваць пакой попельным сьвятлом. Успыхвае лямпачка пад стольлю, сьвятло нейкае радужнае, яркае, глытае муць, зганяе яе да вакна, накіпае чарнатою.

За маленькім сталом, сярод рэскіданых кніжак, падпіраючы віскі рукамі, Рыська чытае Бухарына... чакае Язэпа.

Вось і ён здому. З вясковымі сухарамі, пернікамі, салам...

— Ну, Рыська, глядзі цяпер ва ўсе вочы, каб надоўга было,—і разьвязваючы клумкі Язэп доўга расказваў аб вясковым жыцьці, аб цемры вясковай, аб гнільлі, што засталося на вёсцы, аб сваёй працы там...

— Але і сухары... Рассыпаюцца, як белапанскія думы,—перабіла Рыська.

Язэп хлопнуў сябе па жывату... Але і я-ж ня еў ды ў цябе пасьля сталоўкі ня вельмі таго—пуста!

Пачалі рэзаць сала, укладваць кавалачкі на хлеб, салілі, елі. Толькі надуваліся шчокі....

— „Ты вось робішь усё: і газэта, і гурткі, і ячэйка, а акадэмічна адстаў; вось ёсьць яшчэ нядзеля, пасядзі, не хадзі нікуды—пачытай".

— „Цяпер ўсе павінны працаваць усюды. Жыцьцё трэба хапаць з усіх бакоў".

Узяў з клумка пернік, абмачыў у мёд, учапіўся зубамі, падмігнуў Рысьцы.

— Хапаўся за другі канец.

Хрускае пернічны ліст.

Растае мёд на губах. Цячэ янтарнымі ніткамі.

Губы пахнуць мёдам ліповым, душыстым.

І ліпнуць губы ў пацалунку.

— Рыська... трэйф,—сьмяецца Язэп.

— „Годзе,—сьмяецца Рыська.

І тады-ж селі за ліст:

„Дарагія бацькі!

Даехаў як сьлед і зноў сваім шляхам пашоў далей. Вельмі крутыя лескі, але круты і я... Дайду. Будзе час і магчымасьць—прыеду яшчэ вясной памагчы працаваць. Трэба і жыцьцё ваша ўзрушыць.

А за клумкі дзякую. Елі мы іх з Рыськай, ажно пальцы аблізвалі. Пішэце, як працуе новы савет, хто выбран у камітэт узаемадапамогі. Куды выбралі Пётру. Прывітаньне ад Рыські—рабфакам усватаная жонка. Прывітаньне ўсім.

Ваш сын Язэп".

Ён пісаў, Рыська чытала.

На што аба мне. Казаў, ня скажашь і не напішаш.

— Кінь, усё роўна... Факта ня вернеш, а „de jure"—ці-ж трэба?

— Але-ж...

Запячатаў конвэрт, адшукаў марку ў альгэбры, прыклеіў.

— Чуць не забыла: сёньня Чарвякоў даклад робіць.

Хадзем!

Хоць і з падарожжа—але вышлі на вуліцу. Горад узьлез высока сваімі агнямі... узьлез... рыхтуецца да ночы. На небе толькі з-пад хмурых расьніц—аблакоў выскакваюць зоркі, як вочы ўлюблёнага хлапца.

* * *

Вецер па дроту іграе, перабівае сваімі пальцамі туга нацягнутыя струны... мятуць ветры пурговымі мяцёлкамі, зьмятаюць сьнег у кучы, падганяюць людзей, конкі, аўтомобілі, плююцца ў вокны налятаюць на падарожных, круцяць... круцяць... галялёдзіца. Склізка... Сьнег кучамі зьбіраецца каля дамоў. Мяцельнаю раніцаю сьпяшаюцца да рабфаку. Сядзяць на лекцыях. Хапаюць словы. Пішуць, а потым, чуць накінуўшы кажухі, сьвіткі, шынэлі, бягуць да сталоўкі. Бяжыць увесь рабфак. Бягуць пачкамі, піхаючы, пераганяючы адзін другога.

У сталоўцы весела, шумна... перакідваюцца словамі, перакідваюцца хлебам. Чакаюць ня вельмі цярпліва чаргі... гутараць, а потым на гурткі... у чытальні, на сходы. Хто куды... Кожны працаваў.

Рыська і Язэп пасьля абеду разыходзіліся вельмі часта. Бывалі дні, калі зыходзіліся позна ноччу.

Дзяліліся посьпехамі працы. Чыталі газэты...

— Здаецца неяк і цесна тут. Ну што? Менск. Вось, мне здаецца, жыцьцё студэнта ў Маскве вельмі цікавае. Кожны дзень там даклады, літаратурныя спрэчкі, сходы, дыспуты... Ідзі, куды хочаш. У нас цясьней... Высунуўся крыху, ну—і здаецца, што йдзеш паперадзе, а там вучыцца ёсьць у каго!

Есьць, што мацней цябе!

— Але ты і тут увесь увашоў у працу гурткоў...

Што не здавальняе?..

— Неяк, здаецца, мала ўсё... сам працуеш шмат, але на чым вучыцца гэтай працы?

Вось кончу рабфак... У Маскву... Я, вось, вясной хацеў бы зьезьдзіць туды, паглядзець на жыцьцё там, дзе б'ецца міравое сэрца... Трэба праехаць, хоць паглядзець, павучыцца.

— Язэп! годзе, вось глядзі—новы верш Пушчы, годзе табе аб Маскве.—

— Што, Пушча зноў—ці з гораду ў вёску ідзе, апрануўшыся ў сьвітку, ці з вёскі ў горад з бярозавым кіем?..

Гэта іскра... Потым пачынаюцца спрэчкі... Спрэчкі аб літаратуры, залазяць у політыку і гэтак позна... пакуль стрэлкі гадзіньніка не пакажуць за поўнач... лажацца ў спрэчках... ляжаць з імі, і толькі тады, калі забастуе мозг—здаюцца, засыпаюць.

Так і было.. У пераліве дзён жыцьцё ўплятала новыя кольцы.

І ў іх адбівалася яно, як у люстры.

* *
*

Раскацістым маршам ішлі дні. Тыдзень паказвалі за тыднем свае хвасты.

Зрабілася цяплей... быў чуцён падыход вясны.

Почтальён адчыніў дзьверы—увашоў у пакой.

— „Здасьце—ну і брудна на вуліцы. Вельмі“!

Аддаў газэты, адчыніў сваю сумку, вынуў ліст, аддаў Рысьцы.

— „Чатырнаццаць капеек. Даплатное“.

Палезла ў кішэні Язэпавых майтак, дастала грошы. Пачтальён зачыніў сумку, паправіў яе, прабарматаў нешта сабе пад нос і вышаў, нібы нездаволены тым, што йзноў яму трэба йсьці таптаць бруду вуліц і двароў, ваявацъ з сабакамі, спрачацца з ядровым вясновым ветрам.

Але трэба йсьці: служба—ня дружба!

І пашоў далей!

Рыська пакруціла ліст, паглядзела на адрас.

— З дому Язэпа. Ну, хай і чакае яго... Палажыла на стол, сама прынялася за газэту. Не прайшла і гадзіна—расчыніліся дзьверы, нібы вялізарны вецер піхнуў іх.

Бадзёры, вясёлы, чырвоны ад вясновага ветру, ускочыў Язэп.

— „Затрымаўся ў выканаўчым. Усё справы аб шэфскай працы... Ну, а што ў цябе?—пытаўся скідаючы сьвітку.

„Ліст да цябе з дому...

— „Ліст... Паглядзімо!.. Разадраў конвэрт, вынуў лісток паперы з вучнёўскага сшытку, які быў увесь абпісан вялікімі вучнёўскімі літарамі... Пісаў малы браток, які адзін з сям'і быў пісьменным.

„Здароў, Язэп!.. Кланяюцца табе твае бацькі і пытаюцца аб тваім здароў'і. Напішы, парадуй нас...“

— Гэтак заўсёды, бачыш, што матка дыктавала, перарваў Язэп і ва ўспамінах паўсталі стары ў зморшчках твар, сінь пад вачыма ад старасьці, маленькая, худзенькая маці. Вечар, калі скончыліся працы дню, калі бацька ўжо сьпіць, яна прадзе і дыктуе Янку ліст да Язэпа. І Янка піша, робіць каракулі.. І гэта далёка за поўнач.

— „Жыцьцё наша што дзень да магілак бліжэй. Вось вясна скора. Працы будзе шмат. Мо'і ты прыехаў-бы дапамагчы працаваць бацьку, бо стары ён стаў.

Вось прыходзіла Агата, сватала Марыльку. Добрая яна ў гаспадарцы была-б, але вось у цябе некая Рыська. Што гэта ты з жыдоўкай, ці што жывеш і хто гэта за рабхат такі. Напішы.

Успакой маць сваю, бо ты-ж у нас адзін у сям'і пакуль што моцны... Янка яшчэ слабы, ды й хілы ён нейкі“.

Далей шлі паклоны, пажаданьні... а зьнізу зноў:

— „Ці праўда, жыдоўка? Напішы сынок...“

... Гэта шчырая прозьба маткі... Яе зразумеў Язэп. Тут, мабыць, былі і сьлёзы... „жыдоўка—Язэп“ гэта ніяк ня месьцілася ў галаве мацеры. Думкі мацеры думаў у гэты час Язэп...

Гадлівыя... сьмешныя... кусучыя, як крапіва.

— Цемра, яна ўрасла ў сялянскае жыцьцё.

Пачытаў Рысьцы... Уздыхнула.

— Вось скарэй бы вясна, лета, канец вучобе... скарэй туды.

— Карчаваць трэба. Карчаваць старое, карчаваць з карэньнем, каб не пладзілася больш... Карчаваць зусім, усё старое... Маладое ўзрасьце само. Глеба добрая—казаў крыху ўзвалнована, ходзячы па пакою Язэп.

Трэба!..

— А Масква?

— Хай потым Маскву ўбачым. Вёсцы зараз-жа патрэбны людзі... Зараз-жа трэба вырываць гнілое, абчышчаць жыцьцёвую ніву... Паедзем, Рыська!

— Паедзем! Адказ зразу, бяз думак.

— Ну а калі сустрэнуць ня так, як трэба?

— Ну дык што? Ці ў гэтым сэнс? Ня вельмі палохаюся гэтага... У працы заўсёды будуць перашкоды... Але-ж карчаваць трэба!..

* * *

І як пачаліся разьезды на вясновы адпачынак, Язэп з Рыськай з клумкамі за плячыма сьпяшаліся да цягніка.

— Каб пасьпець, каб не спазьніцца!

Праз падраны вузел клумка відаць быў вугал „Безбожника“, ды з падпахі тырчэў пук „Беларускае вёскі“... Жыцьцё піхала ў жыцьцё.

Карчаваць!.. карчаваць!..

Яз. Баршчэўскі.

# Кідралі Мамаяў.

(*Апавяданьне*).

Ёсьць дзе разгуляцца сьнежнай буры сьцюдзёнага ўрагану: шырокі, як глянуць вокам, кіргіскі стэп, дзеля гуляньняў дурэючага ветру, які кружыцца, агортваючы з усіх бакоў сваім халодным дыханьнем маленькія кібіткі вандруючых народаў.

Яшчэ ня гэтак даўно, гадоў трыццаць таму назад, у неахопленым кіргіскім стэпе ня чуваць было валотных зыкаў цягнікаў, а цяпер яны так хутка і часта імчацца ад Касьпійскага мора да цэнтру Расіі.

Адзінока прытульваюцца ў бязьлюдным стэпе чыгуначныя будоўлі. Жудасна, боязна жыць людзям, прыехаўшым здалёк...

Толькі адзін Кідралі Мамаяў адчувае сябе, як ня трэба лепей. Дый ня дзіва: ён-жа—сын, дзіця стэпнага краю. Стэп дзеля яго матка родная, стэп дзеля яго калыска, у якой ён радзіўся, правёў свае дзіцячыя гады, і ў стэпе вышаў-жа на ўласную дарогу жыцьця.

Шчасьлівыя былі яго дзіцячыя гады! Ужо дзесяцігадовым балашкай (дзіцём) ён спрытна скакаў вярхом на кані, кіруючы вялікім стадам авечак, якое належала яго бацьку.

Але вось надышлі цяжкія гады: чума пабывала на мірна-рухлівых стэпах. Падала жывёла, гіблі тысячамі і людзі. Шмат памерла ў гэтыя гады. Закапалі ў зямлю і бацьку Кідраліма.

Куды было йсьці?

Ні сродкаў, ні блізкіх-родных людзей.

Пяць гадоў валачыўся ад аднаго багача к другому.

Надаела.

Захацелася жыць самому.

Семнаццаці год Кідралі паступае ў дэпо на чыгунку. Ён з пачатку чорнарабочы, потым качагар. Цяпер ён ужо не палохаецца, як раней, сталёвых машын, а сам нават можа кіраваць імі.

Пачалася вайна ў 1914 годзе. Пабеды... Паражэньні... Кідралі ўсё разумеў.

А вось і лютаўская рэволюцыя. Кідралі кепска разумеў гэта слова. Але зьявіўся якісь чалавек нізенькага росту, а завуць яго бальшавіком.

Нізенькі бальшавік хутка зьвярнуў увагу на Кідралі; часта стаў бываць у яго зямлянцы, цікавіўся сям'ёй свайго новага таварыша, якая складалася з маладой квітнеючай, як шупшыньнік, татаркі і дзесяцігадовага сынка.

Наступіў ліпень 1917 году... Як віхор стэпны, праняслася вестка аб тым, што рабочыя гораду А. паўсталі, скінулі ўладу кераншчыны і парашылі кіраваць сабою самі.

Кіраваць самі!

Чуў пра гэта і Кідралі.

А можа быць так лепей?

Кіраваць самім.

. . . . . . . . . . . . .

Голад. Усе рабочыя, дзе служыў Кідралі, разышліся па стэпу шукаць хлеба, каб уберагчыся ад голаду.

Толькі ён застаўся, застаўся верным сваім цягнікам, каля якіх бадзяўся цэлымі днямі, як калісь каля свайго стада.

Цёплы дзень ліпеня...

Што гэта такое?

Нізенькі бальшавік з блядым тварам, узнэрвованы, раптам зьявіўся на парозе зямлянкі; вачамі дае ведаць Кідраліму аб нечым важным.

Бяз лішніх слоў кіргіз Кідралі зразумеў, што праз дзьве гадзіны на іх станцыю прыбудзе цэлы эшалён з „батальёнам сьмерці“, пасланым з Саратава дзеля расправы з паўстаўшымі рабочымі г. А.

„Белую сволач трэба зьнішчыць“—гаворыць бальшавік.

Але як?

„Ёсьць выхад: рабочыя будуць спасяны, калі з нас хто-небудзь ахвяруе сваім жыцьцём“.

Агнём запаліліся вочы Кідралі. „Мы павінны пахаваць іх у Волзе“!

Думка бальшавіка зразумела, але якім чынам выпаўніць яе?

Мост праз Волгу на далячыні 71-ай вярсты адгэтуль, які рассоўваецца, але хто рассуне яго?

Знойдзен выхад.

„У цябе ёсьць сын і конь; машыніст-жа маста такі самы бальшавік, як і я“.

Нізенькі каштанавы з тонкімі ножкамі конь аседлан.

Кідралі пэўным рухам пасадзіў у сядло свайго сына. Бальшавік улажыў у шапку наезьніка маленькі конвэрт і пацалаваў у скулістую шчоку малога дзіцяці.

Праз хвіліну конь схаваўся ў стэпных далях.

Між тым тэлеграф атрымаў паведамленьне: як найхутчэй падрыхтаваць тэрміноваму цягніку паравоз і брыгаду.

Паравоз ёсьць. Але дзе брыгада? З усіх служачых засталіся толькі двое.

„Тым лепей. Мы павінны везьці склад цягніка“.

Але зачым гінуць абодвым?!

Жэрабі!!

Рука Кідралі аказалася на версе палкі. Яму трэба выканаць вялікую справу. Ён павінен везьці „батальён сьмерці“ на сьмерць.

Цьвёрдай рукою адчыніў Кідралі рэгулятар паравозу.

Цягнік рушыўся з месца.

Куды?

Ведаюць толькі ўдвох...

. . . . . . . . . . . . .

Сонца на заходзе. Птушкай ляціць хлопчык-наезьнік. Няма стамленьня. Шапка з ім.

Скора, скора мост...

Гадзюкай паўзе сумны цягнік. Злосна глядзяць жорла пушак у стэпную даль. Сумна гудзіць гудок паравозу; трывога ў яго зыках. Як быццам гэта жалезная гушча адчувае, што скора канец. Гэтыя зыкі апошнія, скора халоднае дно Волгі.

У сінюю даль кінуў свой погляд Кідралі. Блізка ўжо сьмерць.

А стэп такі прыгожы! Зыкі калёсаў злучаюцца разам з песьнямі птушак... Успамінаюцца дзіцячыя гады, бацька, стада авечак, шырокі прастор стэпаў.

А сям'я?

Што будзе з сынам?

„Не! ня хочуісьці на дно рэчкі. Тут лепей; стэп, родны стэп“ —праносіцца ў галаве Кідралі.

„Лепей жыць! Гэта-ж у маіх яшчэ руках. Стоіць толькі ўсіліць ход машыны, абагнаць сына і я праскочу халодную магілу“.

Мімаволі рука машыніста цягнецца да рэгулятару. Але думка аб тым, што яго сьмерць захавае жыцьцё тысячы людзей-рабочых, гоніць прэч трусасьць і вочы зноў напаўняюцца агнём...

Вечар. Сонца, раскідаючы на гарызонце мільярды чырвоных агнёў, заходзіла.

Скача сын...

Імчыцца бацька і думае, ці пасьпее сын?

Але пакет ужо ў руках „магільшчыка“. Ён чытае:

„Рассунь мост, будзем купаць белых. Хлопчыка схавай. Ільлін“.

Зразумела!

Саракавая вярста... Засталося толькі дзевяць вёрст жыцьця.

Стукаюць калёсы. Памаленьку дыхае паравоз. Дрэмлюць вартаўнікі, якія абараняюць машыніста. Як зайдросьціць ім Кідралі. Яны памруць зразу, ня бачучы на твары сьмерці.

Але вось відны аганькі з волскай прыстані.

Хутка...

Без перабою застукаў матор чыгуначнага маста,

Хвіліна і палавіна маста патроху пачала адыходзіць. Усё шырай і шырай. Глыбей і глыбей расла магіла...

Спыніўся матор. Гатова.

Сьпяшаць калёсы.

Зачым сьпяшаць?

Адна вярста засталася. Адна вярста жыцьця.

Хутчэй, хутчэй на сьмерць!

Рэгулятар адчынен да адмовы. Ніколі так хутка ня мчаўся паравоз, як цяпер.

Агні... Шмат агнёў бачыць Кідралі, але гэта не агні жыцьця, а тусклая сьвечка каля яго дамавіны.

„Жыцьцё, альбо сьмерць“?

— Мільганула ў галаве Кідралі.

Але цяпер ужо позна.

Калёсы паравоза на рэйках маста. Мацнее стук.

Балючай і больш зжалася сэрца.

Дзе стэп?

Няма яе!

Вада, вада, навокал вада і агні.

На хвіліну ўсё сьціхла.

Потым моцны шум вады.

Заенчылі людзі, заенчыла жалеза ў хвалях Волгі...

. . . . . . . . . . . . . . .

Сьмерцю храбрых пагіб Кідралі.

За што пагіб?

Ён ведаў за што!

За людзей, якія хочуць уладаць сабою самі.

---

# БЫТ.

Дзяцел.

## Сон Яна.

Сплючы, Ян раптоўна заварушыўся і задрыгаў нагамі й рукам на ложку, як быццам ён адбіваўся ад пчол ці вылазіў з вады. Твар яго пакрывіўся, кулакі усё больш зжымаліся, нібы ён хацеў каго расьцерці ў парашок. Потым ён зразу супакоіўся, салодка пацягнуўся, а твар прыняў задумленны выгляд. Пэўна, Яну зрабілася вельмі прыемна.

У мінулым годзе Ян жыў у вагульным студэнцкім памяшканьні. Сёлета ён таксама застанавіўся ў ім, але ўжо ў новым. Яно куды лепш леташняга як з надворнага боку, так і ў сярядзіне. І Ян засынаў учора пад уплывам новых абставін, разважаючы аб дасягненьнях нашае дзяржавы і раўнуючы жыцьцё мінулага і бягучага гадоў.

І сьнілася яму, што нібы зноў ён у старым памяшканьні. Шкоднае паветра драпае ў носе. Навокал памяшканьня ямы, канавы з гразёю, кучы сьмецьця й ламачча рознага да другога паверху. Шкла ў вокнах ня відно зусім, а замест яго тырчэлі кальсоны, кашулі і рознае іншае адзеньне. На ўсходах вялізныя і маленькія кучы сьмецьця. А калі ён увашоў у першы пакой, то зароў немым голасам. Кавалак штукатуркі адарваўся ад столі і захваціў канцом па яго носе.

Паветра было запоўнена пылам так, што цяжка ў ім было ўгледзець „насельніцтва". Пасярод пакою стаяў стол, а на ім ляжалі: кнігі, папера, чайнікі, кубкі і іншыя „прылады". Навокал стаялі студэнты і штось жавалі. Каля вакна спрачаліся два студэнты. Яны ўпэўнівалі адзін другога ў неабходнасьці захаваньня гігіены ў жыцьці.

— „Патрэбна зьмяняць бялізну ня менш, як два разы на тыдні, —кажа медык,—а ты носіш яе ўжо чатыры тыдні; а калі скінеш, то кладзеш яе пад галаву. Усе паразыты выпаўзуць і зноў на цябе".

— „А куды ты захаваў сваю"—адказвае іронічна пэдфакавец, паказваючы на ложак мэдыка, дзе з-пад падушкі тырчала бялізна.

Той упэўнівае, што бялізна там часова, і што пры жаданьні яе можна альбо ў паперу моцна завязаць і пад ложак, альбо на нітачку падвесіць да столі, альбо як іначай.

Ад усяго гэтага ў Яна галава закружылася і яму захацелася піць. Але вадаправод быў сапсаваны, а з кухні яго выгналі нават з лаем і яму прышлося ісьці толькі ў Сьвіслач, каб напіцца. А калі захацеў ён пасьля адпачыць, то яму сказалі, што трэба падлогу мыць, дровы насіць, калідор месьці, вады прынесьці, куб нагрэць і г. д.

Справіўшыся са ўсімі заданьнямі, Ян сеў пачытаць, бо да мінімуму ў яго нехапала трох залікаў. Ён хутка паглыбіўся ў кнігу, але ненадоўга. З усіх бакоў да яго даносіліся спрэчкі, а праз некалькі хвілін ён паляцеў з зэдліка на падлогу. Гэта таўхануў яго таварыш, які ўцякаў ад свайго опонэнта, што хацеў упэўніць у сваей праваце

кулакамі. У бібліотэку ўжо ісьці было позна і Ян і сам далучыўся да дынамікі жыцьця і пратаўхаўся рэштку дня па памяшканьні. А ноччу ён ваяваў з клапамі, якія рабілі на яго наступ, якія абкружалі яго ўсё цясьней і цясьней і, абліваючыся халодным потам, Ян праснуўся.

Навокал было спакойна. Блакітныя сьцены пакою давалі адпачынак яго вачам. Праменьні сонца забаўляліся на падлозе і на сьценах. Ян радасна ўздыхнуў у новых абставінах і абцёр твар рукавом. Ён яшчэ раз абвёў вачамі навокал, як бы ўпэўніваючыся ў сапраўднасьці абставін, потым усьмяхнуўся і, адзеўшыся, пачаў чытаць, чакаючы гарбаты.

С. К.

# Дзень.

**Архітэкт.-Дарожн. Будаўнічы тэхнікум.**

Восем гадзін раніцы. Званок. Пяць хвілін,—і ўсе на нагах. Кожны стараецца выпіць гарбаты і каб не спазьніцца. На куб атака. Грукат, звон, беганіна з пакою ў пакой.

— Слухай, браце Зьмітрок! у мяне толькі хлеб ёсьць, цягні сюды цукар і масла.

Адзін у другога бярэ, адзін другому нясе, што мае. Пугаюць гарбату; калі дастаў цукру—добра, а то-дык і так.

Дзевяць гадзін. Званок на выхад.

Стрымгалоў нясуцца ўніз па ўсходах. Курцом толькі горш. Бягучы кожны хоча захапіць махоркі. Гандляр дае ў крэдыт. Затое, як прыдзе нядзеля, ён ходзіць па агульным памяшканьні і гукае: „з каго атрымаць, нясі!“.

Ведаючы ўжо гэта, курцы ходзяць увесь тыдзень за інжынэрам і просяць: „т. Шпунт, можа агулам працы дасьце“. Глядзіш—і адхапілі кусок працы разьлічыцца за махорку.

Праз некалькі хвілін у агульным памяшканьні глуха і ціха. З дзевяці да двух гадзін лекцыі, цішыню якіх парушае толькі званок.

У дзьве з паловаю гадзіны—полудзень. Тут 100% колектывізму. Хвіліна—і падвал запоўнен „истребителями“. Не спраўляецца дзяжурны цягаць хлеб, бо хлеб ніяк ня можа „стабілізавацца“ на стале. Падаецца хутка тое што завецца полудзень. „Хлопцы, на полудзень сёньня „гультайскі суп“!

Тут жа зараз за сталом і альгэбра ў хаду. Усё па матэматыцы. Даказана: зьесьці два палудні зусім ня грэшна затым, што $1^2=1$ і што найлепш палуднуваць па сыстэме Тэйлора, гэта—не паднімаць галавы ад міскі, каб не патраціць лішняе энэргіі.

Кончана! На стале, як на полі барацьбы, застаюцца толькі косткі ды скарынкі. Скардзіцца толькі экономкамісія, што ўсё гатавалася цэлы дзень, а зьнішчана за паўгадзіны.

— Сьвісьні, у каго курыць!

— Эх, і махорка-ж у цябе! Што гэта за нумар, хіба $2^1/_2$? Вельмі-ж нейкая жоўтая.

З 4-х гадзін да 8-10 увечары зноў лекцыі. А калі няма да 10 гадзін лекцыі, дык сходы ячэйкі, гурткоў, або політзаняткі. Самыя цяжкія лекцыі ўвечары. Усе спэцыяльныя прадметы. Нават і ў 12 гадзін ночы, зайшоўшы ў тэхнікум, убачыш, як хлопцы пацеюць над проэктамі дамоў.

У дарожнікаў—праверка пройдзенага.

— Якія ухілы бываюць, тав. В?

— Ухілы? Розныя бываюць: пролетарскія і дробнабуржуазныя.

— Ды не, дарожныя...

І зноў у агульнае памяшканьне. Зноў цішыня, але ўжо не затым, што няма нікога.

Не! Паслухаўшы каля кожных дзьвярэй, пачуеш: Икс лямда, лямда икс. А ў другім пакоі —„супрацiўляюцца“, вінт разьвінчваюць: ПД²=4 (супрацiвленьне матар‘ялаў).

Што пакой, то й лябораторыя. Нават ноччу можна пачуць, як хто-небудзь спрасонку бурчыць: „цела будзе ў няўстойчывым становішчы тады, калі...“

— Аб чым гэта ты Іван, барматаў? Што гэта за цела там у цябе?

— Ай, браце. Мэханіку трэба яшчэ здаць...

— Чудак! Сьпі нішкам. Чакай дню кастрычнікавае рэволюцыі— амністыя будзе.

Гэтак цячэ з дня на дзень жыцьцё ў слухачоў Архітэктурна-Дарожна-Будаўнічага тэхнікуму. Не здарма кожны кажа: „нават хварэць няма часу, у амбуляторыю няма калі схадзіць“.

**Мік. Жучко.**

# З нашага жыцьця.

*Комуністычны Унівэрсытет Беларусі.*

### Новыя й старыя.

К пачатку заняткаў кожны цягнік прывозіў к нам, старым вучням новага комуністычнага ўнівэрсытэту, групы новых таварышоў.

Уся Беларусь глядзела, здаецца, праз іх вочы. Кожная акруга мела ў іх ліку прадстаўнікоў, а „прадстаўнікі“—загарэлыя, абветраныя хлопцы, якія ўжо даўно пераажылі юнацкую пору свайго жыцьця і працы, наддавалі ўражаньне, гаворачы павайскову, „дужа абстрэленых байцоў“.

І новыя і старыя перамяшаліся. Не адрозьніш адных ад другіх. Гэта адна сям‘я, гэта дзеці КПБ, і па шляху жыцьця і працы шмат каму прыходзіцца сустракацца аднаму з другім.

Думкі і гутарка ў горадзе аб працы і дасягненьнях у вёсцы. „Старыя„ распытоўваюць аб працы ў знаёмых раёнах, а „новыя“ закідваюць вуды „старым“: як, ці ня вельмі цяжка вучыцца, ці даволі падручнікаў, якія кіраўнікі, як жыцьцё, і ўсе з нецярплівасьцю чакаюць пачатку заняткаў.

### Дзень.

Галасісты званок заве ў габінэты. Ня ўсе яны падрыхтованы, а затым якія абсталяваны—перапаўняюцца студэнтамі.

Вось вялікая грамада абступіла тав. Кацэнбогена.

Тут закладаецца моцны грунт марксыцкаму выхаваньню. Тут пачынаюць вывучаць разьвіцьцё грамадзкіх форм, і загэтым іх, новых, так цікавіць археолёгія, этнографія, шэль і ашэль, Гэйдэнбэрскі і Нэандартальскі чалавек.

Вось габінэты матэматыкі, расійскай, беларускай мовы, географіі, эномгеографіі, політэкономіі і іншыя.

Дзесяткі схіленых над кнігамі, над паперамі галоў, дзесяткі думак, захопленых адным: навучыцца.

Вось габінэт гісторыі партыі.

Запрашаю: загляньце к нам сюды, бо не мастак я, ня хопіць здольнасьці і хварбаў, каб расказаць вам аб захапленьні працай.

Не! Лепш за ўсё зайдзеце самі!

**Гутаркі.**

Адзін з кіраўнікоў мне кажа: „Баюся. Разьлічылі мы заняткі так, што наўрад, ці т. т. з програмаю справяцца. Можа прыдзецца трохі скарачаць. Адукацыя малая“.

А праз тыдзень ужо казаў: „Ведаеце, не пасьпяваю за імі ўгнацца. І старыя і новыя аднолькава прагнуцца да працы, да навукі. Я дзіўлюся, на іх гледзячы“.

Габінэт беларусазнаўства. Не беларусам — гэта адна з цяжэйшых спраў.

Але ці ёсьць на сьвеце што-небудзь такое, чаго ня можна выканаць, калі яно ўкладваецца ў межы чалавечых дасягненьняў?

І праз некаторы час хлопцы ўпарта шукалі месца беларускім словам у расійскай гутарцы, і хоць мова гэтакім чынам падобна на разьбітую музыку, але ўсё больш будуецца на беларускі лад. І ў хлопца твар расплываецца ўсьмешкай ад здавальненьня:

— Цяпер я на вёсцы гутарку як трэба павяду.

То тут, то там прарэктар, тав. Лур'е. Відаць, вынікамі задаволен.

Праца йдзе на лад, праца кіпіць.

**Д. Ок-с.**

# Па лесках.

Прынялі ў Унівэрсытэт.

Атрымаў месца ў агульным памяшканьні. Чатыры паверхі на вузкай вуліцы. Парадны ўваход. Зломаныя дзьверы. Багадзельная, 11.

Чорны ход—брудныя, цёмныя лескі—выходзіць на брудны двор. Па іх і не хадзілі.

1922. Пяць у пакоі. Пацукі і мышы. Усе мэдыкі. Атрымлівалі стыпэндыю. Муку мянялі потым на чорны хлеб, селядцы, гарэлы алей.

У пакоі холадна. Перлі дровы з анатомкі — адлегласьць значная. Палілі жалезку.

...Раніца. Падымаюцца рана-рана. Янка—за сподак, налівае алей, рэжа хлеб. Аж пішчыць нож у чорствым хлебе. Жруць з ахвотаю.

Паелі... І хто куды.

У анатомку—да абледзянелых мерцьвякоў, да жалезнае печкі з сырымі дрывамі, да працы ў дыму, што выядае вочы.

На біржу... шукаць працы. Зарабіць...

Да абеду зьбіраліся. Хто пазьніўся—еў халодную араўскую кашу, што хутка застывала, як дрыгва.

Зьбіраліся позна. Пачыналіся гутаркі, спрэчкі, сьпевы — гэта ў цёмным пакоі, дзе адсьвечвае сьвет з печкі. Радасьць бывае вялікая, калі дастануць дзе-небудзь сьвечку.

На словы ня былі вельмі скупыя. Даходзілі і да „матаў“.

„Сволач“—лаяліся дзяўчаты. Гэта слова вельмі паважалі.

Клаліся позна.

Гэтак жылі. Вучыліся ў пакоях мала. Залікі-ж здавалі. Зубрылі вясною ў садзе,раскінуўшыся на траве.

**Новыя часы—новыя сьпевы.**

1923. Ня цягнуць больш мукі. Схаваўся алей. Пацяглі хлеб булкамі.

Стыпэндыя натурай памерла.

Нэкролёг—8. Восем рублёў стаў атрымліваць стыпэндыят.

— Каў-ба-сы!

— Сыры.Зроду ня еў. Даеш!

— Са-ла!

І гэта было. Было ўсё ў дні атрымліваньня стыпэндыі. Апэтыту хапала.

Але потым, пад канец месяца... лепш ня будзем аб гэтым казаць.

Была сталоўка. Цесна... Стаялі поруч. Абедалі... Але каб далі замест аднаго тры—зьелі-б.

1924. Ужо 3 памяшканьні. 12. 2 сталоўкі. У вагульных павеяла новым ветрам. Старыя загубіліся. Чытаньні. Гутаркі. Новыя людзі—новае жыцьцё.

Зьмяшаліся факультэты. Пэдфак... Мэдфак... Фонавец...

„Первая подгруппа металлов характеризуется тем, что при действии углекислого натрия в присутствии хлористого аммония и аммияка“...

пачынаў бубніць мэдык, які падняўся з самага раньня. Ён яшчэ і твар не абмыў і валасы яго, як слуп, стаяць на галаве. Спачатку добра... толькі храп другіх мяшае, але вось праз сьценку чуваць:

„Дэтэрминизм... Триада Гегеля... Пятичленная формулаПлеханова“... А з другога боку—сьмех тых, што ўстаюць.

— Не падрыхтую! Пачалі ўжо... І мэдык стараўся, як мага.

— Даволі! Ідзі чай піць.

— Ай, адстань.

А ў бары, бары,
Тры дарожанькі...
Гэй, гэй-гэй, гэй!..

Засьпяваў, прачнуўшыся, сусед мэдыка.

— Заткніся, Язэп! Чаго заараў.

Мэдык вушы заткнуў і... далей.

„При следах окиси железа получ ется зеленая жидкость“...

Але ў пакой укаціліся хлопцы з другога пакою.

— У вас цукар? Даёш!

— У нас ня хопіць.

— Купім—аддамо.

— Сядайце!.. Пачалася гутарка.

Мэдык зусім забіўся ў кніжку. Папілі чай. Вышлі.

— Вось добра. Адаткнуў вушы. Зачытаў.

Адчыніліся дзьверы:—Дзе „Савецкая Беларусь“?

— Няма,—адказаў злосна. І зноў пастукалі:

— Табе картку на хлеб трэба ўзяць.

— Ідзі ты з карткаю..

„Если будем действовать... если подействуем...“

і амоній, аміак—усё спуталася ў яго галаве...

— Мо старое барахло ёсьць?—прасунулася нечая галава.

— А ну вас...

Кінуў кніжку. Схапіў шапку. Вышаў...

Вышаў... Гэтак вучыліся...

### І грызі і насі.

15. Стаўка на 17. Пакуль толькі стаўка. У вагульных рэмонт. Заўсёды на зіму, а ня летам, калі ў агульных было пуста. Зьбіліся ў адно. 20—25 у пакоі. Весела... але і ня вельмі.

У сталоўцы—чарга ў чатыры паверхі... Таксама рэмонт. Тры сталы. Па 300 абедаюць.

Але нічога... З практычных—у цырульню.

— Скіньце, калі ласка, халат.

— Нічога.

— Не, скіньце.

Скінуў. Пабрыўся—у клініку. З-пад пахі—булкі, абаранкі, у кішэні—папіросы.

— Каму?

— Трэба-ж паслухаць хворага. Трэба і даць, бо ня вельмі так даюць стукаць і слухаць. Прынясеш—паслухаеш.

... З клінікі—з радасьцю: ведаю, як адрозьніць акцэнт ад шуму. Ведаю.

Гэтак „грызём“, гэтак і носім.

Гэтак віхурыцца жыцьцё!

Я. Дзяркач.

## Абразок жыцьця.

Прыватная кватэра двух студэнтаў. Па хаце раскідана бялізна верхняе адзеньне. Ложкі ссунуты ў адно, каб цяплей была спаць, бо ў хаце клімат быў вільготны, з халадком. Але не зважаючы на гэтакае становішча рэчаў, хлопцы спалі, як пшаніцу прадаўшы.

Раптам адзін з іх прачыніў вочы, лупнуў імі разоў два, пацягнуўся і сказаў:

— Ось сьпіцца, усяроўна, як на дождж..

Другі так хутка ўскочыў і сеў на ложку, як быццам з гарматы стукнула каля яго.

— Што, дождж? спытаў. Абодва сунуліся да вакна і... ахнулі.

Васеньняя халодна раніца.

Дождж льле, як з вядра; гразі па калена.

Ад вакна абодва, як па камандзе, перавялі вочы на свой вобуў.

У ваднаго гамашы „прасілі есьці“, альбо, па вобразнаму выразу іх уласьніка, „адчувалі моцнае ўнутранае расьцяжэньне молекул“, дзякуючы чаму яны мелі па адной вялізарнай зяпе спераду і па некалькі драбнейшых ззаду і з бакоў.

У другога боты ня мелі ніякага „базісу“. Зьверху яшчэ сюды-туды, нават глянц быў; а зьнізу ня было нічога, усяроўна, як там па штату было так паложана.

Зірнулі адзін на другога.

— Трэба, брат, вобуў папраўляць.

— Амэрыку знашоў. Але за што?... Перш грошай дастань, а потым...

— Грошай. Лёгка сказаць, а адкуль іх дастанеш. З калена ня выламіш.

— Ось у тым-та й загвоздка. Хіба дзе ўнешчы заём зрабіць?

— Зробіш, чаму-б не. Так от табе і дадуць. Скажуць яшчэ: „От дзякуй вам, тав. Даўбенька, што хочаце пазычыць, а то ў нас і дзяваць няма“...

— Сам ты даўбенька, ні больш, ні менш. Трэба, брат, політычна.

— Бач ты, політык! Ну, добра. Даручаю табе зрабіць заём на якую хочашь суму і на які хочаш тэрмін.

— Добра ўсё гэта. Але ў чым я пайду? Бач, якія гамашы!

— Гэта будуць дадатковыя факты да твае політыкі. Як раз: і політыка і факты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сустрэліся толькі ўвечар.

— Ну, як твой заём?

— Чаму гэта ён толькі мой? А хіба табе самому грошы непатрэбны?

— Патрэбны, чаму не. Можа дасі крыху?

— Трасцу табе ў бок, а ня грошай. Ідзі сам сабе пазычай.

— А ты сабе пазычыў? Урррраааа!!

— Ціха, каб табе... Пазычыў, чаму не. А хвігу ня хоч?

— А я ўжо быў рад, што ты дастаў грошай. Думаў: боты паправім, дык па чарзе будзем насіць цэлыя.

— Адстанъ ты ад мяне... Прычапіўся, як смала.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ну, як справы. Можа дзе што клюнула? А?—казаў, таемна пасьміхаючыся, таварыш Даўбенькі—Хораш.

— Нешта ты хітра пасьміхаешся—адказаў той.—Ну, хваліся, што ёсьць. Ну, ды кажы-ж! Яшчэ маўчыць. Ось, каб цябе...

— Я, брат, знашоў спосаб грошаў дабыць.

— Які?

— Пісаць!

— Як пісаць, што?

— Ну, вершы, у газэту. Хочаш паслухаць, што я напісаў?

Даўбенька пырснуў са сьмеху.

— Чаго ты?

— Выбачай, браце. Я ня ведаў, што з талентам жыву. Ну, чытай!

— Слухай, назва: „Каханьне“. Поэма.

Ой, за гарою,
Ой, за зеляною
  Дзяўчынка арала;
У яе кабылка,
Ой, маладзенька
  Цэлы дзень кульгала.

Ложак трашчаў пад Даўбенькай, які корчыўся са сьмеху. Хораш перш сам ухмыляўся, а потым бачучы, што той не пакідае сьмяяцца узлаваўся.

Адсопшыся крыху, Даўбенька пачаў хваліць вершы:

— Харäство, яй-пра. Адно харäство, прыгожасьць, мілагучнасьць. Ну, брат. Цяпер Слуцак стане ўсім вядомы. Дасюль быў са Слуцку адзін поэт—Цішка Гартны, а цяпер будзе яшчэ адзін—Цішка Хораш, і зноў пакаціўся са сьмеху, гледзячы на Хораша.

А той думаў:—Чорт ведае што. Цяпер і сам бачу, што дрэнна. І як гэта, што шмат так пішуць і ўсім удаецца, а ў мяне—дык нічога ня выходзіць. Ніякага сэнсу няма!

Даўбенька-ж казаў:—Раю табе, браце, лепш гэтым глупствам не займацца больш.

— Сам ведаю гэта,—буркнуў Хораш.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сустрэліся сярод дня неяк зьнячэўку на вуліцы. Абодва вясёлыя, жвавыя, жыцьцё ў кожным руху відаць.

У адзін голас, як па камандзе, крыкнулі:

— Можаш паздравіць!—і моцна, весела засьмяяліся.

— У цябе з чым?—папярэдзіў Хораш, бачучы, што Даўбенька хоча спытацца.

— Маю вурок—з задаволенай усьмешкай адказаў той і хітра паглядзеўшы на Даўбеньку дадаў:—На цэлы чырвонец, разумееш? На чырвонец! А ў цябе?

— У мяне глупства. Пасаду праз якіх дзён тры атрымаю на рублёў трыццаць,—адказаў той з сур'ёзным выглядам, але ня вытрымаў сур'ёзнасьці. Рот расплыўся амаль да вушэй і сам ён так паглядзеў навокал, як быццам казаў: „Цяпер мне і сам чорт ня брат“.

— Калі-ж ты пачнешь займацца з сваімі вучнямі?—спытаў Хораш.

— Заўтра.

— Ого, добра. Значыць, з цябе магарыч. Але выбачай, часу няма, трэба бегчы.

— Чакай, чакай. Што-ж у цябе, дзе ты пасаду атрымаў, як. Раскажы!

— Часу няма. У Дзяржстраху, агэнтам-аквізытарам буду.

— Як, як? Агэнтам-інквізытарам?

— Аквізытар, а не інквізытар. Значыць, агэнт, што людзей страхуе. І раён добры папаўся: уся профэсура, усе служачыя ўнівэрсытэту. Ось заработак. Ну, але бывай.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Увечар вылічвалі, хто колькі за месяц выганіць...

У Хораша йшло вельмі гладка: калі кожны застрахуецца на 1000 рублёў хаця на дзесяць гадоў (менш, па яго словам, няма ніякага сэнсу страхавацца), то ён будзе атрымліваць першы месяц рублёў 25 процантаў за застрахованых, другі месяц—пэнсію 30 руб. і процантаў 30, трэці—пэнсію 30 і процантаў 35 і ...у канцы ў абодвых ад тае сумы, што будзе атрымліваць адзін Хораш, пацякла сьліна.

Бедны-ж Даўбенька нічога ня вылічваў, бо ў яго, апрача аднаго вуроку, больш няма ў проэкце нічога (можа-можа набяжыць другі якнебудзь).

Але здаволены былі абодва. І лажучыся спаць, Хораш казаў:—Ну, і набегаліся-ж мы, браце. Стаміліся як за гэтыя дні!

— А ўсё боты вінаваты,—адказаў яго сусед.

— Але затое цяпер зажывом! Новыя сабе паспраўляем!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло днёў тры.

Хораш прышоў да дому чорны, як хмара.

— Што з табою?—спаткаў яго таварыш.

— Чэрці! Не разумеюць таго, што з кожным з іх можа ўсякі час здарыцца няшчасьце, што іх можа забіць цагліна, зваліўшыся на галаву, што кожны з іх можа ногу сабе зламаць, што...

— Што? ня хочуць страхавацца?

— Ня хочуць, ня хочуць,—передражніў той.—Вядома, ня хочуць! Ды й яшчэ нават сьмяюцца!

— Кінь глупства. Ідзі лепш памажы мне задачу рашыць. Ведаеш, папросту—дык выходзіць, а ось прогрэсію—дык ніяк не злажу.

— Адчапіся! За што мы боты паправім. А замерзне ня скора. Да зімы далёка яшчэ.

Абодва задумаліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усё гэта было даўно.

Цяпер Хораш мае сталую пасаду на 35 рублёў (ад агэнцтва ў дзяржстраху ён даўно адмовіўся), а Даўбенька мае тры вурокі па чырвонцу, і нават прогрэсіі ў яго складаюцца добра.

Толькі калі-ні-калі, як яны бываюць у добрым настрої, успамінаюць мінулае і Даўбенька заўсёды пачынае:

— Эх ты, агэнт-інквізытар!

На што Хораш адказвае:

— Маўчаў-бы лепш, прогрэсія,—
і абодва весела сьмяюцца.

Боты ў іх цяпер таксама ў абодвых цэлыя.

**Кахановіч.**

# Клюб.

1924-ы год. Пасяджэньне ЦБ Беларускага зямляцтва ў Маскве. Па апошняму пытаньню слова мае т. К-я.

— Таварышы! Ці заўважылі вы, як на агульныя сходы нашы зьбіраецца мала студэнтаў. А чаму? Праца організацыйная паміж іх не вядзецца. Прычына—няма памяшканьня. Я ўношу „прапазыку“: знайсьці памяшканьне пад клюб.

— Грошай поўна трэба будзе,—адказвае адзін.

— А на Арбаце—гэта-ж наша. Адабраць ад студыі і ўсё,—прапануе другі.

— Не, браткі, нічога. Усё нічога. Трэба памяшканьне адшукаць, вельмі-б карысна ўжо яно было-б для нас.

— Дзе? Якая карысьць? (Былі і гэтакія запытаньні).

Т. К—я дадае прычыны. З пропозыцыяй згаджаюцца. Пастанова: памяшканьне пад клюб адшукаць. Тав. Х. падрыхтаваць каштарыс на ўтрыманьне памяшканьня; тав. У.—выпрацаваць плян працы ў клюбе на бліжэйшы час.

Шмат пасяджэньняў прашло. Амаль на кожным пытаньне аб клюбе стаяла. На агульным сходзе старшыня ў справаздачы падкрэсьліў, што ў хуткім часе адчыніцца клюб. Усе рады: вось хіба калі праца пойдзе. Старшыню шчыра вітаюць... Клюбу няма, але... будзе...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Новы склад ЦБ зямляцтва. Пасяджэньне. Першае пытаньне—аб клюбе.

— Трэба, абавязкова трэба адшукаць памяшканьне. Цяпер, апрача працы сярод студэнцтва, неабходна павесьці працу і сярод рабочых-беларусаў; іх-жа ў Маскве каля 20.000.

Бяз спрэчак згаджаюцца... Зноў каштарысы, зноў пляны працы і паміж студэнтаў, і рабочых, і вучоных, бо паўстала пытаньне аб організацыі ў Маскве Беларускае Навуковае Грамады.

ЦБ шукае па Маскве памяшканьня пад клюб беларусаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1925-ы год. Ужо і не ЦБ, а Цэнтральнае Кіраўніцтва. Зноў пасяджэньне. Клюб патрэбен, як паветра. З'арганізоўваецца грамада політэмігрантаў Зах. Беларусі, працу разьвярнуць трэба. Каштарысы зацьверджаны нават у Менску.

Шукаюць памяшканьня сябры Кіраўніцтва, шукаюць супрацоўнікі Прадстаўніцтва, політэмігранты; проста—людзей не хапае.

І дзіва. Ужо, здаецца, вось-вось ёсьць. Вялікая заля, некалькі пакояў. Паедуць, паглядзяць—страхі няма, а калі ёсьць страха—няма вокан, шуфляды ўсе выцягнуты. Не падыходзіць. І ўсё шукаюць...

Аж раз, на пасяджэньне, убягае...

— Хлопцы, крычыць, урраа!!

— Чаго? Што?—з усіх бакоў.

— Ёсць памяшканьне пад клюб!

— Гавары хутчэй, гавары!—А той, нібы на злосьць, маўчыць.

— Таварышы! Мне неяк цяпер і брыдка, што можа дарэмна ўзрадаваліся. Памяшканьня няма. Але я ўчора езьдзіў у Сакольнікі, туды, пад Багародзкае. Ну, і пекната-ж там! Ехаць адтуль ня хочацца. Лісьце пажоўкла; дзе-ні-дзе птушак чуваць...

— Ды ня муч, справу кажы.

— Ну, справу—дык справу. Вось, я бачыў там, што дачнікі едуць у Маскву. А ў тэй дачы, дзе жыве мой прыяцель, нікога і не застаецца. Гаварыў я з кім трэба, ды зусім танна аддаюць.

— Колькі-ж просяць?

— Ды амаль што і нічога за зіму, толькі адну ўмову ставяць, каб на весну аслабанілі да зімы. Хоць гэта і дрэнна, але я як падумаў, дык добра будзе, бо на лета-ж мы ўсе разьязджаемся.

— Хіба папрабаваць?

— Гэт, глупства! У Маскве трэба адшукаць.

— На траты па адшуканьні памяшканьня пад клюб і кіно прапаную асыгнаваць 100 руб. на гэты месяц.

А вось нядаўна: апошні агульны сход быў. Назначаўся нешта разоў 4, але ня зьбіраліся, бо па разных ВНУ назначалася. Потым сабраліся, але колькі?

З справаздачы аб клюбе—ні слова.

У пытаньнях—клюб скора, будзе клюб.

— Якія крокі прыняты?

— Шукаюць; цяпер ужо пры дапамозе адказных таварышоў, хутка будзе.

Прайшло шмат часу ад апошняга сходу.

А як з клюбам? —Шукаюць!

Цяпер можа знойдуць?—Чакаем.

МАСКВА.

# Рэзалюцыя па дакладу рэдколегіі часопісі „Чырвоны Сьцяг“, прынятая пленумам Ц. Б. Пролетстудэнцтва пры ЦСПСБ.

1. Заслухаўшы даклад тав Шапавалава аб студэнцкай часопісі „Чырвоны Сьцяг“, Пленум Ц. Б. Пролестуда пастанаўляе:

а) Прапанаваць студ. організацыям навучальных устаноў БССР правясьці агітацыйную кампанію на падпіску студэнтамі і вучнёўскай моладзьдзю часопісі „Чырвоны Сьцяг“, уцягваючы да супрацоўніцтва ў ім шырокія студэнцкія масы.

б) Тым студ. організацыям сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў, у якіх да гэтага часу няма пры насьценных газэтах організаванных корэспондэнцкіх гурткоў, прыняць крокі да організацыі гэтакіх, узлажыўшы на іх трыманьне сувязі і супрацоўніцтва ў часопісі.

в) Прапанаваць усім студ. організацыям узлажыць адказнасьць за распаўсюджваньне часопісі на выдзеленную для гэтай мэты асобу.

г) Прапанаваць студ. організацыям організаваць пры Ленінскіх кутках і чытальнях навучальных устаноў падпіску на часопісь і прадажу яе.

д) Прызнаць неабходным увядзеньне тэхнічных палепшаньняў у выданьні.

е) Для абмену вопытам практыкаваць пры рэдакцыі нарады бліжэйшых супрацоўнікаў і прадстаўнікоў студ. організацый з месцаў.

ж) У мэтах популярызацый часопісі сярод студэнцкіх мас поруч з правядзеньнем агітацыйных кампаній за падпіску на часопісь—організоўваць літаратурныя вечарыны ўтворанай пры рэдакцыі літаратурнай студыі поэтаў і пісьменьнікаў „Маладняк“.

з) У мэтах азнаямленьня са студэнцкімі водзывамі аб часопісі—разам з 7-м нумарам разаслаць анкету з адпаведнымі пытаньнямі.

і) Пленум адзначае адсутнасьць сувязі з Цэнтральным Кіраўніцтвам беларускіх зямляцтваў г. Масквы і здавальняючую ініцыятыву Цэнтр. Кіраўн. ў справе супрацоўніцтва па выданьні часопісі і яе распаўсюджваньні.

к) З прычыны кепскага матэрыяльнага становішча студэнцтва прапанаваць студ. організацыям практыкаваньне колектыўнай падпіскі на „Чырвоны Сьцяг“ і інш.

Рэкомэндаваць рэдакцыі абвяшчэньне конкурсу на лепшае распаўсюджваньне часопісі.

---

# ПЫТАНЬНІ ВЫШЭЙШАЕ ШКОЛЫ.

Проф. Д. Жарынаў.

## Некалькі слоў аб пэдагогічнай працы *).

Даволі грунтоўна ўжо ўсталявалася думка, што няма нічога цяжэй, адказьней і нават няўдзячней пэдагогічнай працы. Цяжкі яе матэрыяльныя ўмовы. Наша рэспубліка, нажаль, яшчэ ня так багата, каб аплачваць пэдагогічную працу так, як аплачвае яе Амэрыка, альбо Англія, ня так багата нават для таго, каб паставіць аплату пэдагогічнае працы на адзін узровень з аплатай працы ў вытворча-прамысловых установах. Цяжкі, бяссумненна, і моральныя ўмовы. Вялізарную частку сваіх сіл, свайго „я“ пэдагог—калі ён хоць крыху сумленна адносіцца да справы—павінен аддаваць вучням, глядзець за ўсімі ўхіламі іх унутранага жыцьця, якое паступова ўскладняецца і разьвіваецца, падтрымоўваць і будзіць усе яго здаровыя імкненьні, а разам з тым паступова паглыбляць і пашыраць шляхі, па якім яно магло-б найбольша пасьпяхова зьдзейсьніць гэтыя імкненьні. Настаўнік утварае ў школе грамадзяніна—гэта лёгка сказаць! Але колькі патрэбуецца сіл, каб сапраўды вырашыць гэту задачу!

І тым ня менш, цалком прызнаючы ўсю цяжкасьць пэдагогічнае працы, я зусім ня маю на ўвазе зьбіць з панталыку пачынаючых, альбо ўжо даўно пачаўшых сваю дзейнасьць пэдагогаў. Наадварот, я бяруся цяпер за пяро, каб паказаць, у якім напрамку гэта цяжкая і складаная пэдагогічная праца ўсё-ж, у канечным выніку, захоўвае ў сабе і прыемныя моманты, тыя моманты, якімі аплачваюцца, да вядомай меры, яе цёмныя бакі і якія, бяссумненна могуць дапамагчы настаўніку перамагчы ўсе цяжкасьці на яго „трэцім фронце“

Я займаюся пэдагогічнай працай ужо 26 год. Аглядваючыся на пражытае—які станоўчы бок я раней ўсяго заўважваю ў тэй частцы свайго жыцьця, якую аддаў пэдагогічнай працы? Гэта зносіны з вучнямі, з людзьмі, якія ў большасьці выпадкаў альбо значна маладзей за мяне, альбо нават з людзьмі сталага ўзросту, але ўнутрана маладымі, якія прыняліся за вучэньне дзеля адшуканьня ісьціны, паколькі абкружаючая звычайнасьць іх не здаволіла. Я кажу тут, зразумела, не аб тым у вышэйшай меры цяжкім і скучным для пэдагога тыпе вучняў якія вучацца толькі дзеля кар'еры, альбо дыплёму і якіх ні адна выкладаемая ім веда ня цікавіць па сутнасьці сваім зьместам. Гэтакіх людзей і вучняў у вышэйшай школе, на шчасьце, усе-ж такі мала, бо кожны, як-бы не цягнуў яго да сябе дыплём, часткова захопліваецца тэй агульнай атмосфэрай творчых шуканьняў, без якіх ня можа абыйсьціся ніводная школа. Але пытаньні дыплёму і кар'еры ў адносінах

*) Гэты артыкул быў дапасован да 1-га выпуску студэнтаў Пэдфаку БДУ, але па тэхнічным прычынам ня мог быць зьмешчаны ў № 5-6.

да ніжэйшай і сярэдняй школы, захапляюць толькі бацькоў, але не самых дзяцей. Пэдагог, у большай часьці, жыве зносінамі з вучнямі, якія фізычна і духоўна ўзрастаюць, і гэта як-бы не дае яму застыць у сваёй працы, як-бы падцягвае яго ўнутрана, прымушае яго глядзець наперад, а не назад. А заўсёды глядзець наперад, пераконвацца, што на зьмену ўсяму, што аджывае, прыходзяць новыя сьвежыя сілы, заўсёды дапамагаць выяўленьню гэтых сіл і быць з імі ў контакце—гэта (кажу па досьледу свае шматгадовае пэдагогічнае дзейнасьці) зьяўляецца ў многіх выпадках крыніцаю самых бадзёрых і сьветлых перажываньняў.

Далей—мы наогул маем два рады дзейнасьці. У адных выпадках дзейнасьць зразу, альбо амаль што зразу, дае свае непасрэдныя вынікі. Узяў дошкі, пілку, гэблік, зрабіў стол—мэта дасягнута, работнік з задаваленьнем глядзіць на зробленае, як на вынік патрачанае ім у даным выпадку энэргіі. Альбо мэдык, калі вядома, яму ўдалося правільна азначыць хваробу і да вылячэньня яе маюцца адпаведныя сродкі: ужыў сродкі—і зразу чалавек, які змагаўся, быць можа, са сьмерцьцю, выздараўлівае і ў доктары зусім правільна бачыць свайго збаўцу. Але поруч з гэтым ёсьць і другая, дзейнасьць, вынікаў якое можа быць, ня прызначана ўгледзець работніку: ён спаўняе паасобныя, часта мікроскопічныя часткі малюнку, які зможа быць скончаным толькі ў процэсе доўгай, часам стагодняй працы цэлага шэрагу пакаленьняў. Першая дзейнасьць быццам асабліва цікава; але некаторы бок, якія яе часткова зацямняе—гэта небясьпека яе сужэньня поўнага перанясеньня ўвагі на паасобныя факты якія стаяць ізолявана, без адпаведнага адухатварэньня іх агульнай ідэяй прыгожа вёска—і мы ёю любуемся, а з-за дрэў, як кажуць, ня відаць лесу. Другая дзейнасьць, наадварот, прымаецца агульнай ідэяй: але, не даючы непасрэдна і зараз-жа даволі заметных вынікаў, па якім можна было-б падлічыць усё, яна патрабуе ад працаўніка надзвычайнай цьвёрдасьці і вытрыманасьці. Ня ўсякі працаўнік захавае пры гэтым яснасьць і сьвежасьць думкі; шмат слабеюць, пачынаюць адносіцца да справы формальна, альбо нават паступова саскальзваць з шырокага грамадзкага шляху на шлях вузкае мяшчанскае пагоні за асабовай карысьцю. Настаўніцкая дзейнасьць, як мне здаецца, прадстаўляе між гэтымі двумя шэрагамі дзейнасьці залатую сярэдзіну. З аднаго боку—кожны добра праведзены школьны дзень размовы, экскурсыі—гэта непасрэднае дасягненьне і ўсякі працаўнік, які ўцягнууся ў пэдагогічную дзейнасьць, пацьвердзіць, што зварочваючыся з школы пасьля гэтакае пабеды на сваім пэдагогічным фронце, ён адчувае вялікі і радасны пад'ём. Але, з другога боку, паасобныя зьвеньні пэдагогічнае працы так цесна і моцна зьвязаны ў адзін агульны вялікі ланцуг, які складае мост ад сучаснасьці да будучыны, так уводзяць у кола агульных ідэй самага шырокага прогрэсу, што сьветапагляд настаўніка ніяк ня можа замкнуцца ў вузкіх межах толькі кляснага звычайнага жыцьця: хоча настаўнік, ці ня хоча, але калі ён адносіцца да справы сумленна, то абавязкова ў тэй ці іншай меры зьяўляецца і настаўнікам і грамадзкім працаўніком, і спэцыялістым свайго рамяства, працаўніком, які лічыцца з вялікім значэньнем гэтага рамяства ў агульным пасоўваньні народнае культуры. У гэтым — нельга не згадзіцца—зноў ткі становучы момант у пэдагогічнай працы.

Але—скажуць мне—пэдагог ўсё-ж такі мае справу са сваёю спэцыяльнасьцю, са сваім прадметам; гэта-ж можа выхаваць у ім самую сумную аднабокавасьць. Усё жыцьцё тлумачыць вучням адны і тыя-ж

правілы, альбо выкладаць адну і тую-ж граматыку, адно і тое-ж грамадазнаўства і інш. Дзе тут шырыня, і дзе тут ідэя? Настаўніка ня толькі ў старэйшых комплектах, але і ў малодшых з іх комплексным выкладаньнем душыць неабходнасьць разжоўваць адзін і той-жа навуковы матэрыял. Я на гэта адкажу, што, папершае, усякая нормальна пастаўленая школа і ўсякі настаўнік, які нормальна і сумленна працуе гэтым самым ня можа замкнуцца ў вузкім раз назаўсёды абмежаваным коле ўсё аднаго і таго-ж матэрыялу. Комплексная сыстэма ў малодшым концэнтры зусім немагчыма без заўсёдышняй шырокай і рознабаковай агляднасьці на абкружаючае жыцьцё; а што датычыцца прадметнага выкладаньня, то без некаторага элемэнту комплекснасьці і яно ня можа быць правільна пастаўленым у сярэдняй школе. Гэта зразумела ня толькі новая, але ў вядомай меры і старая школа. У старыя часы па розным умовам, якія ў большай часьці не залежалі ад школы, прынцып комплекснасьці, у сэнсе гармонічнай сувязі паміж выкладаемымі прадметамі, на практыцы праводзіўся рэдка, і толькі ў некаторых, лепшых школах; зараз гэта комплекснасьць пастаўлена краекутным каменем вышэйшай школы. І вось мне здаецца, што аднабокавасьць выкладчыка сярэдняй школы—гэта ня вынік яго пэдагогічнай профэсіі, гэта нешта такое, што ня мае нічога агульнага з правільна пастаўленай працай выкладчыка. У тэй, ці іншай меры ўсякі выкладчык школы абавязкова „комплексьнік"; ён у сваіх школьных занятках па неабходнасьці абхватвае ўсе тыя асоцыацыі, на якія могуць абаперціся вучні ў прысваеньні новых ведаў; а гэтыя асоцыацыі чарпаюцца і з абкружаючага жыцьця і з усяго таго навуковага матэрыялу, які падносіцца вучням на іншых лекцыях. Кожному выкладчыку школы раней ўсяго прыходзіцца быць выкладчыкам мовы, навучаць ня толькі свайму прадмету, але й вуснай і пісьменай мове. З другога боку—колькі раз у маей ўласнай працы, у выкладаньні гісторыі, я пападаў у неабходнасьць грунтавацца і на абкружаючым жыцьці, і на газэце, і на тым, што выкладалася вучням па літарауры, географіі, нават прыродазнаўству і матэматыцы! Тут неяк хочацца мне пачціць памяць аднаго з маіх былых настаўнікаў, яшчэ па Маскоўскай 1-ай гімназыі. Гэта быў, калі хочаце, бясcумненна адзін з правідцаў комплекснай сыстэмы яшчэ ў XIX стагодзьдзі, па спэцыяльнасьці — выкладчык францускае мовы. Сыстэма яго ня была комплекснай у яе чыстым выглядзе, але матэрыял францускай граматыкі, альбо зьмест чытаемых артыкулаў, зьяўляліся адпраўным пунктам для цікавых экскурсый у самыя розныя галіны ведаў, якія выкладалі нам на іншых лекцыях. У гэтага вельмі адукаванага настаўніка мы не навучыліся, вядома, францускай мове, але неяк улаўлівалі жыцьцёвую сутнасьць яго мэтоду. А калі ен памёр, то цела яго з рэдкім, да таго часу ня бачаным, аднадушшам праважала да могілак уся школа,

Мне здаецца, што пэдагогічная праца і як раз у ніжэйшай і сярэдняй школе ахоўвае нас ад аднабаковасьці. Мімаволі прыходзіцца рэагаваць на самыя розныя пытаньні дзяцей, і для вырашэньня іх заўсёды быць на высаце самых рознабаковых ведаў. Пэдагог павінен быць шырока адукаваным чалавекам, бо пэдагогічная праца настойна вымагае гэтага ад яго. Але мець у сваёй дзейнасьці заўсёды стымул да шырокага ў вядомай меры комплекснага абхвату жыцьця—гэта зноў-такі станоўчы бок, які сапраўднаму пэдагогу ніколі ня дасьць ачыніцца ў каробку, зрабіцца нікому непатрэбным літараедам. Гэтакіх лзітараедаў было ня мала ў старой школе, але, папершае, гэта была

тады агульная хвароба інтэлігэнцыі, і школа пакутвала ёю ні ў якім выпадку ня больш, чым шмат іншых відаў дзейнасьці, а падругое—літараедамі зрабіла настаўнікаў не пэдагогічная праца сама па сабе, а як раз поўная немагчымасьць ва ўтварыўшыхся ўмовах даць сваей працы колькі-небудзь жыцьцёвы пэдагогічны напрамак.

Затым—самае паўтарэньне аднаго і таго-ж курсу, якое калі ня з году ў год, то усё-ж часта мае месца, зразумела ў вядомай меры можа быць аднесена да ліку адмоўных бакоў пэдагогічнай працы. Але не забудзем, што ў гэтым ёсьць і некаторыя станоўчыя бакі: у паўтарэньні аднаго і таго-ж процэсу, але ў розных умовах, мы маем здаровы стымул удасканаленьня, які бяссумненна згладжвае каструбаватасьці, што сьпярша былі памехай у працы. А паступова ўдасканальваючыся ў працы мы разам з тым і самі ўнутрана расьцем. І мне здаецца што ўсякі сумленны і дзелавы пэдагог абавязкова мае ў сваім актыве гэты станоўчы элемэнт унутранага росту.

Ёсьць, у канцы, яшчэ адно меркаваньне на карысьць пэдагогічнай дзейнасьці. Працуючы, мы часам замыкаемся ў сябе, губім здольнасьць стаць на чужы пункт гледжаньня. Але ясна, што бяз гэтакага разуменьня чужых пунктаў гледжаньня немагчыма карысная грамадзкая праца—ня пойдзеш, за што ўхапіцца ў спрэчцы, на што абаперціся пры растлумачаньні; затым—і гэта на мой погляд зьяўляецца вельмі важным—няўменьне разумець чужы пункт гледжаньня пазбаўляе нас магчымасьці правяраць сябе саміх на грунце здаровае самакрытыкі; і адсутнасьць самакрытыкі прыводзіць да самага шкоднага дылентызму да галаслоўных пацьверджваняў, якія ня толькі не пераконваюць але дыскрэдытуюць перад слухачом нават зусім правільную думку.

Што можна сказаць адносна гэтага аб пэдагогічнай дзейнасьці? Ці ня прывучае нас кожны момант пэдагогічнай працы ўгледжвацца ў чужую псыхіку, старацца зразумець вучняў, падлічыць іх асабовыя адзнакі, настрой, правільны ці няправільны падход да пытаньняў, якія цікавяць? Настаўнік заўсёды стаіць перад задачай—утварыць для вучняў найбольш спагадныя ўмовы працы, для гэтага-ж на кожным кроку неабходна ўнутрана станавіцца на іх пункт гледжаньня. У канцы канцоў гэта азначае: з простага настаўніка ў вузкім сэнсе гэтага слова стаць старэйшым таварышом вучняў. Але паколькі якраз пэдагогічная дзейнасьць бязумоўна дыктуе нам гэту позыцыю, паколькі кожны пэдагог і ў старой і ў новай школе хоця б крыху, хоця-б і не заўсёды, а ўсё-ж зьяўляецца старэйшым таварышом вучняў,—пастолькі школа выхоўвае разуменьне чужых думак, вуменьне схапіць і ацаніць чужую правільную думку, альбо найці тую ці іншую крыніцу памылкі. Гэта ў сваю чаргу, бяссумненна, станоўчыя бакі пэдагогічнай працы.

Я стараўся тут выявіць некалькі меркаваньняў у процілежнасьць звычайнай, часам вельмі пэсымістычнай ацэнцы тае дзейнасьці што чакае т. т. якія скончылі пэдагогічны факультэт. Я-б мог дадаць да вышэйпаданага, што школа й выкладаньне даюць нам ня мала тэхнічных звычак, якія каштоўны і ў асабовай і ў грамадзкай працы; з другога боку—настаўнік прывучаецца опэрыраваць з групамі вучняў, значыць—прысвайвае і некаторыя організатарскія прыёмы па працы з клясай.

Няхай цяжка, складана і адказна пэдагогічная праца, але яна мае і шмат станоўчых бакоў. Я жадаў-бы каб сузнаньне гэтага заўсёды было з тымі новымі маладымі і моцнымі працаўнікамі на ніве беларускае асьветы, якіх ёй дае кожны год Пэдагогічны Факультэт.

Я. Бараноўскі.

# „Акадэмізм“ і „грамадзкасьць“*).

Гэтыя два тэрміны добра знаёмы кожнаму студэнту. Так ці іначай яны зьяўляюцца страшнымі для ўсіх.

Іх падзяляюць, як незалежныя адзін ад другога, як самастойныя адзінкі. Паглядзім, ці так гэта?

Вядома, што калі мы паступаем у вышэйшую навуковую ўстанову, альбо тэхнікум, калі мы не здавальняемся тымі ведамі, якія нам даюць сярэднія навучальныя ўстановы, то гэта значыць, што мы і павінны вучыцца. Калі на нас дзяржава траціць сродкі, калі мы карыстаемся дапамогай рабочых і сялян, якія паслалі нас у вышэйшую школу, і якія таксама трацяць сродкі на нас, то гэта яшчэ лішні раз падкрэсьлівае, што нам трэба вучыцца і вучыцца, каб не абмануць тых, хто нас паслаў і хто чакае ад нас гэтых ведаў.

Студэнцтва, як больш адукаваная частка грамадзянства, павінна і большы ўдзел прымаць у адраджэньні краю.

Значыць, мы павінны працаваць па-за сьценамі навучальных устаноў, мы павінны дапасоўваць атрымоўваемыя намі веды да практычных запытаньняў грамадзкага жыцьця. Значыць, мы павінны быць шчырымі грамадзкімі працаўнікамі, і працаўнікамі „не за страх, а за сумленьне“.

І гэта грамадзкая праца зьяўляецца якраз неабходнаю часткаю агульнай працы студэнта, ня менш важнай, як вывучэньне дысцыплін. Можа нават наадварот, бо гэта ёсьць яго практычнае ўжываньне тэорыі на практыцы. І вельмі абмылкова робяць тыя таварышы, якія яшчэ дасюль ня бачаць таго, што само просіцца, каб яго ўгледзелі: што нельга падзяляць працу студэнта на акадэмічную і грамадзкую. Зусім правілова ўказвалі т. т. Скардзіс і Баркоўскі, якія ў сваім артыкуле: „Аб увязцы грамадзкай і акадэмічнай працы студэнтаў пэдфаку БДУ“ (гл. „Чырвоны Сьцяг“ № 5-6) кажуць, што „ўжо час імкнуцца да таго, каб тэрміны „грамадзкая праца“ і „акадэмічная праца“ выжыць. Нам трэба казаць толькі аб працы студэнтаў ВНУ, як аб адзіным цэлым мэтазгодным дзеяньні, вынікам якога было-б поўнае, усебаковае разьвіцьцё асобы вывучаючагася“. Але яны глядзяць на гэту справу з свае, „пэдфакаўскае“ вышкі ў той час, як гэта—пытаньне агульнастудэнцкае.

Больш сьвядомая частка студэнцтва зразумела, што „акадэмічная“ праца і „грамадзкая“ праца—два бакі аднаго і таго-ж ужываньня тэорыі на практыцы, і больш сьвядомая частка студэнцтва працуе ў гэтым напрамку.

Але вынікам падзелу гэтае працы зьяўляецца тое, што менш сьвядомая частка студэнцтва (якая, на жаль, дасягае амаль да паловы ўсяго ліку студэнцтва) глядзіць на другую палову свае працы, на „грамадзкую“ працу, як на нешта не абавязковае, альбо ў ва ўсякім разе як на нешта такое, ад чаго можна так ці інчай пазбавіцца, выкруціцца. Толькі дзякуючы такому падзелу мы маем гэтакія лёзунгі, як, напрыклад, „кожны студэнт павінен мець грамадзкія абавязкі“, „няма пролетарскага студэнта, не занятага ў грамадзкай працы“ і г. д.

*) У парадку абгаварэньня.

І толькі дзякуючы гэтаму падзелу мы маем такое шкоднае зьявішча, як перагружанасьць студэнцкага актыву—больш сьвядомай часткі студэнцтва. Толькі дзякуючы гэтаму падзелу мы наглядваем тое, што некаторыя таварышы, якія маюць грамадзкіх абавязкаў зашмат, якія перагружаны гэтаю працаю, у акадэмічным напрамку ў большай сваёй частцы ідуць пазаду.

Вось чаму гэтых тэрмінаў „акадэмізм“ і „грамадзкасьць“ так баяцца як акадэмістыя, так і занятыя ў грамадзкай працы т. т. Першыя баяцца таму, што пры кожным пытаньні, пры кожнай заяве, анкеце (а іх шмат у нас!) першае пытаньне: а як у вас, таварыш, справы з грамадзкай працай? Іншыя баяцца таму, што ім прыходзіцца ўжываць тэорыю на практыцы ў той час, калі ў іх з самой тэорыяй справы зусім кепскія.

І яшчэ існуе трэцяя катэгорыя студэнцтва, якая таксама баіцца гэтых тэрмінаў. Да гэтае катэгорыі належаць „серадням“ па здольнасьцям. Нашы навуковыя пляны пабудаваны такім чынам, што ніяк нельга выгадаць час для грамадзкае працы так, каб і студэнт быў вольны ад усялякіх заняткаў і ў той-жа час можна было праводзіць гэтую працу. І вось тут якраз „серадняк“ і зьяўляецца на раздарожжы: пойдзеш у адзін бок—ад грамадзкае працы адарвешся, адарвешся ад жыцьця, ад мас, хаця і вельмі хочацца не адставаць ад іншых. Пойдзеш у другі бок—адстанеш з ведамі, а за чым-жа і прышоў у навучальную ўстанову, як не за імі? Абодва бакі працы пры сучасных плянах выкладаньня—зусім не пад сілу.

Якія-ж вывады выцякаюць з усяго вышэй паданага?

Перш за ўсё і галоўнае—гэта трэба памятаць, што пакуль у нас існуюць сучасныя пляны выкладаньня, пакуль мы сваю працу па здабываньні ведаў і па ўжываньні іх на практыцы будзем падзяляць на „акадэмізм“ і „грамадзкасьць—датуль у нас будзе кульгаць то той, то другі бок агульнае справы. І датуль, пакуль не ўрэгулююцца гэтыя пытаньні, пакуль ня будуць падагнаны пляны да „серадняка“-студэнта (а мы павінны арыентавацца выключна на „серадняка“!), датуль нельга ставіць лёзунгаў аб тым, каб усе студэнты былі абавязкова заняты грамадзкай працай.

Т. т. Скардзіс і Баркоўскі ў сваім артыкуле (гл. вышэй) кажуць, што новыя пляны і мэтоды выкладаньня на пэдфаку БДУ гэтую магчымасьць даюць. Пажадаем-жа ім найбольшай творчасьці ў гэтым напрамку, і пажадаем, каб гэтую магчымасьць далі пляны выкладаньня ня толькі аднаго пэдфаку БДУ, а ўсіх ВНУ і тэхнікумаў БССР.

Нельга абысьці маўчаньнем яшчэ аднаго пытаньня, высунутага т. т. Скардзісам і Баркоўскім: гэта як раз аб звальненьні служачых ад усякае грамадзкае працы.

Калі мы наогул паглядзім, хто служыць і ці ўвязваецца служба з заняткамі ў унівэрсытэце ці тэхнікуме, то мы ўгледзім, што, папершае, служаць толькі тыя, хто бяз службы ня здолеў бы вучыцца з-за недахопу сродкаў, а падругое—што вельмі і вельмі цяжка ўвязваецца служба з вучобаю, і што служачым, каб не адстаць, трэба шмат больш працаваць, чым іншым.

Адсюль зусім зразумела, што калі дадаць ім яшчэ грамадзкую працу, то з іх выйдуць толькі гора-студэнты, а не сапраўдныя, не такія, як нам патрэбны. Зусім іншая гаворка будзе аб гэтых служачых пры тых умовах, калі наша грамадзкая праца будзе ўключана ў пляны агульнастудэнцкай працы.

Дык хутчэй да перабудовы, да новага!

С. Баркоўскі.

# Студэнцтва і краязнаўства*).

Ідэя краязнаўства ўсё больш і больш пашыраецца ў нас на Беларусі, захапляе колы рабочых, сялян, студэнцтва, настаўніцтва і іншых працаўнікоў, якія прымаюць актыўны ўдзел у будаўніцтве нашай рэспублікі.

Краязнаўствам у цяперашні час зацікаўлены шырокія колы грамадзянства, яно мае месца ў савецкай школе, пад яго падведзена база экономічнага будаўніцтва. Мы бачым, што па ўсёй Беларусі ўзьнікаюць краязнаўчыя таварыствы, музэі, гурткі, дасьледчыя станцыі і інш.

Студэнцтва ў сваёй гушчы да гэтага году прымала вельмі малы ўдзел у краязнаўчым руху. І толькі цяпер, з пачаткам акадэмічнага году, сярод студэнцтва Менску распачаўся рух. Распачынае сваю працу краязнаўчае вобчаства пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце, якое ў першую чаргу наладзіць сувязь з іншымі студэнцкімі краязнаўчымі організацыямі на Беларусі з мэтай заснаваць Агульна-Беларускую Студэнцкую Краязнаўчую Асоцыяцыю. Аднаўляецца праца краязнаўчых гурткоў: пры Белпэдтэхнікуме, на Рабфаку, на Вышэйшых Беларускіх Курсах і гурткі па вывучэньню Гомельшчыны.

Краязнаўчы рух сярод студэнцтва нашых дзён—гэта рух за адбудаваньне новага жыцьця.

Пасьля 1905 году ў цэлым шэрагу гарадоў сярод рэволюцыйнага беларускага студэнцтва сталі ўзьнікаць краязнаўчыя гурткі, якія ставілі сваёй мэтай вывучэньне краю па „народных уяўленьнях і вераваньнях, вывучэньне старажытнасьцяй наогул і старажытнасьцяй царкоўных“. Гэты рух, як зусім адарваны ад жыцьця, ня мог атрымаць вольнага выяўленьня і ня даў значных вынікаў.

Часта нам прыходзілася чуць ад студэнтаў, што пад разуменьнем краязнаўства, яны разумеюць вывучэньне ў азначаным раёне нашай рэспублікі, яскрава кідаючыхся ў вочы асаблівасьцяй у гэтым раёне, які то: песень, помнікаў мінуўшага, асаблівасьцяй прыроды і г. д.

Гэта ня зусім так,—„разуменьне краязнаўства вельмі неазначана і часта пад ім разумеюць мясцовую географію (радзімазнаўства) або зьбіраньне розных цікавых рэчаў, якія маюць цесную сувязь з даным раёнам. З майго пункту гледжаньня, краязнаўства трэба разумець толькі як комплекс усіх элемэнтаў літо- гідро- біо- і атмо- сфэры“ **).

Азначыўшы такім чынам задачы краязнаўства, студэнцтва, як культурная сіла, пры падтрыманьні цэнтральных краязнаўчых організацый, наладзіўшы сувязь з народнымі гушчамі, паслужыць рычагом сапраўднага і ўсебаковага вывучэньня народнага жыцьця ўва ўсіх яго выяўленьнях і формах.

---

*) Рэдакцыя просіць т.т. студэнтаў выказацца на зачэпленаму т. Баркоўскім пытаньню.

**) Г. Бассе—Очерк развития краеведческой работы. (Первое совещание по краеведению Тимирязевского Ин-та, сер. I, отд. IV, вып. I, стр. 8).

Асноўная праца студэнта-краязнаўцы пасьля яго прыезду ў мястэчка, вёску—гэта сыстэматычна-манографічнае дасьледваньне данай тэрыторыі ў яе гістарычна мінулых адносінах, так і ў бягучых політыка-экономічных.

Сабраны матэрыял патрэбна апрацаваць і адчыніць краязнаўчы музэй; экспонаты яго будуць характарызаваць даны раён, а праробленая праца студэнта-краязнаўцы знойдзе свой адбітак у організацыі музэю.

Само вывучэньне данага тэрыторыяльнага раёну па сваім зьместу раскладваецца на наступныя падразьдзяленьні:

1) Прырода тэрыторыі, як фундамант, на якім грунтуецца гаспадарка данага раёну;

2) Людзі, як тая сіла, якая выкарыстоўвае прыроду тэрыторыі, дапасоўваючы сваю гаспадарку к асаблівасьцям прыроды свайго раёну (вывучэньне людзей разумеецца шырокае, уводзячы сюды і археолёгію і гісторыю культуры, і клясавую барацьбу, а таксама ідэолёгію шырокіх гушчаў і г. д.

3) Экономіка тэрыторыі, іншымі словамі—вытворчы эфэкт уплыву людзей на прыроду;

4) Нацыянальна-культурнае аблічча жыхароў свайго раёну з усёй стракатасьцю іх этнографічнага складу.

Вось прыблізна той плян у студэнцкіх краязнаўчых організацыях, які дасьць мажлівасьць студэнту-краязнаўцу вывучыць больш падрабязна Беларусь, пачынаючы з тых вякоў, калі гістарычныя судзьбы яе зьменьваліся, а засяляўшыя народы як беларусы, так і яўрэі захавалі сваё аблічча аж да Кастрычнікавай рэволюцыі, якая дала ім мажлівасьць вольнай культурна-нацыянальнай творчасьці.

Усе гурткі, якія існуюць пры ВНУ'ах і тэхнікумах сваю працу вядуць бяз пляну. Дзеля найбольш правільнага выкарыстоўваньня кіпячага энтузіазму студэнцтва, якое хоча працаваць, патрэбна па прыкладу РСФСР і УССР організаваць Агульна-Беларускую Студэнцкую Краязнаўчую Асоцыяцыю, якая будзе мець цесную сувязь з існуючымі краязнаўчымі гурткамі ВНУ, Рабфакаў і Тэхнікумаў. У сваю чаргу цэнтральнае бюро краязнаўства будзе ў цесным контакце з Асоцыяцыяй і будзе мець магчымасьць рабіць уплыў організацыйна і навукова на ўсе студэнцкія гурткі, якія будуць весьці краязнаўчую працу на Беларусі.

Організацыя такое Асоцыяцыі патрэбна ўжо затым, што ні ЦБ Краязнаўства, ні студэнцкія організацыі ня ведаюць аб існуючых студ.-краязнаўчых гуртках. Яна будзе будзіць творчы напрамак студэнта-краязнаўцы і будзе вернай прадпасылкай таго, што краязнаўчы рух усе больш і больш разгорнецца на Беларусі.

Бяз студэнцкай дапамогі краязнаўчыя організацыі шмат чаго ня зробяць. Студэнты-краязнаўцы пры разьезьдзе на вакацыі зьявяцца бліжэйшымі выканаўцамі плянаў, намечаных краязнаўчымі організацыямі.

---

Васіль Аснач.

# Аб выкладаньні на мэдфаках [1]).

Тав. Сандамірскі ў сваім артыкуле „Аб мэтодах выкладаньня на мэдфаках“ [2]) у свой час зачапіў досыць важнае і неадложнае пытаньне, якое як найхутчэй патрабуе свайго вырашэньня. Чым хутчэй будуць знойдзены тыя шляхі, па якім пойдзе новая перабудова ў мэтодах выкладаньня ў вышэйшых школах наогул, а ў частковасьці на мэдычных факультэтах, тым больш карысьці прынясуць новыя мэтоды.

Старыя мэтоды, як правілова кажа т. Бараноўскі, „аджылі свой век“. Яны не прыстасованы да новых умоў жыцьця, таксама, як і ня могуць адказваць запатрабаваньням шырокіх колаў студэнцтва.

Па іншых ВНУ гэтае пытаньне часткаю ўжо пашло па шляху свайго вырашэньня, але гэта па большасьці на рабфаках і тэхнічных школах. Кіравацца новымі мэтодамі, якія пачалі ўжывацца ў гэтых школах, нам нельга. Мэдычны факультэт з яго асабістай пабудовай формы выкладаньня ня дасьць ніякай магчымасьці скарыстаць гэтыя напрамкі. Патрэбен зусім асобны падход, спэцыяльная прыстасаванасьць у справе правіловага і ўсебаковага вырашэньня гэтага пытаньня.

Дальтон-плян, які часткаю ўжо пачаў дзе-ні-дзе ўжывацца, і даў тыя, ці іншыя вынікі, у нас пакуль што патрэбнага ня дасьць. Перашкодай гэтаму служыць: рознастайнасьць студэнцтва, іх матэрыяльная незабясьпечанасьць, не прыстасованасьць нашых унівэрсытэцкіх памяшканьняў, адсутнасьць матэрыяльных сродкаў дзеля абсталяваньня лябараторый і інш. Патрэбен нейкі пераходны стопень да мэтоду Дальтона.

Паглядзім, што-ж прапануюць у гэтым напрамку самі студэнты?

Т. Сандамірскі, прапануючы свой мэтод, „заместа кія выцяў палкай“ альбо, як кажа т. Сьнежка: „Паднёс старое віно ў новых мяшках“. Усю няпрыгоднасьць старых мэтодаў ён бачыць у тым, што: „выкладаньне на мэдфаку пачынаюць раней усяго з наглядальнасьці“, а не з тэорыі. І калі ён дае рэцэпт пазбавіцца ад гэтай няпрыгоднасьці старых мэтодаў і „дасягнуць цікавасьці да працы ў студэнта папярэдняй тэорытычнай падрыхтоўкай“, то гэта ні больш ні менш, як недарэчнасьць т. Сандамірскага. Далей ён і сам гэта заўважыў, кажучы: „Лекцыі чытаюцца,—вось вам і тэорытычная падрыхтоўка, але хто-ж іх слухае і перапрацоўвае?“.

Возьмем дзеля прыкладу той самы „грунт мэдыцынскай адукацыі“—анатомію, з якою ў першую чаргу спатыкаецца студ. I к. і з якой прыходзіцца мець справу студ. II к. Тэорытычна з слоў прафэсара, альбо доктара, уявіць і ясна сабе прадставіць тыя заблытаныя і складаныя ўтварэньні, якімі анатомія вельмі багата, ды калі

[1]) У парадку абгаворваньня.

[2]) Гл. „Чырвоны Сьцяг“ № 2. Красавік 1925.

дадаць да гэтага тыя-ж лацінскія тэрміны, якіх таксама хоць адбаўляй, то карысьць „папярэдніх тэорый“ гаворыць сама за сябе. Адсутнасьць большасьці студ. на лекцыях лішні раз падкрэсьлівае каштоўнасьць „папярэдняй тэорыі“. Толькі добра ўвязаная тэорыя з практыкай, з тэй ці іншай косьцю ў руках, альбо, калі гэта на II курсе, то каля мерцьвяка, разам з профэсарам, альбо, з выкладчыкам з яго дапамогай, раз на заўсёды ўявіўшы патрэбнае, „вызубрыўшы“ неабходнае, мы будзем атрымоўваць тое, за чым нас паслалі. Экспэрымэнты, аб якіх упамінае ў канцы свайго артыкулу т. Сандамірскі, ужываемыя док. Іргэрам і проф. Маўрадзіядзі, таксама гавораць не аб наперад паднесенай тэорыі, альбо практыцы, а аб цеснай непадзельнай сувязі адна з другой.

Шмат лягчэй уявіць студэнту і тэорыю, калі ён ня толькі чуе, як завецца і дзе праходзіць які-небудзь canalis, альбо sulcus, fossa і г. д., а бачыць яе, трымае ў руках тую косьць, па якой праходзіць гэта sulcus альбо canalis. Заканчваючы свой артыкул, Сандамірскі робіць такі вывад: „Раней трэба зразумець, каб сьвядома наглядаць“. Мала зразумець, каб сьвядома наглядаць, трэба ведаць, вывучыць тую ці іншую рэч, а гэта можна зноў толькі праз сумеснае праходжаньне тэорыі і практыкі, альбо як кажа Бэкон: „Добра ведаць, значыць ведаць, вывучаючы матэрыю“. З усяго гэтага можна прадбачыць і тыя вынікі, якія-б прынесьлі новыя мэтоды па прапанове т. Сандамірскага.

Далей т. Сьнежко (гл. яго артыкул у № 3—4 „Чырвонага Сьцягу“: „Яшчэ аб мэтодах выкладаньня на мэдфаках“), крытыкуючы мэтоды Сандамірскага, кажа: „Нам трэба іх не перабудоўваць, а будаваць спачатку“... Паглядзім гэтую „пабудову спачатку“, якую ён прапануе.

Лягчэй за ўсё гэта было напісаць яму, але калі пачаць будаваць так, як ён прапануе, то правесьці ў жыцьцё гэтую перабудову па Сьнежку справа ня лёгкая, ды я-б яшчэ дабавіў, што ў сучасны момант ня можа быць выканана.

Праў т. Сьнежка, калі кажа што: „У шуканьні новых мэтодаў часта прыходзяць да недарэчнасьці“. Але-ж гэтую недарэчнасьць утварыў і сам. Сваім падзелам усіх дысцыплін па цыклях, ён не заўважыў аднаго і самага галоўнага: тэй самай „разнастайнасьці, якая ўносіць шмат перашкод у „правядзеньні новых мэтодаў“, аб чым сам-жа ў адным месцы свайго артыкулу і кажа. Падзелам на цыклі ўсіх прадметаў ён думае пазбавіцца ад сумеснага паднясеньня „усіх навук зразу“.

Такіх цыкляў у яго два: „хімічны і анатома-фізіолёгічны“ (разумеецца, на першых курсах). А гэта хіба ня „усё зразу“?, калі цяпер „студэнт хапаецца і за біолёгічную хімію і за органічную“, то пры цыклявой сыстэме трэба будзе „хапацца“ за ўвесь цыкль, ці то будзе хімічны, ці які-небудзь іншы, але гэта яшчэ поўбяды. Уся бяда ў тым як правілова падкрэсьліў т. Бараноўскі, крытыкуючы мэтоды Сьнежкі, што: „калі можна было прапусьціць лекцыю, ці практычныя заняткі пры старым мэтодзе, то пры новым гэтага зрабіць будзе нельга“.

Зразумела, чаму прапусьціўшы цыклявое праходжаньне прадмету шмат цяжэй будзе нагнаць яго аднаму, у той час, калі цыкль—гэта колектыўная самастойная праца студэнта. Гэта адно. А другое—ён адстане не па адным прадмету, а па ўсяму цыклю.

Пры ўмовах „цыклявой“ сыстэмы патрэбна, каб увесь рабочы час ішоў дзеля вывучэньня таго, ці іншага цыклю. Покуль што такіх

умоў у нас няма, аб гэтым яскрава паказваюць тыя статыстычныя лічбы, якія дае т. Белы ў сваім артыкуле: „Аб організацыі жыцьця студэнта“[1]), дзе, па яго падліку, 40 проц. рабочага часу ідзе ў служачага на працу па службе (мне здаецца, што процант гэты шмат большы), ня меншы процант ідзе і ў студэнта ня служачага і не стыпэндыята. Калі да ўсяго гэтага да прыбавіць профпрацу, працу ў розны гурткох, то процант гэты яшчэ павялічыцца.

Значыць адпаведную і неабходную колькасьць часу аддаць „цыклю“ большасьць студэнтаў пры ўсім жаданьні ня зможа. Толькі тады можна будзе „асяродкаваць, зьвязаць і сыстэматызаваць“ працу, калі большая палова рабочага часу будзе йсьці не на адшуканьне куска хлеба, а на вывучэньне таго ці іншага прадмету. Пакуль матэрыяльнае становішча ўсяго студэнцтва будзе такім, як яно цяпер, датуль і „лёгкі да выкананьня ў сучасны момант“ мэтод т. Сьнежкі нічога ня варт.

Што можна зрабіць цяпер у пабудовах мэтодаў?

Пабудова гэта, мне здаецца, павінна будзе пайсьці па шляху поўнай прыстасаванасьці да цяперашніх умоў жыцьця студэнцтва. А гэта можна будзе праз умела наладжанную і *ў свой час* добра зьвязаную тэорыю з практыкай. Такі падход да пытаньня дасьць магчымасьць студэнту, за меншы лік часу, добра і дасканальна вывучыць тую ці іншую дысцыпліну. Я кажу ў свой час таму, што ў нас на каждым кроку такія зьявы: звычайна практычныя на старэйшых курсах у большасьці выпадкаў пачынаюцца тады, калі студэнт тэорытычна зусім не падрыхтован. Пачынаючы працу ў клініках—мала карысьці з такой працы, ня ведаючы самага галоўнага—патолёгічнай анатоміі, без якое значны лік сымптомаў хворага становяцца няяснымі, а ў некаторых выпадках і нерастлумачанымі. Альбо, што карысьці з таго, што пры праходжаньні на III к. хірургіі вучылі мэтоды лячэньня тых, ці іншых хваробаў, ня ведаючы ні слова з фармаколёгіі. Я не хачу гэтым сказаць аб тэй самай „папярэдняй тэорытычнай падрыхтоўцы“ т. Сандамірскага, я хачу толькі лішні раз падкрэсьліць неабходнасьць цеснай неразрыўнай, у свой час добра паднесенай, тэорыі з практыкай.

Калі практычна падысьці да вырашэньня гэтага пытаньня, то шлях мне здаецца павінен быць гэтакім: у той час, калі анатом чытае аб анатоміі артэрый альбо нэрваў, гістолёг у гэты час павінен чытаць іх гістолёгію, фізыолёг—фізыолегію, хімік—хімію кровезвароту і г. д.

Разумеецца, і тут не абойдзецца бяз цяжкасьцяй, але гэта усё-ж будзе значна лягчэй пры сучасных умовах, чым тыя мэтоды, якія ўжо былі прапанованы іншымі таварышамі. З аднаго боку—будзе паложан канец той бяссыстэмнасьці ў выкладаньні, якая яшчэ і цяпер ёсьць, з другога—можна будзе больш поўна аўладаць тымі мэтодамі будучай працы, да якое мы рыхтуемся.

Прынцыпова можна было-б згадзіцца з т. Бараноўскім, які прапануе падзел усяго факультэту на дзьве часткі, але тут, памойму, патрэбна агаворка.

Адмовіўшыся ад падзелу на курсы, захаваўшы, як аснову, падзел факультэту на дзьве часткі, трэба ўвесьці падзел кожнай з часьцей на сэмэстры з такім разьмеркаваньнем, каб кожны з іх абхопліваў

---

[1]) Гл. „Чырвоны Сьцяг“ № 3—4.

больш-менш аднолькавы лік прадметаў і, з другога боку, каб яны былі аднолькавы па цяжкасьці іх вывучэньня.

Скончыўшы той ці іншы сэмэстр робіцца груповы залік і пераходзяць да другога сэмэстру.

Тады мне здаецца, ня будзе мець месца такая зьява, як вясновая „лихорадка“ пры здаваньні залікаў, калі студэнцтва ў большасьці сваёй за адсутнасьцю часу йдзе здаваць залік на „арапа“, а другое— гэта ня будуць здаваць фармаколёгію і патолёгічную анатомію ў II палове году на IV к., а фізыку—па V курсе, што ў большасьці выпадкаў у нас прыкмячаецца.

Такім чынам, самі па сабе адпадуць цяперашнія залікі, maximum'ы і minimum'ы, а будзе адзін навуковы год, у канцы якога студэнцтва атрымае ня minimum запісаных залікаў у кніжцы, а maximum здабытых ведаў у галаве.

---

Б. Б—ст.

# Ці патрэбен лясны інжэнэр Беларусі[1]).

(*Да арт. А. Л. гл. „Чырвоны Сьцяг“* № 3-4).

З пераходам нашае краіны на шлях адраджэньня свае гаспадаркі, на шлях падняцьця вытворчых сіл краю на патрэбную вышыню, паўстаў цэлы шэраг запатрабаваньняў у нашым экономічным будаўніцтве.

Галоўнай і амаль што адзінай крыніцай нашага багацтва зьяўляюцца нашы лясы. Вось чаму пытаньне аб падняцьці прыбытковасьці лесаматэрыялаў, аб іх поўнай эксплёатацыі зьяўляецца чарговым і неадкладным.

Цяперашнія формы эксплёатацыі лесу трэстамі шмат у чым нездавальняючыя: яны засталіся старымі. У большасьці сваёй, як правільна адзначае тав. А. Л. у сваім артыкуле: „Ці патрэбен лясны інжэнэр Беларусі“—„яны абслугоўваюцца былымі прадпрыёмцамі, альбо іх даручнымі“. Праўда, ёсьць сярод іх і спэцы, але нізкі ўзровень іх кваліфікацыі пры ўсім іх жаданьні (а яго ў іх ня вельмі многа) ня дасьць ніякай магчымасьці падыйсьці да вырашэньня гэтага пытаньня так, як гэтага патрабуе цяперашні момант. Большасьць з іх—людзі, „якія прымазаліся да цёпленькіх мясьцечак“, тэхнічна няпісьменныя.

Т. Крупская ў сваім артыкуле „К вопросу о красных спецах“[2]) азначае ролю і значэньне як „старых спэцаў“, так і новых „чырвоных спэцаў“. Аб старых яна кажа: „налаживать новое, восстанавливать неналаженное, добросовестно работать на заводе—для них вещи непонятные“.

Вось чаму і пытаньне, пастаўленае А. Л., аб неабходнасьці замены ў нашай ляснoй гаспадарцы старых „даручных“ляснымі інжэнэрамі трэба лічыць сваечасовым і неадкладным. Неабходнасьць гэта яскрава паказана тымі процантамі павялічэньня вытворчасьці і прыбытку, якія дасягнуты ў Поўначлесе праз „уліваньне кадру кваліфікаваных працаўнікоў“. Заходняя Эўропа і Амэрыка далёка пашлі ў гэтым напрамку. Адчыніўшы цэлы шэраг адпаведных ВНУ, яны ў іх рыхтуюць вузкіх спэцыялістых, комэрсантаў, эксплёататараў.

Але нам такіх не патрэбна. Рабоча-сялянскай краіне патрэбен не спэцыяліст-эксплёататар, а чырвоны спэц, які ня толькі ведаў-бы сваю справу, а быў-бы організатарам-масавіком. Такіх у нашай ляснoй гаспадарцы, дзе яны вельмі патрэбны, на жаль няма. Вось адсюль і відна тая вострая патрэба ў лясным інжэнэры, які павінен быць у мэтах хутчэйшага разьвіцьця нашае прамысловае лясное гаспадаркі.

Нашым гаспадарчым установам, якія больш усяго зацікаўлены гэтай справай, патрэбна зараз-жа паставіць гэта пытаньне ў парадак дню, як неадкладнае.

Зразумела, што тут ня прыдзецца адчыняць асобна-спэцыяльных факультэтаў, ды гэта пры цяперашніх умовах і выканаць немагчыма. Заснаваць-жа спэцыяльныя цыклі дзеля падрыхтоўкі лясных інжэнэраў пры нашай сельска-гаспадарчай Акадэміі і Факультэту Права і Мясцовае Гаспадаркі пры Б.Д.У.—справа лёгкая і вельмі пажаданая.

[1]) У парадку абгаворваньня.
[2]) Гл. часопісь „Красная Молодежь“ № 4, 1925.

# ЗА РУБЯЖОМ.

## Народнае выхаваньне ў Карэі.

*(Ліст на Эспэранто з Карэі—Японія).*

Падуладзіўшы сабе шляхам дыплёматыі Карэю, японцы зразу пачалі праводзіць сваю колёніяльную політыку, альбо „японізацыю“ свае новае колёніі. Галоўным сродкам у гэтым кірунку зьяўляецца выхаваньне і адукацыя народу. З гэтаю мэтаю японцамі пабудована шмат школ у Карэі (па тыпу школ у Японіі) для японскіх эмігрантаў. Усе школы падуладны Карэйскаму гэнэрал-губарнатару.

Пачатковыя школы ўтрымоўваюцца школьнымі саюзамі—гарадзкімі і сельскімі, але сельскія школьныя саюзы слабыя і ўлада робіць ім дапамогу. Так, у 1916—17 г. было асыгнавана на сельскія школы 216,000 японскіх іен. Агульны лік пачатковых школ у Карэі—324 з 34.000 вучняў.

Сярэднія і комэрцыйныя школы таксама ўтрымоўваюцца школьнымі саюзамі. У Карэі існуюць 3 сярэдніх, 2 комэрцыйных, 5 жаночых вышэйшых і 4 практычных жаночых школы. Апошнія атрымліваюць субвэнцыю ад улады.

Цікавы адносіны ліку кандыдатаў у школы да ліку свабодных месц: у красавіку 1916 году было 1425 кандыдатаў на 375 месц у сярэднія школы, 648 канд. на 526 месц у вышэйшыя жаночыя і практычныя школы і 220 канд. на 71 месца ў комэрцыйныя школы.

Вышэйшых школ спэцыяльна для японскіх эмігрантаў ня маецца, але дзякуючы стараньням Мэдыцынскай і Тэхнічнай Колегій у Сэуле (галоўны горад Карэі), японскім студэнтам прадстаўлена магчымасьць атрымліваць вышэйшую адукацыю поруч з карэйскім студэнцтвам.

Прыватных школ вельмі мала. Усяго прыватных школ, з дазволу ўлады, існуе 6.

У Сэуле маецца прытулак для дзяцей, які меркаваўся для 200 асоб, і які падтрымліваецца ўрадам. Для дзяцей карэйцаў існуюць спэцыяльныя, прыстасаваныя да ўмоў жыцьця карэйцаў, школы. У гэтых школах карэйцы павінны вывучаць, як абавязковы прадмет, японскую мову.

Школьны ўзрост для карэйцаў—8 гадоў, а для японцаў—6. У школе дзеці абучаюцца 4 гады, (пры 3-х курсах).

Усяго маецца: дзьве ўрадавых школы з 15 настаўнікамі (10 японцаў і 5 корэйцаў) і 486 вучнямі, з якіх 329 хлопцаў і 157 дзяўчат; 426 агульных школ з 1976 настаўнікамі, з якіх 602 японцы і 1374 карэйцы, і з 65654 вучнямі, з якіх 59528 хлопцаў і 6126 дзяўчат і 19 прыватных школ з 77 настаўнікамі, з якіх 25 японцаў і 52 карэйцаў, і з 1489 вучнямі, з якіх 1305 хлопцаў і 184 дзяўчыны.

Адукацыю карэйцы могуць атрымліваць агульную, прамысловую і спэцыяльную.

Агульная адукацыя грунтуецца на імпэрыялістычным законе 1890 г. (як і ў Японіі самой), па якому школа дае дзецям моральнае выхаваньне і агульныя веды для таго, каб зрабіць з карэйцаў верных падданых Японіі і дастойных грамадзян сьвету.

Прамысловая адукацыя імкнецца даць веды па галінам земляробства, комэрцыі і тэхнічнай індустрыі.

Спэцыяльная адукацыя мае мэтаю даць студэнтам веды з галін вышэйшай навукі і мастацтва.

І. Серышаў.

---

# Народнае выхаваньне на высьпе Фармоза.

*(Ліст на Эспэранто з Фармозы—Японія).*

Фактычна японцы перамаглі толькі жыхароў, якія жывуць каля берагоў выспы і загналі больш ваяўнічыя плямёны ў сярэдзіну, прымусіўшы іх хавацца ў горах і непраходных лясох выспы. Для замірэньня дзікіх, японцы пасылаюць туды час ад часу караючыя экспэдыцыі.

Пераможаныя плямёны патроху цывілізуюцца. Адным з галоўных сродкаў цывілізацыі зьяўляецца выхаваньне і адукацыя пераможаных плямён. У гэтым напрамку японскі ўрад зрабіў ня мала, і народнае выхаваньне і асьвета там пастаўлены шырока. У выхаваўчай працы прымае ўдзел як цэнтральнае дзяржаўнае прадстаўніцтва, так і вобласнае. У дэпартаманце грамадзкай адміністрацыі, у агульным аддзеле маецца сэкцыя „Выхаваўчых спраў“, якая і кіруе выхаваньнем і адукацыяй жыхароў выспы.

Уся выспа падзелена на 20 частак. Больш значныя часткі маюць асобнага загадчыка выхаваўчым аддзелам, у іншых-жа службовая адміністрацыя разам са школьнымі комітэтамі нясе адказнасьць за становішча народнага выхаваньня ў частцы.

Сэкцыя „Выхаваўчых спраў“ мае тры пададдзелы: першы ведае грашовую і выдавецкую справамі выхаваўчае справы; другі ведае навучальнымі справамі, бібліотэкамі, дзіцячымі садамі і іншымі выхаваўчымі ўстановамі, наглядае за выдачаю дыплёмаў, пэнсій, субвэнцый вучням і іх сем'ям; трэці пададдзел ведае выключна навучальнымі падручнікамі, пераплётамі і інш. Апрача таго, у кожнай акрузе (частцы) маюцца школьныя гарадзкія і сельскія комітэты, якія павінны клапаціцца аб рамонце школьных памяшканьняў, аб школьнай маемасьці, аб вучнях і настаўніках. Час ад часу гэтыя комітэты робяць справаздачу начальніку акругі. Фармоскія школы маюць наступныя катэгорыі: 1) школы нацыянальнае (японскае) мовы; 2) сярэднія школы; 3) пачатковыя школы для японцаў; 4) грамадзкія школы для тубыльцаў, кітайцаў і дзікіх—першабытных жыхароў выспы і 5) прыватныя школы.

Школы 1-ай і 2-ой катэгорый, знаходзячыся пад контролем ураду, пабудованы ў галоўным горадзе выспы—Тайгокі. Дырэктары гэтых школ падуладны гэнэрал-губарнатару выспы. Штат іх складаецца з 7 профэсароў, 14 асыстэнтаў і 6 сакратароў.

Школы 3-яй катэгорыі—пачатковыя школы для японцаў; адчынены яны ў розных месцах выспы, згодна патрэбе ў іх.

Школы 4-ай катэгорыі знаходзяцца пад контролем вобласнага кіраўніцтва. Штат служачых у школе складаецца з загадчыка школы,

галоўнага настаўніка і яго памоцнікаў. Азначанага штату пэдагогічнага пэрсоналю не ўстаноўлена. Колькасьць яго залежыць ад ліку клясаў у кожнай школе.

За дазволам на адчыненьне школы начальнік акругі зварачаецца непасрэдна да гэнэрал-губарнатара.

Дзеці тубыльцаў, кітайцаў вучацца ў сваіх школах. Для дзяцей дзікіх—аборыгэнаў выспы пабудованы спэцыяльныя, прыстасаваныя да мясцовых умоў школы. Адчынены яны ў больш культурных акругах. Штат служачых у іх такі самы, як і ў іншых пачатковых школах.

Апрача таго, на Фармозе існуюць прыватныя школы, г. зн. такія, якія ўтрымоўваюцца на сродкі прыватных асоб, організацый і чужаземцаў.

З грашовага боку ўсе школы на выспе падзяляюцца на 1) урадавыя ( існуюць на сродкі ўраду), 2) грамадзкія (атрымліваюць сродкі з мясцовых грамад) і 3) прыватныя (існуюць на прыватныя сродкі).

## Профшколы і студэнцтва Лейпцыгу.

(*Ліст з Лейпцыгу на Эспэранто*).

У мінулым месяцы споўнілася 50 год з часу ўтварэньня ў Лейпцыгу першай профэсыянальнай школы, якая была адчынена 6.X. 1875 г. Яна мела тады 546 вучняў пры 23 настаўніках і мела 18 клясаў. Кожны вучань павінен быў вучыцца ў ёй 2 гады. У тыдзень заняткі вяліся 6 гадзін. У гэты час яны абучаліся нямецкай мове, арытмэтыцы, маляваньню, геомэтрыі, географіі, фізыцы, гісторыі.

Гэта амаль што тое самае, што ўжо зараз праходзіцца ў народных школах. Навучаньне адбывалася ўвечары і гэта была адна з прычын таго, што школы ня мелі добрага посьпеху. Але ня гледзячы на гэта, навучаньне з кожным годам паляпшалася. Ужо ў 1879 годзе была адчынена другая школа, праз 10 гадоў іх было ўжо 13. У 1890 годзе іх аб'ядналі, і ў сучасны момант іх у Лейпцыгу ўсяго 4, па аднэй у кожнай частцы гораду.

Мэтай школ раней была агульная адукацыя і толькі значна пазьней яны сталі сапраўды профэсыянальнымі. Вячэрнія заняткі былі заменены ранішнімі. Вучні павінны ўжо працаваць у школе па 3 гады і праходзяць там апрача агульна-адукацыйных прадметаў тэорыю і практыку якое-небудзь профэсыі.

Цяпер пры Лейпцыгскіх профшколах налічваецца 25 школ рознай спэцыяльнасьці з 269 клясамі і апрача гэтага існуе яшчэ 79 клясаў для тых, хто ня хоча вывучаць профэсыі, а прышоў у школу, каб атрымаць агульную адукацыю. Лік слухачоў цяпер—12000; настаўнікаў—175, сярод іх—50 настаўнікаў, якія кіруюць практычнай працай слухачоў. Вучні павінны быць у школе ад 9 да 12 гадзін у тыдзень. Дзеля лепшых слухачоў існуюць, апрача таго, курсы, якія атрымліваюць дапамогу ад гораду. На гэтых курсах выкладаюцца: чужаземныя мовы, стэнографія, тэорыя і практыка мэталюргічнай, дрэваапрацоўнай і папернай прамысловасьцяй.

Вы пытаеце аб працы і жыцьці вашага расійскага студэнцтва. Трэба сказаць, што як сярод нямецкага, так і сярод вашага студэнцтва ёсьць групоўкі. Адны працуюць за сувязь з Савецкай Расіяй і яны

ўваходзяць у аб'яднаньне з цэнтрам у Празе. Другая частка мае свой саюз, які завецца „Расійскі Нацыянальны Саюз“. Гэта—буржуазны саюз.

Нямецкае студэнцтва мае ў сваіх шэрагах і фашыстых, і нацыяналістых, і соцыял-дэмократаў, і соцыялістых, і комуністых. Комуністых вельмі мала ў унівэрсытэтах і гэта зразумела чаму, бо вучыцца ў унівэрсытэце маюць магчымасьць толькі дзеці буржуазіі. Комуністычнае студэнцтва жыве ў вельмі цяжкіх абставінах; за ім наглядае паліцыя, ім робяць розныя перашкоды.

Эспэранто распаўсюджваецца сярод студэнцтва, але носіць характар аматарства: зьбіраюць маркі, паштовыя карткі і г. д. Сярод комуністычнага студэнцтва эспэранто распаўсюджваецца больш; усе студэнты—сябры SAT (Уненацыянальная Ўсясьветная Асоцыяцыя рэволюцыйных эспэрантыстых), выкарыстоўваюць эспэранто дзеля клясавых мэт, але пасьля разгрому Лейпцыгскага Саюзу эспэрантыстых-рабочых паліцыяй за „комінтэрнаўскую пропаганду“, яны працуюць вельмі асьцярожна.

У наступны час напішу аб жыцьці бэрлінскага студэнцтва.

**Вілі Крэй.**

---

# Па ВНУ, Рабфаках і тэхнікумах.

Я. Адамовіч.

## Верым у посьпех.

**Да адчыненьня Горацкае Сельска-гаспадарчае Акадэміі.**

Дзень адчыненьня Беларускае сельска-гаспадарчае Акадэміі імя Кастрычнікавай рэволюцыі—гэта сьвята ня толькі навукі, але і ўсяе рабочае клясы і сялянства. Асобнае значэньне гэты выпадак мае для Савецкае Беларусі. Беларусь—сельска-гаспадарчая краіна, з слаба развітаю прамысловасьцю; яна мяжуе з буржуазным капіталістычным сьветам. Гаспадарчае становішча ўнутры рэспублікі вельмі цяжкае, з прычыны аграрнай перанаселенасьці, безрабоцьця ў горадзе і ў вёсцы,



Праўленьне Беларускае Сельска-Гаспадарчае Акадэміі.

цяжкага становішча і беднаты мястэчак, нізкага ўзроўню тэхнікі і культуры, недахвату інтэлігэнтных, тэхнічна-адукаваных і падрыхтаваных сіл, з якімі комуністычная партыя і савецкая ўлада маглі-б весьці краіну да вышэйшага гаспадарчага і культурнага ўзроўню. Ведама, цяжкі экономічны стан, у якім знаходзіцца Беларусь, ёсьць вынік царскае політыкі наогул, і ў паасобку, політыкі ў стасунку да акраін. Толькі савецкая ўлада разбудзіла творчыя сілы краіны і гэтым стварыла магчымасьць

рабочай клясе і сялянству супольнымі натугамі паднімаць гаспадарку і культуру. Беларусь як атрымоўвала да гэтых пор, так і надалей атрымае падтрыманьне ўсяго Савецкага Саюзу ў справе эканомічнага ўздыму народнае гаспадаркі і, у паасобку, у справе разьвіцьця тэхнікі ў сельскай гаспадарцы. Толькі ў пролетарскай дзяржаве пры цесным саюзе рабочых і сялян можна падняць тэхніку сельскае гаспадаркі, бо рабочая кляса больш, чымся іншыя клясы, зацікаўлена ў тым, каб рабіць дапамогу сялянскай гаспадарцы. І яна гэту дапамогу зробіць.

Політыка партыі і Савецкае дзяржавы накіравана да таго, каб фабрыку дапасаваць да сялянскага поля, памагчы селяніну атрымаць танны тавар, даць сялянскай гаспадарцы інвэнтар, угнаеньне, сельскагаспадарчыя машыны і г. д. Бо толькі разьвіцьцё прамысловасьці ў далейшым забясьпечыць узмацненьне матэрыяльнага становішча сялян. Але з другога боку важна, каб і сялянскае поле дапасавалася да патрэб фабрыкі. Дзеля гэтага неабходна, каб сялянства сеяла больш тэхнічных культур, разьвівала гадоўлю жывёлы і гэтым давала-б сырызну і неабходныя продукты для ўзрастаючай прамысловасьці. Такая гаспадарчая сувязь паміж прамысловасьцю і сельскаю гаспадаркаю ўзмацняе сувязь рабочае клясы з сялянствам і асабліва выяўляе ролю рабочае клясы ў справе падняцьця тэхнікі і палепшаньня сялянскага быту.

Другая ня менш важная роля ў справе падняцьця культуры і тэхнікі на вышэйшую ступень даецца нашай інтэлігэнцыі. У Беларусі дзе раней колёнізатарская, а патым русыфікатарская політыка прыгнятала беларускія працоўныя масы, няма ў патрэбнай меры шырокіх кадраў інтэлігэнцыі, і трэба сказаць, што толькі партыя і савецкая ўлада дае магчымасьць рабочым і сялянам ствараць гэту інтэлігэнцыю, прапушчаць праз школы для таго, каб яна, вышаўшы стуль, ішла да рабочых і сялян, нясучы ў вёску элемэнты тэхнікі і культуры. І цяпер савецкая ўлада, пашыраючы сетку вышэйшых школ, стварае цэлы шэраг тэхнікумаў і профэсыянальных школ дзеля таго, каб падрыхтаваць інтэлігэнцыю да тае вялікае работы, якую ёй трэба будзе выканаць у будучыне. Рабочая кляса зацікаўлена ў разьвіцьці тэхнікі і ў пашырэньні сеткі вышэйшых школ.

Трэба сказаць, што сярод тае інтэлігэнцыі, якая працуе ў Беларусі, наглядаюцца некаторыя ўхілы. Партыя і дзяржава зараз усё больш і больш уцягвае рабочых і сялян у беспасрэднае будаўніцтва па адраджэньні гаспадаркі, па ўзмацненьні матэрыяльнае базы для разьвіцьця сельскае гаспадаркі, прамысловасьці і таваразвароту ў краіне, каб падняць дабрабыт працоўных мас. Прыняць актыўны ўдзел у гэтай рабоце партыя кліча і інтэлігэнцыю. І значная частка інтэлігэнцыі, асабліва беларускай, якая ранэй была прыніжана і бяспраўна, павінна больш актыўна паказаць сябе, бо партыя клапоціцца аб тым, каб праз гэтую інтэлігэнцыю, якая ведае мову, звычаі і быт беларускага народу, падняць культ. ўзровень насяленьня. У момант, калі партыя кліча інтэлігэнцыю да актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве рэспублікі, некаторая частка гэтае інтэлігэнцыі заяўляе: „Мы пачнем работу толькі тады, калі вы адсунеце прышлых інтэлігэнтаў, якія самі зьяўляюцца русыфікатарамі, якія па істоце нічога не далі беларускаму народу“. Гэта шкодны легкамысны ўхіл. Партыя праводзіць зараз беларусізацыю ня дзеля слоў, ня дзеля гульні, а дзеля таго, каб рукамі гэтае працоўнае інтэлігэнцыі падымаць сельскую гаспадарку і культуру, бо вырашыць паленінску нацыянальнае пытаньне, значыць прылучыць пра-

цоўныя масы, якія раней былі прыгнечаны царызмам у палітычным і нацыянальным стасунку, да вышэйшае культуры, да вышэйшае тэхнікі, падняць іх да больш высокага матэрыяльнага ўзроўню. Асабліва гэта грае вялізарную ролю ў Беларусі, дзе неабходна ўзмацняць і пашыраць рабочую клясу, і гэтым памацняць палітычнае становішча Савецкае Беларусі, як аднаго з пагранічных пунктоў, тут, на мяжы з заходнім капіталізмам, дзе тэхніка і прамысловасьць стаяць на многа вышэй нашага.

Пры тых вялікіх задачах, якія стаяць перад намі ў справе адраджэньня Беларусі, адмаўляцца ад дапамогі інтэлігэнцыі іншых нацыянальнасьцяй, казаць аб тым, што не даюць ходу беларускай інтэлігэнцыі—няправільна. Думаць, што можна зараз нязначнымі сіламі беларускае інтэлігэнцыі замяніць усе тэхнічныя і навуковыя сілы іншых нацыянальнасьцяй было-б абмылкова і не на карысьць таму народу, таму селяніну, які так дораг для беларускае інтэлігэнцыі. У адказ на такія гутаркі мы павінны сказаць, што задача партыі і дзяржавы—рукамі інтэлігэнцыі ўсіх нацыянальнасьцяй, усімі тэхнічнымі і навуковымі сіламі дабівацца палепшаньня быту, павышэньня культурнасьці беларускага народу, а не выганяць тае інтэлігэнцыі, якая хоча разам з партыяй і рабочаю клясаю рабіць вялікую справу па вызваленьні ад някультурнасьці і беднаты працоўных Беларусі. Трэба зьнішчыць рэшту таго недавераньня да расійцаў, якое зьяўляецца спадчынаю русыфікатарскае палітыкі царызму, бо работы для інтэлігэнцыі ўсіх нацыянальнасьцяй у нас не пачаты край. Трэба-ж, урэшце, Беларусь абярнуць у квітнеючую сельска-гаспадарчую культурную краіну з развітаю прамысловасьцю, дапасаванай да здаволеньня гаспадарчых і культурных патрэб рабочага і селяніна. Вырашэньне гэтае задачы будзе паскорана толькі тады, калі нашы Тэхнікумы, Унівэрсытэт, Акадэмія (і вось чаму я асабліва вітаю адчыненьне сельска-гаспадарчае Акадэміі) дадуць нам кадры інтэлігэнцыі, якая тут-жа вырасла і якая возьмецца за вялізарную працу па падняцьці гаспадаркі на вышэйшую культурную ступень.

Нам трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на палітычнае выхаваньне моладзі, якая вучыцца ў вышэйшых школах. Глыбіня і размах гэтых задач патрабуе ад новых інтэлігэнтных сіл, якія ствараюцца намі, вывучэньня грамадзкіх навук і закалкі сябе ў ленінскім духу. Мы кладзем на яе вялізарную адказнасьць, вялізарныя абавязкі па вывучэньні экономікі, гісторыі, географіі, мовы тае нацыянальнасьці, працоўным масам якой яна будзе служыць з тым, каб ведаючы быт, звычаі, культуру беларускага народу, быць беспасрэдна блізкай да сялянства, перадаючы яму свае культурныя і тэхнічныя веды, нясучы сваю культуру ў вёску.

Беларусізацыя нашага дзяржаўнага апарату праводзіцца не дзеля „ўціраньня ачкоў" капіталістым, а дзеля беспасрэдных практычных патрэб рабочае клясы і сялянства. Наш апарат ня можа быць адарваным ад шырокіх мас насяленьня, і калі ён ня будзе з ім злучацца праз мову, то ён стане чужым для яго і няздольным у выстарчальнай меры абслугоўваць яго. Мы беларусізуем апарат дзеля таго, каб ён быў родным, блізкім сялянскай масе, асноўнай масе насяленьня краіны. Адсюль наша вымаганьне ад новых працаўнікоў, каб яны ведалі мову і бытовыя варункі беларускага сялянства. Калі вэтэрынар пытаецца—дзеля чаго яму патрэбна беларуская мова, мы кажам: „для таго, каб

ня толькі табе была зразумела карова ці конь, а каб ты быў у першаю чаргу зразумелым сялянству, каб праз сялянства, праз перадачу яму часткі тваіх ведаў, ты мог з посьпехам весьці барацьбу з хваробамі жывёлы". Тое самае мы кажам аграному. Мала ведаць тэхніку, мала ведаць сельскую гаспадарку—трэба ведаць быт, псыхолёгію, патрэбы сялянства, яго мову, ведаць яго гісторыю, звычаі з разьлікам, каб, калі ты будзеш грамадзкім агрономам, грамадзкім земляўпарадчыкам і г. д., ты мог цалкам выканаць твае задачы. І мы спадзяемся, што Беларуская Сельска-гаспадарчая Акадэмія, бязумоўна, гэтую задачу выканае, што яна зьявіцца памоцнікам партыі і Савецкай дзяржавы ў вялізарнай рабоце па адбудаваньні краіны як культурна і гаспадарча, гэтак і нацыянальна. Акадэмія дасьць нам кадр спэцыяльных і культурных сіл для ажыцьцяўленьня гэтых мерапрыемстваў. Ісьці да соцыялізму бяз добрых салдат немагчыма. Быць добрым салдатам соцыялізму немагчыма без адпаведнае тэхнычнае падрыхтоўкі. Моладзь, якая падрыхтоўваецца ў нашых школах, павінна гэта ведаць.

Бяз тэхнікі, без кваліфікацыі не магчыма ісьці наперад. Прыкладам да гэтага можа быць стан нашых мястэчак: калі-б насяленьне нашых мястэчак было прыстасавана да вытворчае працы, калі-б яно мела кваліфікацыю, яно не знаходзілася-б у такой беднасьці, як зараз. Пры іншых умовах гэтыя мястэчкі маглі-б даваць тэхнічную кваліфікаваную сілу калі не для Беларусі, то для іншых мясцовасьцяй Саюзу. Тое самае і ў сельскай гаспадарцы. Ня толькі таму бедна жыве наша сялянства, што яно адстала гаспадарча, але і таму, што яго культурны ўзровень вельмі нізкі, яго тэхніка надта слабая.

Пры вывучэньні стану безрабоцьця, ня гледзячы на вялікі лік безработных, мы ізноў натыкаемся на факт недахвату кваліфікаванае рабочае сілы. Натуральна, што калі-б сярод безработных было больш кваліфікаваных рабочых, то было-б лягчэй зьліквідаваць безрабоцьце і пашырыць вытворчасьць.

Тая акалічнасьць, што навука ў справе організацыі дзяржавы і жыцьця працоўных мас на шляху да соцыялізму іграе вялізарную ролю, —бясспрэчна. Мы вітаем нашы вышэйшыя школы, як соцыялістычныя асяродкі, дзе будуць стварацца нашы памоцнікі па перавыхаваньні грамадзянства.

Толькі ў пролетарскай дзяржаве, дзе вольная праца—можа быць і вольная навука. І толькі тут гэта навука можа разьвівацца разам з працаю, разам з разьвіцьцём багацьця і культурнасьці краіны. Для гэтага адчыненьне сельска-гаспадарчае Акадэміі асабліва каштоўна, і мы яго горача вітаем. Профэсура і студэнцтва Акадэміі павінны ведаць, што мы бярэм пад увагу іх цяжкае становішча і ўмовы жыцьця і работы ў Горках. Пры пастаноўцы пытаньня аб злучэньні інстытутаў Менскага і Горацкага мы прадбачылі цяжкасьці, якія маглі ўзьнікнуць пры разьвіваньні работы Акадэміі ў Беларускіх Горках. Аснаўны момант тут упіраўся ў тое, што горкі—вёскі, і той вялікай культурнай установе, як Акадэмія, быць там надзвычайна цяжка. Мы ведалі і тое, што цяжка будзе запрасіць профэсароў пры такіх умовах. Але мы прыкладаем усе патугі да таго, каб з Горак зрабіць квітнеючы гарадок, у якім Сельска-гаспад. Акадэмія змагла-б разьвівацца зусім нормальна. Дзяржава ўсімі сіламі і сродкамі дапаможа Беларускай с.-г. Акадэміі імя Кастрычнікавае рэволюцыі, стаць рассаднікам карысных для сельскае гаспадаркі і ўсяе народнае гаспадаркі культурных

ведаў. Гэтыя гады цяжкага матэрыяльнага становішча ўсяе краіны, натуральна адбіваюцца на агульным становішчы Акадэміі. Але мы думаем, што нароўне з палепшаньнем агульнага дабрабыту працоўных мас зможам усямерна палепшыць становішча профэсуры і студэнтаў Акадэміі і гэтым прысьці ім на дапамогу ў іх вялікай рабоце. Гарантыяй у тым, што Акадэмія будзе з посьпехам разьвівацца, павінна быць шчыльная сувязь профэсуры і студэнцтва ў іх імкненьні працаваць і гатавацца да тае вялікае справы, да якой ідзе Акадэмія і ўся навука ў цэлым—да адраджэньня народнае гаспадаркі і да будаваньня соцыялізму.

**М. Брыт.**

## Аб практычнай працы белсэктарцаў у час вакацыяў.

*Бел. сэктар Ком. Унівэрсытэту Нац. Меншасьцяў Заходу.*

Усякая тэорыя мае для нас вартасьць толькі тады, калі яна зьвязваецца з жыцьцёвай практыкай. Увесь вучэбны плян нашага Унівэрсытэту пабудован такім чынам, штоб кожны студэнт аднachасова з акадэмічнай працай веў працу па-заўнівэрсытэтам у рабочых раёнах, сярод рабочых на прадпрыемствах. „Няма студэнта без партыйна-грамадзкае працы“! Унівэрсытэт трымае шэфства над Паўліхоўскай воласьцю Асташкаўскага павету, Цьвярской губ., дзе вядзецца плянавая сталая праца студэнтамі нашага ўн-ту. Вясной кожнага году малодшыя курсы з сваімі лектарамі на цэлы трымэстр выязджаюць у гэту воласьць, дзе ўся вучэбная програма увязваецца жыцьцёвымі ўмовамі воласьці і вядзецца праца сярод насельніцтва. У гэтым вучэбн. годзе на апошні трыместр—паедзе першы курс і нашага белсэктару. У час вакацыяў студэнты сэктару накіроўваюцца на практычную працу ў Савецкую Беларусь.

Ужо ў 24 годзе студэнцтва сэктару зрабіла першую вылазку для вядзеньня практычнай працы на абшарах Савецкае Беларусі, дзе нашы студэнты вялі розную грамадзкую, ці партыйную працу—па заданьням партыйных комітэтаў ці іншых Савецкіх установ. Тады сэктар яшчэ быў па колькасьці малым—(каля 40 студ.).

У 1925 годзе на падставе вопыту мінулага году павялі яшчэ большую працу будучы на Беларусі ў час летніх вакацый.

Прыехаўшы з практычнае працы на Беларусі, мы сумавалі, абгаварвалі, падагульвалі ўсю тую працу, усе тыя ці іншыя зьявішчы, з якімі даводзілася спаткацца кожнаму з нас ў час летняе працы. У пачатку вучэбн. году была праведзена сэктарская конфэрэнцыя для падрахунку ўсіх тых матэрыялаў, якія накапліваліся ў студэнтаў у час працы. Некалькі дзён праходзіла гэтая конфэрэнцыя. Заслухоўваліся, крытыкаваліся даклады амаль ад большасьці раёнаў Беларусі. Рабіліся на падставе гэтых матэрыялаў вывады—аб належнай пастаноўцы працы ў тых ці іншых раёнах, альбо акругах. Маюцца досыць важныя дасьледчыя матэрыялы, дняўнікі (штодзеньнікі), якія ў некаторых досыць добра высьвятляюць сучаснае сапраўднае жыцьцё таго ці іншага раёну Беларусі, аднае ці некалькіх галін сучаснае працы.

Дзеля таго, што матэрыял прывезены студэнтамі мае сваю каштоўнасьці, сэктарскім сходам абраны рэдакцыйная комісія з тым, каб

дэталічна апрацаваць увесь матэрыял і калі зьявіцца магчымым—выдаць асобным сшыткам.

**Праца сэктару па адшуканьні матэрыялаў па беларусазнаўству.**

Зараз студэнтамі III курсу вядзецца дасьледчая праца—па адшуканьні матэрыялаў у музэях, зьвязаных з гісторыяй Беларусі. Яе толькі хлопцы яшчэ распачалі. Але варта ўзяцца сур'ёзна, бо ў маскоўскіх, ленінградзкіх музэях (у Гомельскім, Магілеўскім, Наўгародзкім так сама маецца шмат матэрыялаў) ляжаць каштоўныя гістарычныя матэрыялы, якія яскрава высьвятляюць мінулае жыцьцё Беларусі і сэктар рашыў стала папрацаваць над гэтым у час зімовых вакацый. Частка студэнтаў III курсу паедзе адшукоўваць матэрыялы па гэтых музэях. Акрамя таго—зараз студэнцтва сэктару рыхтуецца для практычнае працы на Беларусі ў час зімовых вакацый.

Сэктар моцна рыхтуецца каб у найкарацейшы тэрмін узброіцца Марксіцкай, Ленінскай дыялектыкай для тэй працы, якая чакае Белсэктарцаў, працы соцыялістычнага будаўніцтва.

Масква.

---

Л. Нозік.

# Досьлед летняй працы студэнтаў у вёсцы.

## Пэдфак БДУ.

У канцы мінулага акадэмічнага гаду профкомам пэдфаку БДУ была праведзена кампанія па падрыхтоўцы студэнтаў да ад'езду на летнія вакацыі ў вёску. Было прачытана некалькі інструкцыйных дакладаў на розныя тэмы. Профком Працасьветы і ячэйка КПБ пэдфаку спадзяваліся, што студэнцтва ў вёсцы будзе падсобнай сілай компартыі ў справе правядзеньня ў жыцьцё лёзунгу: „тварам да вёскі“, што студэнт у вёсцы зробіць значную культурна-прасьветную працу і дапаможа вясковым партыйным і савецкім організацыям. Але да жалю, прыходзіцца сказаць, што надзеі ня скончыліся посьпехам.

Мінула лета. З усіх канцоў Беларусі пачалі зьязджацца студэнты назад ва унівэрсытэт. Пасыпаліся асабовыя даклады. З разданых студэнтам больш 500 пуцёвак зьвернута толькі 168; іншыя, як відаць, не заслужылі пячаткі РВК.

Профком выдзеліў комісію па падрахаваньню вынікаў летняе працы студэнтаў. Апошняя, распрацаваўшы прадстаўленыя даклады, прышла да наступных вывадаў: па працы ўсіх студэнтаў можна падзяліць на дзьве часьці. Адна—правяла даволі глыбокую грамадзкую і савецкую працу, але яна складае ўсяго асоб 40-50. Другая—не зразумела ні сэнсу, ні мэтоду, ні значэньня працы ў вёсцы. Справаздачы некаторых т. т. даволі ясна гавораць аб тым формалізьме і казёншчыне, якія мелі месца у правадзімай імі працы. Некаторыя т. т. здолелі ўсю зробленую імі працу напісаць у 10 словах. Напрыклад, адзін студэнт піша: „У профком Працасьветы.—Даводзіцца да ведама, што працы на вёсцы мною зроблена досыць шмат, у вёсцы ўсё спакойна, аб чым я і паведамляю“. Другі ў сваёй справаздачы піша, што такога-та дня, у такой-та гадзіне я гутарыў з старшынёю сельсавету, у такой-та гадзіне заходзіў у чытальню, тады-ж я гутарыў з сакратаром мясцовае ячэйкі комсамолу і г. д. і г. д. Як відаць, у гэтага

т-ша больш пашло часу на запісь з кім і калі ён гутарыў, чым на канкрэтную працу.

Хто тут праў і хто вінаваты? Здаецца, што вінаваціць поўнасьцю студэнтаў няма грунту. Вынаваты з аднаго боку студэнцкія організацыі ў унівэрсытэце, якім у далейшым трэба будзе сваячасова зьвярнуць увагу на падрыхтоўку і інструктаваньне студэнтаў, якія будуць ад'язджаць на вакацыі ў вёску. З другога боку, вялікая віна падае і на організацыі на мясцох, якія не ўявілі сабе, як скарыстаць студэнта. У далейшым мясцовым організацыям трэба скарыстоўваць студэнта на больш актыўнай грамадзкай працы, а не на канцэлярскай і тэхнічнай, як гэта было ў гэтым годзе. Мясцовым організацыям трэба ўявіць, што студэнт на вакацыі прыязджае дадому, а не ў іх распараджэньне, і трэба яго скарыстоўваць па магчымасьці на тэй працы, якую сам студэнт хоча выканаць.

---

М. Варфман.

## Студэнцтва і мэтрычная сыстэма вагі.

Пытаньне аб уводзе ва ўсім СССР мэтрычнай сыстэмы мер і вагі даволі асьвятляецца ў нашым друку, але на месцах, у глухіх кутках, якія знаходзяцца далёка ад гарадоў і мястэчак, мала хто ведае аб ёй і аб тым, што мяркуецца яе ўвядзеньне ў вёсцы.

Вось тут і павінны прысьці на дапамогу Савецкай уладзе студэнты-вяскоўцы. Шмат могуць яны зрабіць і шмат залежыць ад іх у гэтай справе—справе рэформы сыстэмы вымераў. Увесьці зразу мэтрычную сыстэму ў нашым Саюзе, вядома, справа цяжкая, і яна ўводзіцца паступова ўжо ў працягу некалькіх год, а вёскі, непасрэдна вёскі, даткнецца ў пачатку 1926 году.

Студэнцтва, разьязджаючыся на вакацыі, павінна наперад азнаёміцца з новай сыстэмай вымераў і прыехаўшы дадому ўзяцца за справу пропаганды яе. Літаратуры па гэтаму пытаньні маецца шмат на ўсіх мясцовых мовах [1]).

Роля студэнцтва ў гэтай справе: растлумачыць селяніну, чаму мы ўводзім у сябе новыя меры, недахопы старых мер і пераважнасьці новых перад старымі.

Практычнасьць новых мер ясна—яны налічваюць усяго 11 назваў, а ўжываемых сялянствам яшчэ менш. Яны маюць мэтаю палягчыць селяніну яго падрахункі, яны лягчэй запамінаюцца і пры іх дапамозе лягчэй рабіць усялякія вылікі.

Студэнцтва, якое прымае актыўны ўдзел у розных кампаніях, не павінна адстаць і ў гэтай.

---

[1]) Рэкомэндуюцца падручнікі: Перэльман „Мэтрычная сыстэма мер і вагі" (на ўсіх 4 мовах) і „Перакладныя табліцы са старых мер на мэтрычныя".

Б. Б.

# З мінулага.

*Успаміны к 5 гад. існаваньня БДУ.*

Ужо пяць гадоў, як пачаў існаваць БДУ. З таго моманту шмат чаго перамянілася, шмат новага ёсьць у жыцьці унівэрсытэту.

Успамінаецца 1922—23 год. Гэта—другі год існаваньня унівэрсытэту, першы—пэдагогічнага факультэту.

Зімою, у моцныя марозы, амаль што босыя, у парваных вопратках, ляскала зубамі студэнцтва. Інтэрнат быў толькі адзін, на 25 асоб усяго, а іншыя, як птушкі, лёталі з аднае прыватнае кватэры на другую: ня было грошай аплачваць іх. Бяз хлеба сядзелі па тыдні. Пуста было ў кішэні, пуста было і ў жываце.

Стыпэндыі сталі даваць пасьля каляд, у саўзнаках. А яны вельмі скора губілі сваю каштоўнасьць.

Студэнцкіх організацый ніякіх ня было, апрача акадэмсэкцый. Толькі ў сярэдзіне году ўтварылася працартэль, якая больш-менш памагала студэнтам, накіроўваючы іх на працу.

Шмат дзе працавалі студэнты. Успамінаецца „сушылка"—тэмпэратура—блізка 40 градусаў—і часта з „сушылкі" пападалі ў больніцу...

Гэта тады, калі мяшчанска-нэпманскае студэнцтва ўсяго гэтага ня ведала, спакойна трымала залікі, хадзіла на лекцыі, знаходзіла час бываць у тэатры і кіно.

Надта дрэнныя адносіны былі паміж пролетарскім і не пролетарскім студэнцтвам.

Нам трэба было і працаваць фізычна, і несьці грамадзкую працу, і вучыцца, каб апраўдаць надзеі тых, што паслалі нас у ВНУ. І як ні кепска было, але ніхто не казаў, што так дрэнна жыць, бо ўсе ведалі, што жыцьцё склалася тады так для ўсіх, хто хацеў працаваць і жыць.

Час бег. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт мацнеў экономічна, паляпшалася і жыцьцё пролетарскага студэнцтва.

Цяпер жыцьцё значна лепшае, умовы працы зусім іншыя. Існуюць моцныя студэнцкія організацыі, ёсьць некалькі інтэрнатаў, якія зьмесьцяць цяпер блізка 450 асоб, ёсьць сталоўка і г. д.

Трэба толькі працаваць, трэба вучыцца.

Мінулае засталося далёка ззаду.

---

Далідовіч і Гілеўскі.

# Першы выпуск Польпэдтэхнікуму.

У кастрычніку гэтага году адбыўся першы выпуск польскага пэдтэхнікуму. Гэты выпуск быў сьвятам ня толькі адных выпускнікоў, але ўсяго польскага жыхарства працоўнай Беларусі.

Польскае насельніцтва да Кастрычнікавай рэволюцыі ня мела магчымасьці вучыць і выхоўваць сваіх дзяцей на роднай польскай мове. Ня можна было адчыняць школ, гаварыць галосна папольску. Не патрэбен быў у той час польскаму жыхару і польскі настаўнік. Але ў сучасны момант, калі кожная нацыянальнасьць атрымала магчымасьць разьвівацца ў сваёй роднай мове, зьявілася патрэба ў польскім чыр-

воным настаўніцтве дзеля абслугоўваньня польскага жыхарства Беларусі. Дзеля гэтага ў 21 годзе адчыніліся ў Менску Польскія Пэдагогічныя Курсы, якія потым пастановай ЦВК БССР ў 22 годзе былі пераймянованы ў Польскі Пэдагогічны Тэхнікум.

Пачалася гарачая праца па падрыхтоўцы адпаведных кадраў чырвонага польскага настаўніцтва. Па сканчэньні II курсу нашы выпускнікі былі кінуты ў вёскі з польскім насельніцтвам на аднагадовую практыку. Працавалі яны ў самых закінутых, цёмных, „шляхэтных“ мясцовасьцях, у вельмі дрэнных абставінах. Пазналі дакладна жыцьцё селяніна Беларусі, яго культурныя патрэбы, поле і ўмовы сваёй будучай працы і з гэтым зьвярнуліся ў тэхнікум для далейшай вучобы. Узрост актыўнасьці шырокіх сялянскіх мас, вялікае іх запатрабаваньне ў адчыненьні польскіх школ прымусіла кіруючыя асьветныя органы пасьпяшыць з выпускам IV курсу на адзін год.

Гэтакім чынам, нашы практыканты з поўным разуменьнем важнасьці гэтае пастановы, прашлі ў 1924-25 вуч. годзе програму двух курсаў—III і IV.

І ўжо ў пачатку восені нашы выпускнікі разьехаліся па вёсках, не чакаючы ўрачыстасьці свайго выпуску.

. . . . . . . . . . . . .

На ўрачыстасьці выпуску, дзе прысутнічалі, апрача студэнтаў і настаўнікаў тэхнікуму, прадстаўнікі ўлады, партыйных, профэсыянальных і грамадзкіх організацый, дырэктар ППТ даў кароткі нарыс гісторыі тэхнікуму, падкрэсьліваючы цяжкія моманты і ўмовы яго разьвіцьця, якія былі пераможаны супольнымі сіламі студэнцтва і настаўніцтва пры дапамозе ўлады.

„Слабыя і нерашучыя зараз-жа пакінулі нас, ня хочучы змагацца з тымі цяжкасьцямі, якія былі на нашым шляху. Асталіся больш энэргічныя, якія пражылі ўсе перашкоды ў жыцьці тэхнікуму і якія цяпер сораму тэхнікуму ня зробяць. Скончыла тэхнікум з гэтакіх 12 асоб. З іх—8 комсамольцаў і 4 беспартыйных, але шчыра адданых справе рабочых і сялян, блізкіх компартыі. У гэтым годзе мы выпускаем толькі 12, але ў будучым наш тэхнікум пачне даваць сыстэматычна па 36 і больш настаўнікаў кожны год“,—сказаў дырэктар ППТ.

Далей з прамовамі і прывітаньнямі выступалі прадстаўнікі розных інстытуцый, якія паказвалі на значэньне выпуску і тую ролю, якую павінен сыграць новы, узброены матэрыялістычным сьветапаглядам, чырвоны настаўнік, і на тую адказнасьць, якую кладзе на іх партыя і ўлада.

Прадстаўнік выпускнікоў, тав. Палубінская, запэўніла, што ролю сваю ў справе будаўніцтва рабоча-сялянскае дзяржавы выпускнікі з гонарам выканаюць і ніколі ня сойдуць з таго шляху, па якім накіравала іх компартыя і савецкая ўлада.

Вучоба скончана—за працу!

---

А. Сушкевіч.

# Год працы.

## Бел. Дзярж. Вэтінстытут.

У дзень Вялікага Кастрычніка споўніўся год існаваньня нашага інстытуту.

Становішча інстытуту з кожным часам паляпшаецца. Праўда, ёсьць і не здавальняючыя бакі, але колькасьць іх усё меншае.

У пачатку навуковага году ў інстытут прыбыло некалькі вядомых навуковых вэтпрацаўнікоў з вэтвну РСФСР і УССР і цяпер усе катэдры інстытуту заняты. Навуковыя габінэты і лябораторыі, якія былі ў мінулым годзе слаба абсталяваны, цяпер значна папоўніліся, хаця яшчэ далёка да 100 проц. Робяцца ўсе захады, каб студэнцтва было забясьпечана падручнікамі. Вось на жаль бібліотэка наша зусім слабая як па якасьці, так і па колькасьці, а на яе трэба зьвярнуць самую значную ўвагу. Наогул, працу прадметных камісій, якія ў гэтым напрамку працуюць, можна лічыць здавальняючай.

У культасьветным кірунку культсэкцыяй профкому зроблена ў гэтым годзе шмат новага добрага. Справа ў тым, што ў мінулым годзе ў інстытуце была „гуртковая гарачка“: было організована шмат гурткоў і кожны студэнт лічыў сваім абавязкам запісацца ў кожны гурток. А карысьці ад гэтага было зусім мала. І культсэкцыя пастанавіла непатрэбныя гурткі зачыніць, а на застаўшыяся зьвярнуць неабходную ўвагу.

З новых гурткоў, якія цяпер толькі організаваліся, адзначым: гурток грамадзкай вэтэрынарыі і гурток па вывучэньні Ленінізму. З гурткоў старых, якія добра працуюць, трэба адзначыць авіяхім і корэспондэнцкі. Ёсьць і цяпер непатрэбныя гурткі, як, напрыклад, „бягучы момант“, трэба толькі чытаць газэты і бягучы момант будзе зразумелы і бяз гуртка.

Наша насьценная газэта прогрэсуе. Спачатку яна была зусім кепская, але пасьля суду (гл. „Чырвоны Сьцяг“ № 3-4 „нашы вэтэрынары“) значна палепшылася. Да поўнага выздараўленьня трэба павысіць якасьць газэты, у склад рэдколегіі ўвесьці сталых корэспондэнтаў.

Намячаецца адчыненьне свайго клюбу.

Для студэнтаў, якія ня ведаюць беларускае мовы, або якія хочуць больш дасканала вывучыць яе, існуе беларускі гурток.

Вэтэрынарны інстытут выдае штомесячную часопісь „Беларуская Вэтэрынарыя“, якая распаўсюджваецца ня толькі на Беларусі, але па ўсім СССР. Студэнты-корэспондэнты таксама супрацоўнічаюць у ёй.

Вось праца ў культасьветным напрамку. У далейшым гэту працу трэба пашырыць і паглыбіць.

Яшчэ некалькі слоў аб матэрыяльным становішчы студэнцтва. Параўнаўча з леташнім, справа мала палепшылася. Стыпэндый мала, ды яшчэ існуюць катэгорыі першая і другая, якія дробяць адну стыпэндыю. Адны атрымоўваюць больш, другія—менш. На гэта трэба зьвярнуць увагу. Таксама трэба палепшыць агульнае памяшканьне для студэнцтва і сталоўкі.

Гэта нашы посьпехі і недахопы.

З паступленьнем новых студэнтаў стварылася ячэйка КПБ, якая разам з ячэйкай ЛКСМБ робіць досыць значную працу, часта робяць сходы, на якіх прысутнічае шмат беспартыйных.

Трымаецца сувязь з саюзам мэдсанпрацы; зараз выдзелена студэнтка для сувязі з жанаддзелам. Завязваецца сувязь з студэнцтвам Казанскага Вэтінстытуту, якое хоча мець сувязь з намі. дзяліцца вопытам, мэтодамі працы і г. д.

Вось кароткі малюнак працы за год. Праўда, яшчэ шмат чаго трэба зрабіць, каб паставіць інстытут на адпаведную вышыню. Але да 9-й гадавіны кастрычніка, мы ўпэўнены, справа будзе зусім палепшана.

---

Х. Багдановіч.

## Як мы жывем.

*Рагачоўскі пэдтэхнікум.*

Тэхнікум наш утварыўся з злучэньня Бабруйскага і Рагачоўскага пэдтэхнікумаў у 1924 годзе. У мінулым годзе налічвалася 247 студэнтаў. Вясной выпусьцілі 68 чырвоных пэдагогаў. У гэтым годзе прынялі 103 і зараз у тэхнікуме налічваецца 282 студэнты. Соцыяльны склад—пераважна сяляне; іх—62 проц. Маецца комсамольская ячэйка ў 65 сяброў, якая карыстаецца значным аўторытэтам і досыць добра вядзе працу.

Установа займае лепшае памяшканьне Рагачову—былое рэальнае вучылішча.

У гэтым годзе, як дасягненьне, вучобу пачалі поўнасьцю па Дальтон-пляну. Габінэтаў усіх дзевяць; зраньня праца ў габінэтах ідзе 4 гадзіны і 2 гадзіны пасьля габінэтнай працы заняткі йдуць па цьвёрдым прадметам: маляваньне, фізвыхаваньне, разбор практычных лекцый і інш.. З пункту гледжаньня сучасных умоў, габінэты абсталяваны здавальняюча.

Пры пэдтэхнікуме маецца сямігодка, дзе практыкуюцца студэнты апошняга курсу.

Як культурная адзінка, тэхнікум робіць досыць значную грамадзкую працу па-за сваімі сьценамі. У часы розных сьвят і кампаній выязджаюць на вёску; школа няпісьменных і малапісьменных знаходзіцца цалком пад кіраўніцтвам студэнтаў. Ставяцца беларускія спэктаклі ў рабочых клюбах. Установа ўся цалком шэфствуе над вёскай „Зборава“. Комсамольская ячэйка супрацоўнічае з вясковай ячэйкай в. „Старое Сяло“.

Матэрыяльнае становішча паляпшаецца. У мінулым годзе атрымлівалася 84 стыпэндыі па 10 руб. Зараз Наркамграшовых спраў замацована 168 стыпэндый па 12 руб. Разьмяркоўваючы на поўныя і няпоўныя стыпэндыі, стыпкамісія думае задаволіць усіх патрабуючых. Але трэба сказаць, што, дзякуючы пераходнаму каштарыснаму году гэтыя стыпэндыі не атрымоўваюцца і дзеля гэтага ў жыцьці тэхнікуму пануе матэрыяльны недахоп; асабліва апошні адчуваецца ў інтэрнаце. Крэдыт акраддзелу грашовых спраў у 125 стыпендый па 10 руб. яшчэ не атрыманы і ня можа замяніць стыпэндый, а, значыцца, і задаволіць патрэбы.

Агульных памяшканьняў для студэнтаў два: адно—сталае, другое—часовае. Першае абсталявана добра, другое—нездавальняюча. Маецца яшчэ патрэба ў вопратцы, асабліва ў зімовай.

Але ўсе недахопы патроху выжываюцца.

---

# Крытыка і бібліографія.

**Мік. Шапавалаў.**

**Лев Тихомиров „Плеханов и его друзья“ Выд. „Колос“. Ленінград, 1925 г.**

Разглядаемая кніжка належыць пяру вядомага народавольца, які потым перайшоў да самаўладзтва, Льву Ціхаміраву—палітычнаму супраціўніку Г. В. Пляханава; ужо дзеля гэтага яе зьмест прадстаўляе для нас значную цікавасьць.

Кніжка складзена па ўласных успамінах аўтара і напісана ўжо пасьля 1918 году.

Факты, якія ў ёй высьвятляюцца, і якія датычацца дзейнасьці Пляханава, галоўным чынам у пору народніцтва, дапамагаюць усебакова выявіць гэту вялікую ў гісторыі рэволюцыйнага руху Расіі асобу. Леў Ціхаміраў змог ацаніць яе даволі добра. У апошнія гады свайго жыцьця ён як-бы ўвайшоў у мінулае і хацеў об'ектыўна аднавіць малюнкі свайго былога жыцьця. На рукапісу гэтае кніжкі напісана „тени прошлого“. У большасьці выпадкаў аўтор не дае аналізу тым здарэньням і зьявам, якіх датычыцца ў гэтай кніжцы. „Я,—кажа ён,—малюю толькі вобразы асоб і рысы паасобных здарэньняў“.

Былы народаволец, а потым ідэолёг самаўладзтва, Л. Ціхаміраў у першыя гады свае палітычнае чыннасьці быў блізка знаёмы з Пляханавым. Потым гэта знаёмства ў Георгія Валянцінавіча, а таксама і ў яго прыяцеляў з соцыял-дэмократычнага лягеру, выклікала толькі пачуцьцё глыбокае агіднасьці і варожасьці да гэтага чалавека, які ўпаў да ног монарха і прысягнуў яму ў вернасьці.

Апошнія гады свайго жыцьця да самае сьмерці ў 1923 годзе Ціхаміраў правёў у Маскве адзінокім і замкнутым, застаючыся, як і раней, ворагам марксызму.

Ня гледзячы на ўсе адмоўныя бакі, у кніжцы Л. Ціхамірава зьмяшчаюцца даныя, якія дасюль былі не вядомы, і якія могуць зьяўляцца першакрыніцаю для вывучэньня Пляханава і яго прыяцеляў: Засуліч, Аксяльрода, Дэйча і інш.

Ёсьць у кніжцы месцы, якія не пазбаўлены суб'ектыўнасьці аўтора, маюцца таксама няточнасьці ў датах і блытаніна ў здарэньнях, але яны тлумачацца у прадмове да кніжкі П. Папова і яго ўвагамі ў канцы яе.

У большасьці выпадкаў П. Папоў, пры тлумачаньні тых ці іншых няяснасьцяй, няточнасьцяй і блытаніны ў датах і здарэньнях у аўтора, грунтуецца на Дэйчы, С. Вальфсону і Аптэкману.

Як відаць, кніжка напісана без дапамогі літаратуры аб Пляханаве, якая вышла да яе выданьня, бо па зьместу яе адчуваецца адсутнасьць знаёмства з Пляханаўскай літаратурай.

Прадмова і ўвагі П. Папова значна палягчаюць разгляд гэтае кніжкі і дапамагаюць чытачу орыентавацца ў выкладваемых аўторам фактах. Але месцамі яны ня поўныя і ня точныя.

З няточнасьцяй у датах у Л. Ціхамірава, некаторых месцаў увага ў П. Папова і блытаніны здарэньняў у аўтора кніжкі спынімся на наступных:

1) Ціхаміраў паказвае што „ў палкіх спрэчках, якія прывялі да падзелу „Зямлі й Волі“ на „народавольцаў“ і „Чорнапераздзельцаў“ Пляханаў ня прымаў больш-менш значнага ўдзелу“ (стар. 25). Па словах-жа Аптэкмана Пляханаў прымаў ў іх актыўны ўдзел, а па пытаньні аб тэрору ён сказаў вельмі багатую па зьместу прамову, аб чым і кажа Папоў у сваёй увазе.

2) Таксама няправільнае падцьверджваньне аўтара ў тым, што кіраўнічы артыкул програмнага характару для „Чорнага Перадзелу“ быў напісан Пляханавым за межамі, тады як па словах таго-ж Аптэкмана, на якога паказвае Папоў, ён быў напісаны ў Расіі.

3) Няверна таксама падцьверджваньне аўтора, што Пляханаў ня цікавіўся ні філёзофіяй, ні мастацтвам. Наадварот, у пытаньнях філёзофскага абаснаваньня марксызму ён зьяўляўся адным з глыбокіх настаўнікаў. Яму-ж належыць пастаноўка проблемы мастацтва ў шэрагу артыкулаў аб мастацтве.

Гэтыя факты ўзяты мною, як прыклад няточнасьці і блытаніны ў кніжцы Л. Ціхамірава.

Спынімся цяпер на недахопы ва ўвагах П. Папова:

1. На 24 старонцы ў аўтора чытаем: „Павінен заўважыць, што ён (Пляханаў М. Ш.) зусім не „папаў пад уплыў“ К. Маркса. Гэта быў-бы няточны выраз“. П. Папоў да гэтых слоў Ціхамірава на той-жа старонцы дадаў, што гэта месца „зачоркнута аўторам“. між тым, па-нашаму, паколькі яно прыведзена ў кніжцы, трэба было-б даць аб ім ва ўвагах адказ, які-б больш здавальняў чытача па сутнасьці, бо дасюль у Пляханаўскай літаратуры па гэтым пытаньні ўсё-ж было разнагалосьсе.

Пры адсутнасьці-ж гэтага чытач, які мала знаёмы з Пляханаўскай літаратурай, будзе пастаўлен у гэткае становішча: ці верыць аўтору, ці не?

2. Ва ўвагах Папова да стар. 18 гаворыцца: „Ленін характарызуе адмоўныя бакі Пляханава так: „ён сапраўды падазроны і rechthaberisch de nec plu ultra (заўсёды лічыць сябе самым правіловым)... ён выяўляў нянавісьць, якая даходзіла да няпрыстойнасьці (западазраваў у шпіёнажы, абвінавачваў у гешэфтмахарстве...) і г. д. Уражаньні Леніна належаць да 1900 г. гл. „Ленінскі зборнік“ пад рэдакцыяй Каменева, стар. 34-35.

Гэта будзе ня зусім верна і точна. Па-першае, дадзеных Паповым слоў У. І. на 35 старонцы Ленінскага зборніку няма, а зьмешчаны яны на 33 і 34 стар.; па другое, Ленін зусім не *характарызуе* адмоўныя бакі Пляханава так, як гэта паказана Паповым. Апошнім прыведзеныя словы растлумачаны ня точна. У гэтым чытач можа лёгка пераканацца прачытаўшы тую самую стацьцю Леніна („Як чуць не патухла „Іскра“), на якую паказвае Папоў.

Ленін у гэтым месцы намаляваў Пляханава ўзрушанага расколам ў „Саюзе расійскіх соц.-дэмократаў заграніцай“, ахарактарызаваў яго ў часе абурэньня і душэўнага патрасеньня, якое вывела яго з нор-

мальнае роўнавагі, ахарактарызаваў яго ў *азначаным месцы і часе* што не адно і тое самае. Дзеля гэтага сказаць наогул, што „так Ленін характарызуе адмоўныя бакі Пляханава“—будзе ня зусім верна. Нельга, грунтуючыся на калі-небудзь зарэгістраваным факце ў азначаным *месцы* і часе ў якога-небудзь таварыша, скажам: лаянцы, сказаць, што гэты таварыш заўсёды лаецца і буяніць.

Правільней будзе дзеля гэтага сказаць, што у моманты ўзбуджэньня, альбо выяўленьня крайнасьцяй Пляханава, альбо, як кажа Ціхаміраў, у хвіліну, калі выяўлялася яго „хваравітая раздражненасьць самакаханьня“, Ленін ахарактарызаваў яго адмоўныя бакі словамі, якія ўжо былі пададзены. А то па тлумачэньню слоў Леніна Паповым выходзіць, што Пляханаў у здаровым уме і цьвярозай памяці, нармальным становішчы духа, быў заўсёды падазроным, выказваў нянавісьць да таварышоў і г. д. Гэта месца стацьці Леніна растлумачана Паповым ня верна, ня точна. З характарыстыкай-жа Пляханава, дадзенай Леніным і Ціхаміравым у моманты, калі выяўляюцца яго крайнасьці, можна зусім згадзіцца.

3. Ня лішнім было-б, калі мець на ўвазе ня зусім падрыхтаванага чытача, дадаць увагу і да наступнага месца: „...у яго (Пляханава М.Ш.) ня было ні іскры геніяльнасьці, непасрэднага пранікаlarьня ў самую сутнасьць зьяваў... Сілёгізм распадаецца на тры моманты: установку *вялікае пасылкі*, установку *малое пасылкі* і выраб *вывада*. Пляханаў быў моцны ў вырабе вывада...“

4. Незразумелай будзе чытачу таксама агаворка Папова на 42 старонцы: „Усё пададзенае тут Ціхаміравым належыць да абыватэльскіх выдумак, якія ня маюць за сабою ніякіх фактычных даных“.

Ці належыць да абыватэльскіх выдумак увесь II-гі разьдзел, альбо паасобныя яго месцы і якія? Ці лічыць „выдумкамі“, напрыклад, гэтакія месцы: „...З самага пачатку (прыезд Пляханава ў Расію М. Ш.) у яго здарылася непаразуменьне з самым Леніным“; „Керанскі наогул не падыходзіў дзеля дзяржаўнай дзейнасьці“; „Ленін быў абвешчан дзяржаўным злачынцам... Але здарэньні йшлі ўсе crescendo, бальшавікі разагналі ўстаноўчы сойм („учред. собрание“), узброенай рукою захапілі Пецярбург і Маскву...“

За выключэньнем прыведзеных недахопаў увагі П. Папова ўсе каштоўныя і карысныя пры разглядзе данае кніжкі. Вядома, цяжка даць здавальняючы адказ на пытаньні чытача, якія часта паўстаюць пры чытаньні гэтае кніжкі. Аўтор зачаста агаворваецца: ...„здаецца“... „не памятую з якога часу“... „Я не памятаю. Ня то ў канцы, ня то з пачатку“... „мне здаецца“... „ня ручаюся“... і г. д.

З месцаў, якія не пазбаўлены суб'ектыўнасьці аўтора, ужо часткова зачэпленых намі вышэй, адзначым яшчэ адно: „Іншыя сябры яго кампаніі былі ў *многіх* напрамках *значна* сымпатычней“ (Пляханава. Курсыў наш М. Ш.) стар. 36.

У некаторым напрамку цікавы паказваемы Л. Ціхаміравым факт значнага пералому ў 80 г.г, у поглядах Пляханава на ролю ў рэволюцыі сялянства. У апісваемы ім час Пляханаў адносіўся да сялянства „амаль з агіднасьцю“, лічачы яго реакцыйнай клясай, якая ня грае „ні прогрэсыўнай ролі капіталізму, ні прогрэсыўнай ролі пролетарыяту“. У Пляханаўскай-жа літаратуры адносна гэтага існавала думка што да пачатку 1904 году Пляханаў апрача пролетарыяту лічыў сілай якая рухае рэволюцыю, таксама і бяднейшае сялянства і *толькі з гэ-*

*тага году* ён замяніў яго лібэральнай буржазіяй.

Новым і вельмі цікавым зьяўляюцца факты, якія падаюцца Ціхаміравым адносна маркуемага супрацоўніцтва Пляханава ў „Вестнике Народнай Волі“, а таксама аб „далучэньні яго групы ў 1883 годзе да „Народнае Волі“.

**Л. Аксельрод—Ортодокс.**

**С. З. Кацэнбоген**: „Что такое Марксизм“.

Кніжка тав. С. З. Кацэнбогена: „Что такое Марксизм“ зьяўляецца ў тэорытычна-прынцыповым напрамку зусім вытрыманай працай з пункту гледжаньня ортодоксальна-рэволюцыйнага марксызму. Пара няўдалых формуліровак, якія сустракаюцца ў ёй, і без якіх, трэба сказаць, не абыходзіцца ні адзін твор, зусім не парушаюць агульнай лініі, паўтараю, зусім вытрыманай у духу рэволюцыйнага марксызму.

Цікава ў гэтай працы прыцягненьне буржуазнай соцыолёгічнай літаратуры, з якою тав. Кацэнбоген, як відаць, добра знаёмы.

Звычайнае ў нашай сучаснай марксыцкай літаратуры ігнараваньне буржуазнае соцыолёгічнае думкі, адсутнасьць крытыкі гэтае апошняе можа, у канцы канцоў, шкодна адбіцца на ходзе разьвіцьця рэволюцыйнага марксызму.

*Масква.*

**Н. Ф.**

**„Экономическая географія Юго-Востока“** складзена А. А. Нікольскай пад рэдакцыяй А. А. Панамарова. Выд. „Буревестник“. 1925. стар. 55, цана 45 коп.

Экономічная географія параўнаўча нядаўна ўключана ў програму ўсіх навучальных устаноў. Ня гледзячы на гэта, яна ўжо пасьпела заняць адпаведнае ёй месца і зусім зразумела чаму. Экономгеографія ёсьць сумежная дысцыпліна з грамадазнаўствам і дае шмат матэрыялу для апошняга. Экономгеографія знаёміць з экономікай тае ці іншае краіны. Але большай часткай у нашай літаратуры па экономгеографіі існуюць агульныя працы. Так, напрыклад, нашаму Саюзу прысьвечаны кнігі Барысава, Цімафеева, Аганоўскага і інш. Кніг-жа, прысьвечаных таму ці іншаму краю, мала. Дзеля гэтага кнігі, як вышэй памянёная, вельмі каштоўны, бо яны даюць поўнае прадстаўленьне аб экономіцы данага краю. Складальніцы данай кніжкі гэтага дасягнуць удалося, ня гледзячы на конспэктыўнасьць вылажэньня. Даная кніга, па думцы складальніцы, павінна служыць навуковым падручнікам для вучняў школ II ступені, школ для дарослых і саўпартшкол. Трэба прызнаць, што складальніца добра выканала пастаўленую перад сабою задачу. Кнігу сьмела можна рэкомэндаваць вучням названых школ. Не без карысьці яна прачытаецца і выкладчыкам экономгеографіі ў сямігодцы. Каштоўна таксама кніга, як уклад у краяведчую літаратуру.

У кнізе маюцца наступныя разьдзелы: 1. Паўднёва-Ўсходні край на карце СССР; 2. Натуральныя фактары, якія азначаюць гаспадарчае жыцьцё Паўднёва-Ўсходу; 3. Насельніцтва; 4. Сельская гаспадарка на Паўднёва-Ўсходзе; 5. Апрацоўчая прамысловасьць; 6. Транспорт; 7. Электрыфікацыя; 8. Гандаль; 9. Паўднёва-Ўсходні край, як экономічны раён СССР.

Дадатак: Пытаньні для праверкі пройдзенага. Дыяграмы і карты сельска-гаспадарчых раёнаў Паўднёва-Ўсходу.

Н. Ф.

А. Воронский „Об искусстве". Бібліотэка „Прожектор". Выд. газэты „Правда". Масква 1925. стар. 61, цана 25 кап.

З імем Варонскага зьвязана прадстаўленьне як аб значным літаратурным крытыку нашага часу. Дзеля гэтага кожны артыкул яго, кожная кніжка прадстаўляе вялікую цікавасьць.

Гэтая цікавасьць да твораў Варонскага зусім апраўдваецца данай кніжачкай аб мастацтве. У ёй Варонскі дакладна выяўляе значэньне інтуіцыі ў процэсе мастацкае творчасьці і, не адмаўляючы значэньня тэхнікі, ён паўстае супроць рашчапленьня мастацкага твору на зьмест і форму, бо паасобна форма і зьмест існуюць толькі ў абстракцыі. І ён зусім правільна робіць, протэстуючы супроць надзвычайнага захапленьня тэхнікай, прыёмам, майстэрствам у мастацкай творчасьці, што наглядаецца ў некаторых сучасных літаратурных кірунках. Пры гэтым на працягу ўсіх яго разважаленьняў чырвонаю ніткаю праходзіць думка аб клясавым характары мастацтва.

У невялікай па абхвату кніжачцы Варонскі дае шмат верных паказаньняў на стан сучаснае літаратуры. Ён паказвае на цёмныя плямы сучаснае літаратуры і тлумачыць прычыны зьяўленьня іх.

Кніжка Варонскага—каштоўная кніжка. Усякі, хто цікавіцца пытаньнямі мастацкае творчасьці ў нашай сучаснай літаратуры, павінен яе прачытаць.

---

З. Ок-с.

**Крапіва—„Крапіва,"** Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. 1925 г. 143 стр. 85 кап.

— „Крапіва"-гэта сшытак сатыр, якія ў большай сваёй частцы належаць да 1922-23 гадоў.

Крапіва—гэта амаль што адзіны сатырык сярод маладых пісьменьнікаў беларусі. Вось чаму і выданьне сшытка сатыр (сшытка першага!) трэба вітаць. Наша беларускае жыцьцё мае шмат сатырычнага, шмат такога што і без акуляр—а здаецца ўродлівым... старым. Яно як падарунак, засталося ад царшчыны... Гэтага шмат... Але шмат і новага, ужо сучаснага, сатырычнага.

Вось і мэта сатырыка высьвятляць гэтыя заганы жыцьця, спыняць на іх увагу, каб тым самым клікаць усіх да іх зьнішчэньня... да ўтварэньня новага быту—жыцьця.

Што мы знаходзім у Крапівы.?

Перш аб-першым у Крапівы

„ Я ў мастацкім агародзе
Толькі марная трава.
А якая? сьмех ды годзе;
Я--пякучка крапіва!"

Не, тав. Крапіва! Ня марная трава—сатыры ў літаратуры. Яны зьяўляюцца лепшым сродкам, чым іншыя віды мастацтва, імі лепш рабіць націск на пачуцьці і розум чалавека, піхаць іх, накіроўваць на другі шлях.

І ня трэба зусім абармотам рук і ног апякаць, але трэба іх выявіць, каб усе бачылі, што гэта за людзі, і якая ад іх праца.

Як жа Крапіва робіць націск на пачуцьці а таксама і на розум? Крапіва даў шмат добрых жыцьцёвых малюнкаў, малюнкаў сатырычных.

„Самагонка," „На менскім скверы" (вось дзе лізе часу-працы!)

„Што я бачыў на трэку". „Ратуйце! (гэта вельмі добрая сатыра на сучасную вёску.

„ Бо ў праклятай рэчцы трунку
скора вчска ўтопіцца.

І „Крапіва" крычыць „Ратуйце!" Зьвярнеце ўвагу!)

„Грышча"...

„ Вось забава для вялікіх,
Вось навука для малых,
Ў самагонцы скоках дзікіх,
У мацюках—заместа кніг."

Крапіва змагаецца за новы быт, за новую вёску,—вось чаму ён лупцуе заганы сучаснай вёскі:

Кніжкі замест мацюка!—вось што трэба вёсцы вось аб чым Крапіва і крычыць.

У мяне, бач, сват прыяцель,
Сельсавету прадсядацель;
Вось чаму зімой і ўлетку
Я ў абоз так езджу рэдка."
(„Каго мне ўзяць за кума"?)

Вось гэта хібы нашае вёскі, дзе протэкцыонызм (кумаўство, сватаўство) зьвіў сваё гняздо. „Свой прадсядацель значыць і ў абоз ня трэба будзе часта езьдзіць" ну доўга раяцца і думаюць, як бы гэта бліжэй стаць да тых, што ўладу маюць, бо і падатак будзе меншы і ў абоз езьдзіць прыдзецца радчэй.

І далей „дзяльба сенакосу" малюнак дзяльбы, дзе і спрэчкі і „мат" і ў канцы—бойка.

Вывад з усіх сатыр адзін: „Вось дзе хібы—вось дзе трэба працаваць."

Такіх сатыр у Крапівы нямнога. Да іх яшчэ можна аднесьці „Здарэньне на вуліцы," „Плеткары"

Іх шмат яшчэ і ў нашай вёсцы. Яны так заўсёды і кажуць:

„Нешта *й я чуў*, ды забыўся",;
Я чуў—Рыкаў з Троцкім біўся.
А Калінін іх мірыў...
Гэта сват *мне гаварыў*..!

Неяк асабовы сатыры на духавенства, бога, малітвы... Вось тут ужо Крапіва перагнуў палку. Яны часамі мо' і шкодны. Гэтакія сатыры пішуцца для веруючых, (бо бязбожніку яны не патрэбны), а калі гэтак, то ў Крапівы ў царковных сатырах вельмі лёгкі і няўмелы падход.

— Ага!,
Цюга!
Лаві;.
Даві
Папа,
Як клапа...

Ці гэтак-жа, тав. Крапіва, праводзяць антырэлігійную пропаганду (а ёю ад сатыр--нясе)? Ад такой прапаганды карысьці зусім няма, ды й сатыр чытаць ніхто ня будзе. Усе яны поўны гэтакага зьместу. „Шмат цеста, ды мала места"

— Гэтак сама як і іншыя сатыры „рэлігійныя“—нягодныя сатыры, Калі Крапіва пісаў для вёскі, аб якой ён сам кажа ў адным вершу:

„У вёсцы цемра,
Вёска дрэмле,
сеўшы на загон,
Ёй кіруе
У ей пануе
Поп ды самагон.“

(Хоць гэта пісалася і ў 1923 гаду, але ўжо Крапіва вельмі перахваціў! У вёсцы пануе кулак, а

„Усюды ззаду
„Лае ўладу
скрыўджаны бедняк“

Занадта, т. Крапіва. А дзе савецкая частка вёскі?), дык ён павінен быў трохі іначай падыйсьці да селяніна, які яшчэ верыць у бога.

Політычныя сатыры—у сучасны момант ня маюць кошту, яны мо' і лішнія ў сшытку; яны былі годны дзеля газэт толькі.

Наогул „ Сатыры“ Крапівы прыносяць карысьць вёсцы, але дзеля гэтага трэба з сшытку гэтых сатыр выкінуць політычныя і некаторыя „антырэлігійныя.“

Выдана кніжка добра з прыгожай вокладкай.

---

З. Б.

**С. Есенін.** „Страна Советская“ Выд-ва „Советский Кавказ“, Тыфліс, стр. 62. С. Есенін „Персидские Мотивы“, „Современная Россія“ Москва 1925 г., стар. 43.

„Страна Советская“—гэта другі Есенін, Есенін „певец и гражданин“, Есенін, які зьвярнуўся пасьля доўгіх часоў вандраваньня. Есенін „Страны Советской“—гэта ўжо ня Есенін вузка-асабовых, мрокавых мотываў, шынкарска-хуліганскіх настрояў, які казаў, што

„Провоняю я перцем и луком,
хулиганом пойду по Руси“,

гэта ня Есенін маліцьвеных настрояў „Березового ситца“—гэта Есенін, які пачаў шукаць свайго месца ў будаўніцтве новага жыцьця.

„Хочу я быть певцом и гражданином“.

„Приемлю все...
Как все есть принимаю.
Готов идти по выбитым следам...
Отдам всю душу Октябрю и Маю“.
(„Русь Советская“).

Есенін „Страны Советской“ вельмі шкадуе, што ў часы Кастрычнікавай Рэволюцыі, у часы грамадзянскіх боек ён цягаўся па карчмах, а ня быў сярод барацьбітоў за лепшую будучыну і яшчэ цяпер Есенін кажа, што:

„Остался в прошлом я одной ногою;
Стремясь догнать стальную рать,
Скольжу и падаю другою“...
(„Русь уходящая“)

Прашоўшае—гэта яго „Москва Кабацкая“.

Ёсьць межы ў жыцьці чалавека, пераступіўшы якія ня вельмі скора вернешся назад, а калі і вернешся, дык ужо ня тым... Так і з Есе-

нiным. Ён вярнуўся, але адна нага ў мiнулым, другая яшчэ склiзгае па сучаснасьцi. І нiчога няма дзiўнага ў тым, што Есенiн—пясьняр сялянскiх хат, кляноў, вёскi i палёў, заяўляе ў „Стансах“:

„Я полон дум об индустрийной мощи,
Я слышу голос человечьих сил“.

Кажа гэта ён iскраньне, але толькi кажа, працы няма. Ён прымае ўсё—„Как есть все принимаю“... i ў гэты час яго думы ня толькi там, на вёсцы, але i тут „на бакинских промыслах“, бо тут тое самае жыцьцё, якое ён абхапiў у слове „все“. Ён яго ўбачыў—яно яго захапiла, бо ён хоча быць

„... настоящим,
А не сводным сыном
В великих штатах СССР“
(„Стансы“)

І зноў ён толькi хоча, бо пераступiць у новае зусiм ён ня ў сiлах.

Есенiн хрупкая, мяккая натура,—натура вельмi глыбокая, хворая—вось чаму i яго тлумачэньне свайго ўходу i разгулу—зразумела. У Есенiна „больная душа“...

„Но эта пакость—
Хладная планета!
Ее и солнцем—Лениным
Пока не растопить!
Вот потому
С больной душой поэта
Пошел скандалить я,
Озорничать и пить“
(„Ответ матери“)

Пашоў. Куды? Вядома—у шынак, у „корабельный трюм“, якi ён сам называе так:

„Тот трюм был—
Русским кабаком
И я склонился над стаканом,
Чтоб не страдая ни о ком
Себя сгубить
В угаре пьяном“.

Але Есенiн „избежал паденья с кручи“...

„Теперь в советской стороне
Я самый яростный попутчик“.

„Избежал“, ня ўпаў i не зьвярнуўся, усё неяк шукае месца. У яго „Страна Советская“—песьня „новага“ Есенiна. Есенiн дае нам Русь... „Русь Советскую“, дзе

„Воскресные сельчане
У волости, как в церковь собрались,
Корявыми немытыми руками
Они свою обслуживают „жись“—,

„Русь беспризорную“, Русь,—якая праводзiць ночы ў катлох, Русь—у якой

„...Троцкий
Ленин и Бухарин“,

„Русь уходящую“, аб якой ён кажа:

„Не троньте!
Будет запах смрада!
Они в самих себе умрут,
Истлеют падью листопада“.

Людзі гэтай „Уходящей Руси“,—абломкі старога.

А потым „Возвращение на родину“, „Стансы“, „На Кавказе“, „Письма к женщине, матери, деду“—усе гэта іскреньнія, моцныя, глыбокія вершы „хворага“ чалавека. „Баллада о 26“—адзін з лепшых твораў Есеніна. Ён яшчэ больш падкрэсьлівае пераход Есеніна да новага, жыцьцёвага.

„Персидские мотивы“—гэта лірыка Есеніна, імі Есенін лечыць сябе пасьля пераломy. Тут Есенін—пясьняр „Тегеранских чайханов“, „Шириазы“, „Персиянок, хоросаны“ і г. д.

Ёсьць прыгожыя, моцныя месцы, ёсьць малюнкі быту, быту „далекой Персии“.

—„Мы в России девушек весенних
На цепи не держим, как собак,
Поцелуям учимся без денег,
Без кинжальных хитростей и драк“.

І яму трохі неяк дзіўна робіцца,

„что персияне
держат женщин и дев под чадрой“

У „Персидских мотивах“—ёсьць прыгожыя пералівы вершаў. Гэта робіць іх больш лірычнымі і прыгожымі... але збоку ўнутранага зьместу—неяк пуста. Альбо гэта поэта аддыхае пасьля зьмены „сваіх лір“... альбо пакаціўся ў „лірычныя настраёвыя мотывы“. Не, ня гэткая творчасьць нам патрэбна, тав. Есенін!

„Мой путь“—гэта аўтобіографія Есеніна ў вершах. Дзяцінства і вёска, сталіца, Расія, царызм, хуліганства і зноў „родина“:

„И пусть иная жизнь села
Меня наполнит
Новой силой!“...

Вось гэта і наша пажаданьне, пажаданьне шчырае. Есенін „Страны советской“—наш Есенін. Ён ужо вельмі часта замест кабака нюхае „премудрость мудрых строк“ Маркса і мы ў праве чакаць ад яго новых лепшых сьпеваў. А чакаць іх ад Есеніна можна.

„Рябиновый костер“—гэта рабінавыя сьпевы Есеніна. Тут і „отцвела липа“, і „отзвенел рассвет“, і „прошлого не жаль“, і „рыданье“, і „отзвучавшие годы“... Усе гэта Есенін... вузка-асабовы, які...

„Восхищаться уж я не умею,
И пропасть не хотел бы в глуши,
Но наверно навеки имею
Нежность грустную „русской души“.

Есенін—русская душа... Душа мягкая... Душа хворая.

---

Б.

**„Наш Край“**, № 1, кастрычнік 1925 г.—штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускай Культуры. Стар. 67.

Краязнаўчы рух на Беларусі захопвае вялікае кола грамадзян. Ім цікавяцца ўсе, каму дарага наша краіна і на вывучэньне якой, на яе мінулае і сучаснае, імі траціцца час. У зьвязку з гэтым перад Інбел-

культам, як вышэйшай навуковай інстытуцыяй Беларусі стала пытаньне, каб мець свой орган, які быў-бы люстэркам усяго краязнаўчага руху, дзе знашлі-б адбітак сваёй працы ўсе тыя акруговыя і раённыя таварыствы, гурткі, а таксама зацікаўленыя асобы.

Так быў утворан штомесячнік „Наш Край", які сваёю мэтаю ставіць даць магчымасьць усім, якія цікавяцца краязнаўствам, дзяліцца вопытам у гэтай галіне, сваімі навуковымі дасягненьнямі і атрымаць усе неабходныя для іх далейшай працы інструкцыі.

На старонках першага нумару мы бачым у навуковых адносінах дасягненьні, там ёсьць вельмі цікавы артыкул М. Шчакаціхіна,—„Фрэскі Полацкага Барысаглебскага Манастыра",—які дае нарыс фрэскавага малярства ў беларускіх царквах XII стагодзьдзя, а таксама разглядае ўзаемаадносіны паміж беларускімі, кіеўскімі і наўгародзкімі фрагмэнтамі малярства, якія мелі месца ў галіне царкоўнай архітэктуры, і шмат іншых артыкулаў.

Вялікая частка месца ў штомесячніку, аж нават 1/3, занята ўсякімі інструкцыямі, анкетамі і програмамі, як напр., „Статут Раён. Краязн. Т-ва", програмы для зьбіральнікаў музычна-этнографічнай творчасьці і народнага слоўніка. Тое, што ўвесь гэты матэрыял каштоўны і цікавы для гурткоў і таварыстваў, мы ня будзем спрачацца, але гэтыя інструкцыі і іншыя рэчы атрымліваюць так ці іначай усе краязнаўчыя організацыі ад Цэнтр. Бюро Краязнаўства аддзельнымі выданьнямі і нямаведама дзеля чаго іх зноў друкаваць.

Месца гэта, мы лічым, можна было-б запоўніць малюнкамі працы сучасных краязнаўчых організацый на Беларусі. У штомесячніку нічога няма аб тых дасьледчых экспэдыцыях, якія праводзіліся ў працягу гэтага году Інбелькультам па вывучэньні як сучаснага, так і мінулага нашай бацькаўшчыны.

Усе гэтыя пытаньні маюць дзеля тых асоб, якія цікавяцца краязнаўствам, вялікае значэньне, і штомесячнік „Наш Край" не павінен, нам здаецца, аб іх маўчаць.

У наступных нумарох добра было-б, каб былі даны арт., што за навука краязнаўства, якое месца яна займае ў сыстэме іншых навук, які яе мэтод, а таксама штомесячнік павінен мець прыблізна такія аддзелы: жыцьцё краязнаўчых таварыстваў і гурткоў на Беларусі, корэспондэнцыі аб дзяржаўных музэях, дасьледчых станцыях і інш., агульнанавуковы аддзел, павінна давацца бібліографія па краязнаўству, водзывы аб выданьнях, якія выпускаюць краязнаўчыя таварыствы, як, напр., „Віцебшчына" і інш. а таксама высьвятляць дзейнасьць і працу краязнаўчых замежных організацый.

Выданьне штомесячніка з тэхнічнага боку—добрае.

---

**Т. Сапуноў.**

**„Асьвета"**—часопісь Нар. Кам. Асьветы і саюзу Працасьветы БССР № 6(9). Менск. Кастрычнік 1925 г.

„Асьвета" мае ў сабе пяць аддзелаў: агульны аддзел, мэтодолёгія і практыка, наш быт, інформацыя і хроніка і кнігапіс.

У агульным аддзеле зьмешчаны артыкулы рознага характару. Тут ставяцца пытаньні будаўніцтва школ розных тыпаў; пытаньні, якія датычацца жыцьця школ, як настаўніцтва, так і вучняў; гаворыцца аб падняцьці кваліфікацыі і ўвязцы грамадзкай працы настаўніцтва з пэ-

дагогічнай працай непасрэдна ў школе. У канцы, даволі разумна ставяцца пытаньні аб залячэньні тых ран, якімі яшчэ пакутуе наша школа, і аб хутчэйшым і канчатковым пераходзе яе на новыя шляхі.

Тав. Сінякоў у сваім артыкуле: „Чаго чакае і жадае асьветнік ад VI Ўсебеларускага зьезду саюзу працаўнікоў асьветы“ даволі добра адбівае пастаноўку працы асьветнікаў як з станоўчага, так і з адмоўнага боку. Ён намячае для выкараненьня гэтых адмоўных рысаў шэраг практычных прапаноў у організацыйным кірунку настаўніцтва; некаторыя з іх глыбока прадуманы і жыцьцёвы, але частка з іх, усё-ж такі, вельмі тэорытычна і, наўрад, ці зможа быць праведзена ў жыцьцё.

Артыкул: „Антырэлігійная пропаганда ў вёсцы“ ня зусім здавальняючы. Програма па прыродазнаўству поўнасьцю можа быць прапрацована ў вёсцы сярод сялян. Што-ж датычыцца „програмы антырэлігійных гурткоў для хат-чытальняў і нардамоў“, то трэба сказаць, што яна шмат вышла за свае межы. Праходжаньне яе магчыма толькі ў ВНУ, альбо ў якой-небудзь спэцыяльнай навучальнай установе, але толькі ня ў вёсцы. Прапрацоўка яе ў вёсцы ў такім абхваце немагчыма.

Даволі цікавым зьяўляецца артыкул тав. З. Гурэвіча: „Некаторыя прынцыпы пастаноўкі справы ў школе сялянскай моладзі“.

Артыкулы тав. Хэйфеца „Увязка школы і піонэрруху“ і тав. М. Лабадаева: „Піонэры і дашкольнікі“ напісаны прадумана, што кажа за компэтэнтнасьць іх аўтараў у гэтай справе.

„Мэтодолёгія і практыка зьяўляецца вельмі каштоўным і, я-б сказаў, самым галоўным аддзелам часопісі для настаўніцтва, а асабліва для тае часткі, якая яшчэ не змагла паставіць справу выхаваньня ў школе згодна патрабаваньням сучаснай грамадзка-пэдагогічнай думкі.

Ня лішнім будзе тут спыніцца на некаторых артыкулах.

Грунтуючыся на асабовым досьледзе, тав. Санцэвіч у сваім артыкуле: „Вопыт організацыі працы па Дальтон—пляну ў I школе-сямёхгодцы г. Барысава“ паказвае бязумоўную пераважнасьць працы па Дальтон-пляну над лекцыйнай сыстэмай.

Заслугоўваюць асабовае ўвагі артыкулы тав. Пінкевіча: „Школа і вытворчасьць на Украіне“ і тав. А. Гайвароўскага: „Мэтоды псыхотэхнічнага адбору“.

Аддзел „Наш быт“ мае ў сабе артыкулы, якія добра адбіваюць жыцьцё нашае школы і яе ўзаемаадносіны з вакольным сьветам.

Даволі добрым аддзелам зьяўляецца „Інформацыя і хроніка“. У ім выдзяляюцца артыкулы Гурэвіча: „Падагуленьні Ўсебеларускай конфэрэнцыі школ сялянскай моладзі“ і тав. Д. Жарынава: „Аб II Усебеларускім зьезьдзе па дашкольным выхаваньні“.

Наогул, у адносінах да ўсяе часопісі можна сказаць, што яна адзначаецца глыбокім зьместам і цалком адпавядае пастаўленым сабе задачам: прысьці на дапамогу настаўніцтву ў справе пабудовы новае Савецкае Працоўнае школы.

Для студэнтаў пэдфаку і пэдтэхнікумаў часопісь „Асьвета“ зьяўляецца таксама цікавай, як будучым працаўнікам на ніве народнае асьветы.

**Н. Алесь.**

**„Маладняк“**—штомесячная літаратурна-мастацкая часопісь ЦК ЛКСМБ. № 9 жнівень-верасень.

Калі мы паглядзім першыя нумары часопісі і правядом рысу да сёньняшняга дню, то ўбачым, что часопісь значна палепшылася; гэта—як адбітак пашырэньня творчасьці маладнякоўцаў.

Яны ўнесьлі ў беларускую літаратуру бадзёрасьць, іншы абхват жыцьця, чымся ў старэйшага пакаленьня поэтаў. Ды гэта зразумела—затым, што маладнякоўцы—гэта пасьлякастрычнікаўскі маладняк, і як поэты--большасьць іх склалася ў гэту эпоху. І сёньня яны эпоху хочуць ухапіць за нутро, пазнаць і выкласьці ў мастацкіх творах.

Вось гэта мы бачым у часопісі „Маладняк“ № 9.

Перадавая—„Шанхайскі шоўк“, поэма Алеся Дудара, дзе поэта паказвае барацьбу працоўных мас супроць капіталістычных акул. Як бачым, поэма па замыслу і абхвату досыць вялікая, і аўтар на тыпах паказаў вялікую барацьбу падняўшагася прыгнечанага кітайскага кулі (хаця гэта вышла крыху схэматычна).

У папярэдніх нумарох амаль што не існаваў аддзел крытыкі сучаснай літаратуры, а ў № 9 мы бачым досыць сталы артыкул А. Бабарэкі аб творчасьці М. Чарота. Аўтар удачна расклаў творчасьць Чарота на часткі і даў належны аналіз.

Трэба пажадаць, каб у далейшым гэты аддзел быў пашыраны.

Затым мы бачым удалую сатыру К. Чорнага, літаратурную ілюстрацыю М. Зарэцкага і іншыя.

Вось невядома, зачым абабраў гэтакую тэму ў сваім артыкуле Бабарэка „Вобразы бяз рамак і асадкі“. Тэма сама па сабе цікавая, але ў сучасны момант яна дзеля тае масы, на якую орыентуецца час. „Маладняк“, не зразумела.

МАСКВА.

---

# АБ НАСЬЦЕННЫХ ГАЗЭТАХ.

## Насьценная газета ў В. Н. У.

Насьценная газэта зьяўляецца голасам масы. І каб адгукнуцца на ўсе мэты і патрэбы савецкай улады нам патрэбна цэлая сыстэма друкаваных і насьценных газэт—рупараў масы.

Насьценная газэта зьяўляецца адным з відаў друку, які бярэ на сябе мэту высьвятляць меснае жыцьцё—жыцьцё фабрыкі, прадпрыемства, навучальнай установы і г. д.

Насьценная газэта зьвязвае жыцьцё мясцовай організацыі з агульным жыцьцём, яна зьяўляецца цэнтрам грамадзкае думкі. Насьценную газэту можна разглядаць, як фактар актыўнасьці абкружаючага асяродзьдзя.

У ўмовах ВНУ—насьценная газэта павінна мець вялікую ролю.

У кожным нумары „Чырвонага Сьцягу" будуць давацца агляды насьценных газэт усіх ВНУ, тэхнікумаў і г. д. Таксама будуць давацца прыклады пастаноўкі газэт. Трэба толькі, каб самі рэдакцыі трымалі сувязь з „Чырвоным Сьцягам" прысылаючы свае газэты дзеля агляду іх.

### Мэты насьценнай газэты.

Насьценная газэта—гэта самы бліжэйшы орган масы. Вось чаму яна павінна на ўсе 100 проц. быць мясцовай. Вядома, абыходзіць вялікія здарэньні (як сьвята Кастрычнікавай рэволюцыі, 1 мая і г. д.) нельга. Трэба толькі, каб гэтыя здареньні высьвятляліся пад кутком рэагаваньня студэнцтва на гэтыя факты.

У газэце, як люстры, павінна адбівацца жыцьцё даннае ВНУ, факультэту, тэхнікуму, Газэта кіруе грамадзкім жыцьцём, праводзіць барацьбу з хібамі студэнцкага жыцьця, кіруе організацыяй новага.

Вось мэты насьценнай газэты.

### На што павінна зьвярнуць увагу насьценная газэта.

Першае, на што трэба зьвярнуць увагу кожнай насьценнай газеце—гэта на ўцягваньне ўсіх студэнтаў у працу насьценнай газэты. Насьценная газэта—гэта студэнцкі будзька, яна павінна глядзець за студэнтамі, якія адрываюцца ад грамадзкай працы, за студэнтамі якія шмат працуюць, за адносінамі студэнтаў да грамадзкіх пытаньняў.

Крытыка працы студэнцкіх організацый, выяўленьне іх працы, (гурткі, студ. і профорганізацыі ў ВНУ) прыцягваньне ўвагі студэнтаў да працы гэтых організацый—вось грамадзкія мэты насьценнай газэты.

У нашых насьцен. газэтах вельмі часта (а то і зусім) няма студэнцкай крытыкі, крытыкі мас організацый студэнцтва.

Газэта павінна наглядаць за ўсімі пытаньнямі, якія цікавяць студэнцтва, таксама і тады, калі гэтыя пытаньні выходзяць з рамак ВНУ (пытаньні сучаснай мэдыцыны, пэдагогікі, літаратуры і г. д.)

Пытаньні вучобы рэформы выкладаньня—балючае месца ў жыцьці навучальных устаноў. На іх трэба зьвярнуць большую увагу, бо ад іх залежыць, наколькі студэнт набраў ведаў за той час, які ён быў у ВНУ, тэхнікуме.

Трэба прыцягваць студэнцтва да пытаньня рэформы выкладаньня, абгаворваць усе прапанованыя мэтоды, даваць ім ацэнку. Лаяць, дзе трэба, сучасныя мэтоды, паказваючы, чаму яны дрэнныя.

Узаемаадносіны—сувязь з настаўнікамі, профэсарамі—гэта таксама пытаньне вельмі важнае. Напрыклад, у газэце „Медфаковец“ (орган профкома и ячеек КПБ и ЛКСМБ медфака БГУ) зачэплівалася гэта пытаньне, выказваліся студэнты, як яны думаюць мацніць гэту сувязь, сувязь вельмі патрэбную.

Трэба ня толькі абгаворваць, але і глядзець за тым, што ёсьць. Працягнуць там, дзе трэба—бо гэта іншых прымушае падцягнуцца.

Далей—пытаньні быту, 3—5 гадоў у навучальнай установе зьяўляюцца рашаючымі ў сэнсе пабудаваньня сьветапагляду ў студэнта.

Вось і мэта (а трэба адзначыць—мэта вельмі вялікая) насьценнай газэты—спыняць увагу на пабудаваньні ў студэнцтва пролетарскай моралі, будаваньні новага быту.

Старое яшчэ ёсьць і сярод студэнцтва, яго трэба высьвятляць, змагацца з ім. Гэта—мэта насьценнай.

Залік „сналету“, „падлізваньне“ да настаўнікаў, „злосны акадэмізм“ і г. д.—усе гэта насьценная газэта павінна выяўляць, выказваць.

Новае, што ёсьць—трэба высьвятляць, паказваць на пераважнасьць яго, заклікаць усіх да ўтварэньня гэтага новага-лепшага.

Насьценная газэта—гэта таксама арэна грамадзкага жыцьця ў малым маштабе. Вось чаму і выяўленьню творчасьці студэнта (ва ўсіх галінах працы) у насьценнай газэце павінна быць адведзена значнае месца. Выяўляць і дапамагаць—гэта таксама мэта газэты.

Гумар і сатыра—маюць сваю цану ў насьценнай. Яны ажыўляюць газэту. Малюнак, карыкатура—памацняюць уражаньне чытача.

Паштовая скрынка—гэта ня месца „ня пойдзе“, „слаба“ „пішэце“, а месца парадаў, растлумачаньняў, паказаньняў.

## Тэхніка газэты.

Газэта насьценная—чытаецца заўсёды стоячы; вось чаму трэба, каб форма яе была больш у шырыню. а ня ўверх. (У гэтым трэба адзначыць газэту Менскага Яўрэйскага ПэдтэхнІкуму). Трэба, каб шрыфт быў ясны, выразны, артыкулы былі зьменшаны ў сыстэме, былі лёзунгі, канцоўкі, застаўкі, малюнкі. Газэта павінна быць яркай. Больш малюнкаў, карыкатур—лепей, бо яны ажыўляюць газэту.

Загалоўкі артыкулаўр, аддзелаў павінны быць яскравымі і кароткімі.

Трэба каб газэта выходзіла рэгулярна, з сьвежым матэрыялам. Да працы прыцягнуць гурток студкораў, ячэйкі, гурткі, організацыі і ўсіх студэнтаў.

Трэба практыкаваць організацыю вечароў газэты, дзе выяўляць недахопы яе, зьвяртаць гэтым самым увагу мас да яе.

Трэба, каб рэдколегія толькі рэдагавала газэту, а ня пісала яе, як гэта ў нас вельмі часта бывае.

Насьценная газэта—лепшы праваднік комуністычнага і профэсыянальнага ўплыву на беспартыйнае студэнцтва, яна зьяўляецца адным з сродкаў сувязі з масай, з яе запытаньнямі, яна паказвае шляхі да здавальненьня інтарэсаў масы, яе патрэб.

Ад правільнай пастаноўкі справы насьценнай газэты, ад уцягваньня масы ў працу газэты залежыць і выкананьне тэй ролі, якую яна мае.

### З літаратуры аб насьценных газэтах:

Маскоўскій камітэт РКП(б)—„Рабкор и стенная газета“ выд. „Новая Москва“ 1924 г. 72 стар.

М. Чарны—„Газета на стене“. „Уралкнига“ Кацярынбург 1924 года стар. 88—40 к.

А. Лабоўскі—„Стенная газета“. „Новая Москва“ 1924 года стар. 103, ц. 45 к.

Іпаліт і Кін В. „Памятка Юнрабкора“. „Молодая гвардия“ 1925 г. стар. 85. Ц. 35 к.

„Стенгазета“—зборнік артыкулаў пад рэдакцыяй А. Ефіміна і С. Інгулава, Выд. „Работник просвещения“ 1925 г. Масква 153 стар. Ц. 80 коп.

---

**„Медфаковец“—**насьценная газэта Профкому і ячэек КПБ і ЛКСМБ медфаку БДУ № 12.

„Медфаковец“ вышаў ужо дванаццатым нумарам і спраўляе свой, праўда, малы юбілей. За год свайго існаваньня газэта значна ўзрасла. „Медфаковец“—вялізная газэта з добрым надворным выглядам. Добры загаловак, ясны друк, шмат малюнкаў, карыкатур, ілюстрацый, канцовак. У гэтым вялікі кошт газэты. Трэба яшчэ з тэхнічнага боку паказаць на адзін вельмі добры факт: газэта друкуецца на добрай тоўстай паперы на шырокіх кусках. Гэта прыдае ёй большую прыгожасьць. Такі спосаб можна рэкомэндаваць і нашым іншым газэтам.

З боку зьместу ўвесь № 12 прысьвечан сваёй гадавіне. Перадавая—успаміны; профэсура аб насьценгазэце (трэба адзначыць, што й яна прымае ўдзел); тэхнічны працаўнік мэдфаку аб газэце (вось гэтых дык амаль ня відно ў газэце).

Далей—быт; ён нейкі вымучаны. Няма мэтавай устаноўкі ў кожным артыкуле. Насьценным газэтам ня трэба зьмяшчаць матэрыял затым толькі, што хто-небудзь прыгожа абмаляваў абразок жыцьця. Трэба зьмяшчаць толькі тады, калі гэты малюнак мае практычны інтарэс: ці паказвае на хібы працы, быту, ці гаворыць аб дасягненьнях, аб новым быце.

У № 12 адчынілася цікавая дыскусія аб насьценгазэце—гэта адозвы чытачоў. Гэтакі куток у газэце вельмі патрэбен; вось толькі дыскусыйныя артыкулы вялікія.

У газэце зусім ня відно працы студкораўскага гуртка (яго дагэтуль і няма), ня відно студэнцкіх корэспондэнцый.

Адмоўным бокам газэты зьяўляецца таксама і тое, што дасюль яна выдаецца выключна на расійскай мове. Відно, што на мэдфаку да студэнтаў беларуская мова не прывіваецца.

Выправіўшы ўсе гэтыя недахопы, „Медфаковец“ можа зрабіцца сапраўдным рупарам, пропагандыстым і організатарам мэдфакаўскага студэнцкага колектыву.

**„Glos PTK“.—Насьценная газэта польскага пэдагогічнага тэхнікуму ў Менску № 7.**

Першае, што кідаецца ў вочы, гэта малы формат, няўдалыя малюнкі і карыкатуры, і ўся газэта мае нейкі няўдалы від. Ёсьць у тэхнікуме сілы, каб павялічыць разьмер насьценнай газэты, але яна чамусь не павялічваецца.

З боку зьместу ёсьць недарэчнасьці: доўгі артыкул аб Эспэранто, замест таго, каб высьвятліць, што практычна дасягнуў добры гурток эспэрантыстаў. Дзе лісты з-заграніцы?.. Быту няма зусім, ёсьць толькі „Гумар і Сатыра“. Няўжо ўвесь быт тэхнікумаўцаў—гэта гумар і сатыра?

Ня відно агульнага ўдзелу ўсіх тэхнікумаўцаў. Неяк здаецца, што газэта выходзіць дзеля саміх удзельнікаў газэты.

Трэба больш увагі зьвярнуць насьценнай газэце. У гэтым нумары „Чырвонага Сьцягу“ ёсьць добры артыкул аб тым, якой павінна быць насьценная газэта.

Трэба азнаёміцца з іншымі газэтамі працаўнікам газэты польскага пэдтэхнікуму.

---

**Эмэс.**

**„Комюгіст“—насьценная газэта яўрэйскага пэдтэхнікуму ў Менску.**

*№ 15, кастрычнік 1925.*

Вельмі значную ролю для насьценнае газэты мае яе формат, бо яна амаль усюды выходзіць у абмежаванай колькасьці экзэмпляраў, большай часткай у вадным, значыць, павінна выдавацца ў такім формаце і разьмеркаваньні матэрыялу, у якім лепш за ўсё было-б чытаць большаму ліку таварышоў зразу.

З гэтага боку „Комюгіст“ можна паставіць у прыклад усім іншым насьценгазэтам. Матэрыял у ім разьмяркован ня ўверх, а ўшыркі, так што, прыблізна, чалавек 20 могуць чытаць адначасова. Бяда толькі ў тым, што ў гэтым-жа нумары ёсьць увага ад рэдакцыі, што гэты нумар выходзіць у павялічаным разьмеры; адсюль вывад, што ўся тая пераважнасьць, на якую паказана вышэй, ёсьць выпадковая. Застаецца пажадаць рэдакцыі „Комюгіст“ выдаваць і далей газэту у гэткай-жа форме.

Кідаецца ў вочы яркасьць, ілюстраванасьць газэты. З гэтага боку яна надта добрая. Амаль кожны артыкул ілюстраваны адпаведнымі малюнкамі, выразкаю з газэт, а там, дзе патрэбна, і карыкатурай.

Цяцер—аб зьмесьце газэты. Тут неабходна адзначыць значны недахоп: быт у газэце займае зусім мала месца, няма адбітку жыцьця тэхнікуму. Затое вельмі вялікі літаратурны аддзел, які, трэба сказаць, займае месца зашмат, а трэба, каб было якраз наадварот: трэба больш увагі быту студэнтаў.

Трэба адзначыць яшчэ адзін вельмі цікавы і карысны аддзел, як прыклад усім іншым газэтам: „комюгіст учыць, як пісаць“. У гэтым аддзеле рэдакцыя разглядае той матэрыял, які паступае ў газэту, і дае яму ацэнку. Апрача таго, паказвае на тэхніку складаньня корэспондэнцый. За гэта „Комюгіст“ трэба вітаць.

# ХРОНІКА.

## ПА БССР.

— **У Галоўпрофасьветы**.—Па пастанове Галопрофасьветы водпуск на зімовыя вакацыі па ўсіх ВНУ і тэхнікумах адбудзецца з 15 студзеня 1926 г. па 15 лютага, апрача С.-Г. Акадэміі, дзе водпуску ня будзе зусім.

— Лік прынятых у гэтым годзе ў вышэйшыя школы студэнтаў выяўляецца гэтак: у с.-г. акадэмію прынята—302 ч., (у тым ліку 39 жанчын), у БДУ—464 (142 жанчыны), у Віцебскі вэтэрын. інстытут—100 (10 жанчын). Усяго ў вышэйшыя школы прынята 675 мужчын і 191 жанчына, з якога ліку рабочых—133 (15,4 проц.), сялян—384 (44,3пр.), служачых—308 (35,6 проц.), беларусаў—511 (59 проц.), яўрэяў—253 (29,2 проц.), палякаў—47 (5,4 проц.), вялікарусаў—37 (4,2 проц.).

У рабфакі БССР прынята 307 мужчын і 65 жанчын, з іх рабочых—135 (36,3 проц.), сялян—226 (60,8 проц.), служачых—7 (1,8 проц.), беларусаў—279 (75 проц.), яўрэяў—63 (16,9 проц.), палякаў 6 (1,6 пр.), вялікарусаў — 16(4,3 проц.).

У тэхнікумы БССР прынята наогул—458 мужчын і 418 жанчын, з іх рабочых—104 (11,9 проц.), сялян—435 (49,6 проц.), служачых—230 (26,3 проц.), беларусаў—622 (71 проц.), яўрэяў—217 (24,8 проц.) палякаў—21 (2,9 проц.). вялікарусаў—12 (1,4 проц.).

— **У ЦБ Пролетстудэнцтва Беларусі.**—Са згоды ЦСПСБ у Магілеве, у хуткім часе, павінна організавацца Гарадзкое Бюро пролетарскага студэнцтва, якое будзе аб'яднаць студэнцтва тэхнікумаў: Пэдагогічнага, Фэльчарскага, Акушэрскага і Зямлябудаўнічага і слухачоў Акруговай Партыйнай Школы.

— **Па навучальных установах.**—3 сьнежня адбылася нарада партактыву працаўнікоў БДУ, на якой прынята пастанова аб утварэньні адзінай унівэрсытэцкай ячэйкі з комуністых асноўных факультэтаў: мэдфаку, пэдфаку і ф-ту права і мясцовае гаспадаркі.

— У БДУ на сталую працу прыехаў вядомы профэсар-моваznаўца Бузук, які зойме катэдру гісторыі беларускае мовы.

— 31-га кастрычніка на пэдфаку БДУ адбыўся вечар, прысьвечаны Заходняй культуры, на якім выступала профэсура, што была за межамі: тав. Пічэта—аб Польшчы, т. Перабіла—аб Нямеччыне і інш.

— 28-га кастрычніка адбылося ўрачыстае адчыненьне Усебеларускае С.-Г. Акадэміі імя „Кастрычнікавае Рэволюцыі" ў Горках, Аршанскае акругі. Акадэмія атрымала шмат прывітаньняў з усіх канцоў СССР.

— Проф. БДУ—С. З. Кацэнбоген выехаў на сталую працу ў Маскву. Перад ад'ездам з Менску ім быў зроблены даклад у навуковым вобчастве пры БДУ на тэму: „Марксыцкая дыялектыка і мэханічнае сьветасузіраньне". Пасьля дакладу проф. С. Кацэнбоген быў абраны ганаровым сябрам навуковага вобчаства.

— Проф. БДУ—С. Я. Вальфсон мяркуе прачытаць шэраг лекцый аб культуры. Першая лекцыя на тэму „Пролетарская культура і шляхі яе разьвіцьця" адбылася 29 лістапада.

— **У Інбелкульце**.—Літаратурная камісія ІБК занята зараз падрыхтоўкай выданьня збору твораў беларускіх пісьменьнікаў. У першую чаргу будуць выданы творы М. Багдановіча, Алеся Гаруна, Ш. Ядвігіна, Цёткі і інш.

— Бібліотэка ІБК абменьваецца кнігамі з культурнымі ўстановамі Латвіі, Польшчы, Літвы і Зах. Беларусі.

— Географы Азбукін і Смоліч апрацавалі насьценную фізычную карту Беларусі для школ у маштабе 1:500.000, патрэба ў якой ужо даўно адчуваецца. Карта зьмешчана на 4 вялікіх аркушах і ўжо вышла з друку.

— Заканчваецца абсталяваньне беларускага музэю прыроды пры ІБК. Экспонаты для музэю складзены экспэдыцыямі ІБК. Ужо прыведзены ў музэйны выгляд колекцыі глебавых монолітаў і ўстанаўляюцца геолёгічныя экспонаты карысных вывыкапальных Беларусі.

— Проф. Лунзгэрсгаўзэнам праведзен маршрут геологічных вышукаў у басэйне Зах. Дзьвіны. Пройдзена каля 700 кілёмэтраў. Устаноўлены асноўныя тыпы геолёгічных формацый Паўночнай Беларусі.

### У ЦБ „Маладняка“.

**— У „Маладняку“.**—ЦБ „Маладняка“ складаецца, пасьля зьезду, з наступных т.т.: Старшыня—М. Чарот; адказны сэкратар—А. Александровіч, літсэкратар—Я. Пушча; заг. оргаддзелу—А. Вольны; заг. выхаваўчага аддзелу—М. Зарэцкі і Шукайла (Слуцак), Гарашчанка (Гомель), Гэсэн, Самахвалаў, Дубоўка, Бабарэка.

**Маладнякоўскія кніжкі**. У вапошнія часы вышлі з друку наступныя маладнякоўскія кніжкі: П. Трус (вершы), К. Чорны—„Срэбра жыцьця“ (апавяданьні), А. Дудар—„Сонечнымі сьцежкамі“ (вершы), А. Гурло—„Спатканьні“ (вершы), А. Александровіч — „Сутарэньне“ (апавяданьні), Крапіва (апавяданьні—сатыры) і Ул. Дубоўка—„Credo“ (вершы). Усе гэтыя кніжкі можна набыць у кнігарнях БДВ.

**Падрыхтоўка кніг да выданьня.** Здадзены ў арук і ў хуткім часе выйдуць гэткія маладнякоўскія кніжкі (выданьня ЦБ „Маладняка“): М. Чарот—„Карчма“ (поэма), Ан. Вольны—„Чарнакудрая радасьць“ (тры поэмы), А. Дудар--„Шанхайскі шоўк“ (поэма), Слуцкія песьняры (П. Шукайла, Сукала, Атава, Відук і Чырвань); Янка Бобрык, А. Звонак і Я. Туміловіч—„Пунсовае раньне“ (вершы), Бандарына, Вішнеўская, Е. Пфляўмбаўм (вершы) Я. Пушча „Vita„ (вершы) і О. Уайльд—„Баляда Рэдынгскай турмы“ (пераклад з ангельскай мовы Дуброўскага).

Апрача гэтых, здаецца ў друк цэлы шэраг новых кніжак, у тым ліку пераклад з грэцкае мовы—„Антыгона“—Сафокла (пераклад Дрэйзіна Ю.).

**— Рознае.**—Белар. Дзярж. Унівэрсытэт устанавіў сувязь з гістарычным таварыствам Львоўскага унівэрсытэту.

БДУ з названым унівэрсытэтам будзе абменьвацца сваімі навуковымі выданьнямі.

— Прэзыдыум Менскага Акрвыканкому назначыў для студэнтаў С.-Г. Мар'іна-Горскага тэхнікуму, якія паходзяць з Менскае акругі, 7 стыпэндый па 10 руб. кожная ў месяц.

— Да юбілею 400-годзьдзя друку на Беларусі будзе выдана брошура Мік. **Шапавалава** аб Ф. Скарыне.

## ПА СССР.

— Прэзыдыум Усесаюзнага ЦК мэталістых пастанавіў адпушчаць штомесячна на дапамогу пролетарскаму студэнцтву Масквы—5.500 р., Ленінграду—4.500 руб. Агульны лік стыпэндыяў ЦК мэталістых азначана для Масквы—625, а для Ленінграду—500.

— У Бакінскім дзяржаўным унівэрсытэце студэнты-пэрсы арганізавалі зямляцтва, якое аб'ядзнае больш 600 студэнтаў-персідзкіх падданных. Ганаровым старшынёю зямляцтва абраны персідзкі консул у Баку.

— У Ленінград прыязджае экскурсія амэрыканскіх студэнтаў—турыстых пад кіраўніцтвам вядомага проф. Кольлейн. Экскурсія ўжо выехала з Амэрыкі. Яна мяркуе абглядзець Ленінградзкія вучоныя і навучальныя ўстановы і музэі.

— У II томе архіву Інстытуту К. Маркса і Ф. Энгэльса, які рыхтуецца да друку, будзе надрукавана праца К. Маркса, якая невядома нават заграніцаю: „Барацьба між Гораю і Жырондаю". Праца адносіцца да пэрыоду 1843 году, калі Маркс думаў пісаць гісторыю Конвэнту і рабіў выпіскі з розных прац.

— Пры музэі Рэволюцыі СССР адчыняецца аддзел па гісторыі руху дэкабрыстых.

## ЗА МЕЖАМІ.

— **Заходняя Беларусь.**—У Вільні апошнімі днямі адбыўся агульны сход студэнтаў-беларусаў Віленскага унівэрсытэту, на якім адбыліся перавыбары ўправы саюзу. Для нагляду за дзейнасьцю саюзу унівэрсытэтам быў вызначан проф. Уладычка, які і надалей застаецца „апякуном" саюзу, каб „абараняць" яго ад „шкодных" бальшавіцкіх уплываў.

— У Вільні вышаў з друку № 5 беларускай студэнцкай часопісі „Студэнцкая думка".

— У Вільні вышла з друку новая газэта на беларускай мове пад назваю „Беларуская Ніва", якая выдана замест зачыненае газэты „Беларуская Крыніца".

— Адміністрацыйная ўлада Польшчы конфіскавала апошні нумар „Бюлетэню соймавага клюбу Беларускай сялянска-рабочай грамады.

— **Польшча.**—Польскі ўрад дзеля ашчаднасьці скасаваў у Пазнаньскім унівэрсытэце мэдыцынскі, с.-гаспадарчы і лясны факультэты.

— Міністэрства асьветы зачыніла ў Віленскім унівэрсытэце сельска-гаспадарчы аддзел.

— Львоўская паліцыя арыштавала профэсара Львоўскага політэхнічнага інстытуту інжынэра Пайкарта, абвінавачанага ў падробленьні 100-даляравых банкнотаў. У лябораторыі Пайкарта знойдзена шмат прылад дзеля падробленьня грошай.

— **Літва.**— З Коўны паведамляюць, што 8-га лістапада пасьля мітынгу, скліканага соцыялістычнай моладзьдзю ў унівэрсытэце, група студэнтаў узьняла бойку. У выніку бойкі многія студэнты паранены. Паломана і папсавана шмат прылад. Многія залі прыведзены ў такое становішча, што шмат часу патрэбна будзе на прывядзеньне іх у парадак.

— **Чэха-Славаччына.**—У пачатку 1925-26 вучэбнага году ў Праскім унівэрсытэце лічылася 7.856 студэнтаў, у тым ліку на багаслоўскім факультэце—29, на прававым—3.095, на мэдыцынскім—2.026, на філёзофскім—1.473, на прыродазнаўчым—1.263. Сярод студэнтаў 1.168 замежных грамадзян.

— **Эстонія.**—У Юр'еве закончыўся суд над студэнтамі за комуністычную дзейнасьць. Вайсковы суд прысудзіў 2 студэнтаў па 8 г. катаргі і 3—па 6 г. катаргі кожнага.

— **Румынія.**—Урад Румыніі зачыніў студэнцкія саюзы, у якіх бяруць удзел комуністыя. Выхад газэты, што выдаецца саюзам студэнтаў, забаронены.

— **Японія.**—У Кіёто арыштавана больш 30 студэнтаў юрыдычнага факультэту, нібыта, за ўдзел у соцыялістычным руху. Усе арыштаваныя зьяўляюцца сябрамі таварыства па вывучэньні соцыяльных навук.

— **Амэрыка.**—Нью-Ёрскі унівэрсытэт выпраўляе ў кругасьветнае падарожжа спэцыяльна пабудованы для гэтай мэтры параход з 450 студэнтамі і 50 профэсарамі.

У часе ўсяго падарожжа ў гэтым „плывучым“ унівэрсытэце будуць адбывацца рэгулярныя заняткі. Мэта падарожжа—азнаемленьне з іншымі дзяржавамі.

— **Нямеччына.**—У Мюнхэне адчыніўся музэй прыродазнаўчых навук і тэхнікі. У ім будзе паказаны гістарычны працэс разьвіцьця тэхнікі.

## Ліст у рэдакцыю ад рэдколегіі насьценнай газэты Рагачоўскага Белпэдтэхнікуму.

Паважаныя таварышы!

Гэтым лістам рэдколегія насьценгазэты ад імя корэспондэнцкага гуртка зьвяртаецца да Вас за радай. Справа вось у чым: пачынаючы з мінулага году і да гэтага часу ў Рагачоўскім тэхнікуме пануе думка аб выданьні свае часопісі. У мінулым годзе яе не ўдалося ажыцьцявіць. На нашу долю выпадае яе ажыцьцяўленьне, але гэтаму перашкаджае цэлы шэраг цяжкасьцяй. Калі да іх яшчэ дадаць думку часткі нашага студэнцтва аб непатрэбнасьці выданьня свае часопісі дзякуючы таму, што ў нас існуе агульная часопісь „Чырвоны Сьцяг“, куды, паіхнему, і трэба пісаць, то наша становішча яснае. Як-бы там ні было, а мы просім Вашае рады адносна гэтага і просім высьвятліць гэткія пытаньні: 1) ці патрэбна нам выдаваць сваю тэхнікумаўскую часопісь; 2) калі патрэбна—дайце паказаньні ў гэтым напрамку.

З тав. прывітаньнем рэдколегія { **Х. Багдановіч.** **М. Варшаўскі.**

## Адказ рэдакцыі.

Паважаныя таварышы!

Рэдакцыя лічыць, што выдаваць Вам сваю часопісь не патрэбна і вось дзеля чаго:

Ваш тэхнікум налічвае вельмі мала студэнцтва, а выдаткі па выданьню часопісі будуць вельмі вялікія, і Вы будзеце мець шмат дэфіцыту на кожным нумары, а пазбавіцца ад яго Вы ня будзеце мець магчымасьці. Ды й выданьне часопісі, якая-б выходзіла акуратна, патрабуе шмат працаўнікоў і сіл, якіх у Вас ня знойдзецца. У выніку—пасьля 2-3 нумароў часопісь перастане існаваць.

Аднэй з сваіх мэт Вы ставіце абмен вопытам. Але з кім Вы будзеце абменьвацца, калі часопісь будзе выдаваць толькі адзін Ваш тэхнікум? Гэта можа быць толькі ў часопісях, якія выдаюцца аб'яднаньнем навучальных установ. Усе Вашы матэрыялы мы можам скарыстаць у „Чырвоным Сьцягу“, які трэба распаўсюджваць сярод Вашых слухачоў, бо ў „Чырвоным Сьцягу“ Вы знойдзеце больш таго вопыту, якога шукаеце.

